Літ

Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

## У нумары:

**Раман у кадры**

*Георгій Марчук аналізуе праблему літаратура-цэнтрычнасці беларускага кіно* 4

**Трэба шукаць. І знаходзіць!**



*Янка Сіпакоў святкуе 75-гадовы юбілей, вызначае ідэальны стан для таго, каб пісаць, і расказвае пра сваю апошнюю кнігу "Зубрэвіцкая сага"* 6

**Класічны свінтус**



*Прэм'ера рубрыкі "Тэатральная пятніца": "Хто смяецца апошнім" — дакладна ведаюць у Мінскім абласным драматычным тэатры* 12

**Выпадковасць — заканамернасць — традыцыя**



*Музей сучаснага выяўленчага мастацтва ладзіў выставу "Кола агню" па выніках VIII Міжнароднага пленэру "Арт-Жыжаль"* 15

**У «люстэрку» кніжнай палаты Беларусі**



*Дырэктар Нацыянальнай кніжнай палаты Беларусі Алена Іванова разважае пра тэндэнцыі сучаснага кнігавыдання*

*Дадатак "Кніжны Свет"*

**Кантрасты кніжнай графікі**

*Мастак Міхаіл Басалыга: таленты павінны заставацца на радзіме*

*Дадатак "Кніжны Свет"*

# Таямніца генія

**12 студзеня споўнілася 70 гадоў з дня нараджэння Уладзіміра Мулявіна — музыканта-легенды, куміра некалькіх пакаленняў, народнага артыста БССР і СССР, лаўрэата многіх конкурсаў, фестываляў, прэмій ЛКСМБ і ВЛКСМ, кавалера ордэна Францыска Скарыны.**

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**
**фота Кастуся Дробава**

Геніем яго пачалі называць яшчэ пры жыцці. І нашмат раней да таго, як Уладзіміра Мулявіна, стваральніка і лідара "Песняроў", увянчалі высокімі афіцыйнымі званнямі. Богам пацалаванаму Артысту спадарожнічала свая таямніца. Бо як жа яшчэ, калі не містыкай лёсу, вытлумачыць, чаму няўгледны вандроўны геній музычнай творчасці, паблукаўшы па ўрадлівай на таленты беларускай зямлі, памкнуў далёка ўглыб суседняй Расіі, каб там знайсці ўнікальнае ўвасабленне? Увасабленне ў спеўнай душы рускага хлопца, якому было наканавана спрычыніцца да спаконвечных святых асноў беларускасці — мовы, фальклорных мелодый, народнай і класічнай нацыянальнай паэзіі; скарыстаўшы досвед эстраднага мастацтва, адрадзіць іх для знявераных і зніякавелых савецкіх беларусаў эпохі застою ды панесці ў вялікі свет беларушчыну: самабытную і сучасную, здатную заняць свой пачэсны пасад...

Пра тое, што Уладзімір Мулявін з "Песнярамі" зрабіў для нашай краіны, для айчыннага мастацтва, распавядаюць архіўныя матэрыялы, музейныя экспазіцыі, старонкі перыядычных выданняў і ёмістых кніг. Незабыўны для старэйшага пакалення голас Мулявіна, яго абліччa ведае і моладзь: ёсць жа дакументальныя стужкі, фотаздымкі, аўдыёзапісы. Ды хтосьці, мабыць, заспеў і яго жывыя канцэрты: не так ужо й даўно музыкант пакінуў гэты свет — восем гадоў таму, такой вось зімовай часінай, 26 студзеня... Не варта разважаць, якім было б мінулае дзесяцігоддзе ў творчасці генія, калі б на яго зямным шляху не здарыліся і містычная аўтакатастрофа, і роспачна-безвыходнае існаванне ў бальнічнай палаце. Варта зважаць на той магутны мулявінскі ўплыў, які, насуперак хуткаплыннай модзе ў шоу-індустрыі, адчуваецца на сённяшняй эстрадзе. І арыгінальныя творы, і аранжыроўкі Мулявіна — кшталту старой, добрай, вечнай класікі — запатрабаваныя: іх выконваюць, слухаюць, спяваюць у бяседзе. Ёсць конкурс яго імя — для маладых спевакоў. А прафесійныя музыканты, пасля нядаўняга ўзнаўлення (адразу ў двух праектах!) паэмы-легенды "Гусляр" ("Курган") Купалы — Лучанка — Мулявіна, марaць пра вяртанне на сцэну іншых твораў буйной формы з рэпертуару мулявінскага ансамбля.

Сёлетні юбілей Уладзіміра Георгіевіча адзначаны выхадам альбома "Шчаслівасць" Беларускага дзяржаўнага ансамбля "Песняры". Прэзентацыя дыска прайшла днямі ў Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы, а неўзабаве адбудзецца гастрольны тур музыкаў па гарадах Расіі з праграмай, у якой прагучаць і гэтыя новыя песні на вершы ранняга Купалы, і падборка твораў У. Мулявіна. Яго 70-годдзю прысвячаліся імпрэза, праведзеная заўчора ў Дзяржаўным музеі гісторыі тэатральнай і музычнай культуры Беларусі, ды вялікая праграма ў сталічнай філармоніі, якую разам са сваімі творчымі партнёрамі падрыхтаваў Нацыянальны акадэмічны народны аркестр Беларусі імя І. Жыновіча...

Адмысловы ўплыў Майстра перажываюць яго колішнія спадзвіжнікі, сённяшнія паслядоўнікі, пераемнікі, перайма́льнікі, фанатычныя прыхільнікі... На былым савецкім абсягу то можа сяды-тады не лепшым чынам азвацца сумнавядомае кланіраванне тых, легендарных, "Песняроў", то паплыве чутка нават пра "рэінкарнацыю голасу Мулявіна" ў чыйхсьці спевах... Але ні скапіраваць Мулявіна, ні "творча паўтарыць" зробленае яго калектывам немажліва. Дух няўгледнага генія — вольны і недасяжны для эпігонаў, а яго душа, што гучыць у незабыўных спевах, працягвае, следам за песняром-Купалам, сэрцам і думамі маліцца небу. За родны народ Беларусі...



***На здымку:** Уладзімір Мулявін падчас канцэрта (сярэдзіна 1970-х гадоў).*

## Узнагароды

# Аляксандр Лукашэнка ўручыў прэміі «За духоўнае адраджэнне» і спецыяльныя прэміі дзеячам культуры і мастацтва 2010 года

За актыўную дзейнасць у гуманітарнай галіне, што садзейнічае захаванню і памнажэнню нацыянальнага культурнага здабытку, выхаванню ў моладзі любові да Айчыны, умацаванню духоўных каштоўнасцей і мастацка-маральных традыцый, ідэй чалавекалюбства, дабрачыннасці і міласэрнасці, прэмія Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь "За духоўнае адраджэнне" 2010 года прысуджана:

архіепіскапу Полацкаму і Глыбоцкаму Феадосію (Більчанку Паўлу Захаравічу), кіраўніку мясцовага рэлігійнага аб'яднання "Полацкая епархія Беларускай праваслаўнай царквы", — за актыўную духоўна-асветную дзейнасць, значны ўклад у захаванне міжканфесійнага міру і нацыянальнай згоды;

бацькам-выхавальнікам дзіцячага дома сямейнага тыпу аддзела адукацыі адміністрацыі Першамайскага раёна г. Бабруйска Магілёўскай вобласці Сянцовым Тамары Аркадзьеўне і Уладзіславу Анатольевічу — за шматгадовую плённую працу па выхаванні дзяцей-сірот і дзяцей, якія засталіся без апекі бацькоў;

ігумені Еўдакіі (Ляўшук Любові Пятроўне), настаяцельніцы рэлігійнай арганізацыі "Спаса-Ефрасіннеўскі жаночы манастыр у г. Полацку Полацкай епархіі Беларускай праваслаўнай царквы", — за значны асабісты ўклад у духоўнае адраджэнне Беларусі, выдавецкую, духоўна-асветную дзейнасць, плённую працу па захаванні гісторыка-культурнай спадчыны;

калектыву ўстановы "Гомельскі абласны дзіцячы цэнтр медыцынскай рэабілітацыі "Жывіца" — за плённую дзейнасць па развіцці сістэмы медыцынскай рэабілітацыі дзяцей Гомельскай вобласці і ўкараненні сучасных тэхналогій, якія даюць магчымасць адаптаваць хворых дзяцей і дзяцей-інвалідаў у грамадстве і сацыяльным асяроддзі;

творчаму калектыву рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі" — за стварэнне кніг "Зямля сілы. Белавежская пушча", "Радзівілы. Альбом партрэтаў XVIII — XIX стагоддзяў".

Кіраўнік дзяржавы таксама падпісаў Указ № 5 "Аб прысуджэнні спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь дзеячам культуры і мастацтва 2010 года".

(Працяг на стар. 2).

## Пункціры

Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь зацвердзіў палажэнне аб правядзенні рэспубліканскага конкурсу "Нацыянальная музычная прэмія ў галіне эстраднага мастацтва". Конкурс праводзіцца ў тры этапы і вылучае па адным пераможцы ў наступных намінацыях: "Лепшая песня года", "Лепшы выканаўца", "Лепшы калектыў выканаўцаў", "Адкрыццё года", "Лепшы кампазітар", "Лепшы паэт-песеннік", "Лепшы прадзюсар", "За ўнёсак у развіццё беларускай эстрады".

Самы вялікі храм Віцебска — Свята-Успенскі кафедральны сабор — атрымаў у дар 10 званоў, сярод якіх 300-пудовы гігант. Гэты звон будзе самым вялікім на Беларусі. Званы адлілі маскоўскія майстры на сродкі расійскіх мецэнатаў. Цяпер званіца Свята-Успенскага сабора будзе складацца з 20 званоў. Пакуль ніводны іншы храм Віцебскай вобласці такой колькасці не мае.

Першы маштабны беларуска-расійскі кінапраект — фільм "Брэсцкая крэпасць" — наміціраваны на расійскую Нацыянальную кінапрэмію "Залаты арол". Разам з "Брэсцкай крэпасцю" ў галоўнай намінацыі прадстаўлены стужкі: "Як я правёў гэтым летам", "Кандагар", "Аўсянкі" і "Край". Усяго на экспертны савет было прадстаўлена 52 мастацкія фільмы. Урачыстая цырымонія ўзнагароджання адбудзецца 21 студзеня 2011 года на кінастудыі "Масфільм".

У Брэсце прайшоў XXIII Міжнародны фестываль класічнай музыкі "Студзеньскія музычныя вечары". У межах фестывалю было праведзена шэсць канцэртаў, падчас якіх музыканты і вакалісты з 13 краін свету выконвалі шэдэўры заходнееўрапейскай, рускай і беларускай музыкі. Удзел у фестывалі прынялі 11 аркестравых калектываў.

Адноўлены Беларускі дзяржаўны цырк адчыніў дзверы для гледачоў якраз напярэдадні зімовых канікулаў. Наведвальнікі – у захапленні. І ад праграмы, у якой выступалі белыя тыгры, і ад новага выгляду цырка. Дарэчы, побач са старым будынкам узніклі яшчэ два – асобны корпус для білетных кас і рэпетыцыйны шасціпавярховы манеж. Створаны таксама камфортныя ўмовы для дрэсіраваных звяроў – спецыяльны ліфт, душавая, сховішча для апілак і саломы і нават ветэрынарная клініка.

На працягу навагодніх свят у вёсцы Меркулавічы Чачэрскага раёна Гомельскай вобласці працавала сядзіба Дзеда Мароза і Снягуркі. Адкрылася яна на базе мясцовага Дома культуры. Гасцям казачнага дзеда прапанавалі падарожжа па чароўным маршруце: вясёлы стадыён, млын жаданняў, калодзеж сюрпрызаў, музычны феерверк. А таксама прагулку на конях у зімовы лес і пачастункі з гарачай гарбатай. Падобны праект на тэрыторыі раёна рэалізуецца ўпершыню.

У Магілёве з вялікім поспехам прайшла выстаўка-конкурс зімовага букета "Зімовыя сны старажытнага горада". У экспазіцыі — больш як 200 творчых работ школьнікаў з 40 школ Магілёва, выкрабленых з дапамогай прыроднага і разнастайных дэкаратыўных матэрыялаў, навагодніх аксесуараў. Работы, прызнаныя лепшымі, пасля выстаўкі ўпрыгожылі сацыяльныя ўстановы абласнога цэнтра. Арганізатарамі выстаўкі выступілі аддзел адукацыі Магілёўскага гарвыканкама і гарадская станцыя юных натуралістаў.

Падрыхтавала
Ірына МАСЛЯНІЦЫНА

# Аляксандр Лукашэнка ўручыў прэміі «За духоўнае адраджэнне» і спецыяльныя прэміі дзеячам культуры і мастацтва 2010 года

**(Працяг. Пачатак на стар. 1).**

За выдатныя дасягненні ў галіне выяўленчага, дэкаратыўна-прыкладнога, музычнага мастацтва, народнай і аматарскай мастацкай творчасці, музейнай і бібліятэчнай справы, навучання і выхавання творчай моладзі, якія атрымалі грамадскае прызнанне, спецыяльная прэмія Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь дзеячам культуры і мастацтва 2010 года прысуджана:

абрадаваму калектыву "Цары" Семежаўскага цэнтра культуры і вольнага часу аддзела культуры Капыльскага райвыканкама Мінскай вобласці — за вялікую работу па вывучэнні, адраджэнні і захаванні народных традыцый;

заслужанаму аматарскаму калектыву Рэспублікі Беларусь ансамблю беларускай песні "Церніца" Мінскага Палаца культуры і спорту чыгуначнікаў транспартнага рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства "Мінскае аддзяленне Беларускай чыгункі" — за значныя творчыя дасягненні, актыўную канцэртную дзейнасць;

заслужанаму аматарскаму калектыву Рэспублікі Беларусь цырку "Юнацтва" Палаца культуры адкрытага акцыянернага таварыства "Нафтан" г. Навапалацка — за высокі мастацкі ўзровень цыркавых праграм, актыўны ўдзел у культурным жыцці рэспублікі;

калектыву аркестра народных інструментаў імя народнага артыста Беларусі Іванова Л.Л. установы культуры "Магілёўская абласная філармонія" — за значныя творчыя дасягненні, папулярызацыю беларускага музычнага мастацтва;

калектыву Ганцавіцкага раённага Дома рамёстваў Брэсцкай вобласці — за адраджэнне і захаванне народных рамёстваў, далучэнне моладзі да традыцыйнай культуры;

калектыву ўстановы "Гомельскі абласны музей ваеннай славы" — за значныя дасягненні ў галіне музейнай справы, вялікую работу па патрыятычным выхаванні падрастаючага пакалення;

Сумараву Васілю Фёдаравічу, мастаку-жывапісцу, члену грамадскага аб'яднання "Беларускі саюз мастакоў" — за серыі карцін з цыклаў "Горад майго дзяцінства" і "Зямля маёй маці";

Уласавай Тацццяне Савельеўне, дырэктару Гомельскай гарадской цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы — за ўкараненне інавацыйных форм работы па распаўсюджванні краязнаўчых ведаў сярод насельніцтва;

Яфрэмаву Аляксандру Васільевічу, кінарэжысёру-пастаноўшчыку вышэйшай катэгорыі студыі ігравых фільмаў рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства "Нацыянальная кінастудыя "Беларусьфільм", заслужанаму дзеячу мастацтваў Рэспублікі Беларусь — за стварэнне шматсерыйных тэлевізійных фільмаў ваенна-патрыятычнай тэматыкі "Снайпер. Зброя адплаты", "Замах".

# Духоўнасць як дамінанта нацыі

**"Беларусь па праву славіцца як зямля падзвіжнікаў і мудрацоў, дзе вышэй за ўсё цэняць духоўнасць, асвету і кнігу", — так зазначыў Аляксандр Лукашэнка на ўрачыстай цырымоніі ўручэння прэмій Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь "За духоўнае адраджэнне" і спецыяльных прэмій Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь дзеячам культуры і мастацтва 2010 года. Кіраўнік дзяржавы падкрэсліў, што на зломе вякоў і тысячагоддзяў нацыянальная культура набывае ўсё большую палітычную сілу і значэнне як надзённы гарант захавання ідэнтычнасці і самабытнасці народа.**

Ірына ТУЛУПАВА

Невыпадкова традыцыя падвядзення вынікаў мінулага года на самым высокім дзяржаўным узроўні менавіта ў чароўныя калядныя дні знайшла сваю прыдатную глебу. І моладзь, і людзі сталага ўзросту скіроўваюць сваю ўвагу на духоўнае, на тыя каштоўнасці, што спрадвеку цаніліся і лічыліся галоўнымі ў жыцці.

Уручэнне прэмій стала па сутнасці аглядам творчых дасягненняў краіны. Пятнаццаць сёлетніх лаўрэатаў — людзі розных прафесій і занятках, паходзяць з розных рэгіёнаў і прадстаўляюць усё сукенцае галін і адгалінаванняў культуры. Але, аб'яднаныя вялікай асветніцкай місіяй, найперш нясуць людзям святло дабрыні і духоўнасці. Як не падзівіцца шматгалосаму жыццю ў доме бацькоў-выхавальнікаў дзіцячага дома сямейнага тыпу ў Бабруйску Тамары і Уладзіслава Сянцовых, якія атулілі сардэчным клопатам дзяцей-сірот і дзяцей, што засталіся без апекі біялагічных бацькоў? Упершыню пяць прыёмных дзетак муж і жонка ўзялі на выхаванне ў 1989 годзе. Цяпер у сямейным альбоме Сянцовых 28 фотаздымкаў — сваіх дзяцей і прыёмных; у 2011-м у Тамары і Уладзіслава — ужо пяцёра ўнукаў! І капыляне, што захавалі ў сваёй аўтэнтычнасці абрад "Цары", і палачане, адкуль родам наш першадрукар Францыск Скарына ды апякунка зямлі беларускай Еўфрасіння Полацкая, і гомельскі калектыў "Жывіца", які лечыць хворых дзяцей і дапамагае ім адаптавацца ў сённяшнім жыцці — усе лаўрэаты адзначаны за душэўную шчодрасць, любоў да людзей, суперажыванне, спагаду, міласэрнасць і гуманізм.

"Галоўны прынцып культурнай палітыкі — не толькі захаваць, а і прымножыць духоўныя багацці народа, — падкрэсліў Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка, які першым павіншаваў лаўрэатаў з прысуджэннем высокіх узнагарод. — Мы адраджаем помнікі мінулага, такія, як Мірскі замак, Нясвіжскі палац, Брэсцкая крэпасць. Ствараем новыя шэдэўры — Нацыянальную бібліятэку, Мінск-Арэну, мемарыял на Буйніцкім полі, храм-помнік у гонар Усіх Святых і іншыя маштабныя пабудовы, вартыя стаць візітнай карткай эпохі. Беражом творчыя традыцыі, развіваем мастацкія школы і адкрываем новыя зорныя імёны. Дарогу талентам — гэтыя словы сталі дэвізам сучаснай Беларусі".

Звяртаючыся да творчых людзей, Кіраўнік дзяржавы нагадаў, што яны не павінны забывацца пра сваю сацыяльную, духоўную місію: "Краіна чакае ад вас яркіх, маштабных твораў, якія б выхоўвалі народ у духу традыцыйных ідэалаў і каштоўнасцей. Адлюстроўвалі тыя пазітыўныя перамены, якія адбываюцца ў нашым жыцці. Абуджалі ў маладых сэрцах пачуццё патрыятызму і гордасці за Беларусь".

Традыцыя прымеркаваных да Ражаства Хрыстова сустрэч мае важнае значэнне ў сучасным летапісанні. Дзякуючы ёй нашчадкі зразумеюць тонкасці і адценні нашага часу. На гэта звярнуў увагу Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі, Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт. Насамрэч, гісторыя ў асобах і лёсах — лепшы дапаможнік у спасціжэнні сутнасці ўсіх часоў і народаў.

"Духоўнае адраджэнне — гэта дамінанта нацыі, — падкрэсліў у гутарцы з журналістамі сёлетні лаўрэат, архіепіскап Полацкі і Глыбоцкі Феадосій. — Толькі той, хто выхаваны на духоўных каштоўнасцях, у любові да Радзімы, людзей, і стане годным працаўніком на вытворчасці, выдатным урачом, воінам, патрыётам. І альтэрнатывы духоўнаму адраджэнню грамадства няма".

Прэміі "За духоўнае адраджэнне" былі заснаваныя Указам Кіраўніка дзяржавы 5 студзеня 1997 г.

## Акцыі



# Кнігарня, у якую завітаў Дзед Мароз

**У мінскім "Кніжным салоне" прайшла дабрачынная акцыя. Падарыць свята дзецям, якія знаходзяцца ў прытулку Мінскага раённага сацыяльна-педагагічнага цэнтра, вырашылі гаспадыня кнігарні Ала Зміева і супрацоўнікі РВУ "Літаратура і Мастацтва".**

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА,
фота Кастуся Дробава

Сацыяльнае сіроцтва… Гэта прыкрая хвароба грамадства, на жаль, частка нашай рэчаіснасці. Дзяцей з сацыяльнага прытулку з іншымі не пераблытаеш — яны паслухмяна занялі свае месцы і нават не спрабавалі сваволіць. Ціхенька глядзелі мульцік на вялікім экране тэлевізара. А вось дарослыя вельмі хваляваліся — адна справа сабраць падарункі і адвезці іх у такога кшталту ўстанову, зусім іншая — вось так, вызваліўшы дзяцей з казённых сцен, перанесці іх у казку кніжнай крамы, куды нечакана завіталі Дзед Мароз са Снягуркаю. Быў карагод, гучалі віншаванні, праводзіўся конкурс, хто лепш прачытае верш. І падарункаў было ажно два мяхі! Адзін з цукеркамі, зразумела, а другі — з дзіцячымі кніжкамі, менавіта для тых, хто робіць першыя самастойныя крокі ў краіну чытання. "Толькі не забудзьцеся, — папярэджвала Ала Зміева, — абавязкова скажыце дзецям, што кніжкі — для іх агульнага карыстання, для іх усіх, хто сёння жыве ў прытулку".

А ў прытулку, што дзейнічае на базе сацыяльна-педагагічнага цэнтра, расказваюць псіхолаг Вольга Вярцейка і выхавальніца Алена Шаўцова, якія прывезлі малых на сустрэчу з Дзедам Марозам і Снягуркай, знаходзяцца на працягу паловы года тыя, чым бацькам дзяржава дае час яшчэ раз разважыць — ці апаматацца і кінуць асацыяльны лад жыцця, ці развітацца з дзецьмі назаўсёды… Яны чакаюць кожнай сустрэчы з бацькамі — бо нішто не заменіць іх любові. Здараецца, бацькі прыносяць малым на такія сустрэчы кніжкі. На пытанне, ці спадабаецца дзецям такі падарунак, як кніга, Алена і Вольга адказваюць: "Вялікая колькасць людзей запрашае нас на ёлкі перад такім святам, як Нараджэнне Хрыстова, але кніг нам яшчэ не дарылі".

Дзеці пакідалі кнігарню, усхваляваныя сустрэчай з Дзедам Марозам і Снягуркай, і кожны спадзяваўся, што калі-небудзь вернецца сюды з бацькамі, бо менавіта гэта было іх галоўным жаданнем.

## Літ-абсягі

# Высокі статус і вялікая адказнасць

**Творчаму калектыву выдавецтва "Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі" прысуджана высокая ўзнагарода — прэмія Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь "За духоўнае адраджэнне" 2010 года — за стварэнне кніг "Зямля сілы. Белавежская пушча" і "Радзівілы. Альбом партрэтаў XVIII-XIX стагоддзяў".**



**Марына ВЕСЯЛУХА, фота Кастуся Дробава**

Гэтыя кнігі не выпадкова сталі знакавымі для выдавецтва, бо прысвечаны яны падзеям беларускай гісторыі і культуры, нашай спадчыне. Галоўны рэдактар выдавецтва "БелЭн імя П. Броўкі" Ларыса Языковіч падкрэсліла: "Кніга "Зямля сілы. Белавежская пушча" прысвечана 600-годдзю з часу ўстанаўлення ў Белавежскай пушчы запаведнага рэжыму. Гэтым выданнем мы адзначылі важную дату ў гісторыі нашай дзяржавы, бо Белавежская пушча — своеасаблівы брэнд Беларусі".

Што да кнігі "Радзівілы. Альбом партрэтаў XVIII-XIX стагоддзяў", то яна смела можа прэтэндаваць на статус брэнда выдавецтва і — шырэй — усяго кнігавыдання краіны. Шыкоўны фаліянт, што з'яўляецца перавыданнем старажытнага альбома ў факсімільным фармаце і змяшчае грунтоўны навуковы каментарый мастацтвазнаўцы Вольгі Бажэнавай, у працы па яго стварэнні прымаў удзел прадстаўнік роду князёў Радзівілаў — Мацей Радзівіл, матэрыялы для выдання прадстаўлялі замежныя партнёры з Польшчы, Літвы, Украіны, Расіі.

"Мы даўно думалі пра магчымыя шляхі папулярызацыі нашай гісторыі, помнікаў культуры, якіх мала засталося ў свеце і пра якія падрабязна ведаюць толькі некаторыя даследчыкі, — разважае Ларыса Уладзіміраўна. — Выданне серыі "Энцыклапедыя рарытэтаў" (кніга "Радзівілы. Альбом партрэтаў XVIII-XIX стагоддзяў" яе распачала) — адзін з варыянтаў рашэння пастаўленай задачы".

"Прэмія "За духоўнае адраджэнне" — выключная і вельмі высокая адзнака. Быць яе лаўрэатам — вялікая адказнасць. Гэты статус трэба пацвярджаць кожным выданнем, ствараць кніжныя праекты на высокім узроўні, якія б сапраўды памнажалі і захоўвалі нацыянальныя здабыткі", — заўважыла дырэктар выдавецтва "Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі" Таццяна Бялова.

Падзялілася Таццяна Уладзіміраўна і планамі выдавецтва на бліжэйшы час: "Нашы галоўныя праекты — энцыклапедычныя выданні. Цяпер мы працуем над другім томам энцыклапедыі "Культура Беларусі", энцыклапедыяй "Максім Багдановіч", другім томам "Гісторыі беларускай кнігі". Безумоўна, будзе мець працяг ужо адзначаны праект "Энцыклапедыя рарытэтаў". Наступным выданнем серыі стане "Прыватны альбом князёўны Эльжбеты Радзівіл", творчая работа журналіста газеты "Звязда" Глеба Лабадзенкі. У гэтай жа серыі запланаваны і выхад фотаальбома "Жывая вера — Ветка".

***На здымку:** Кацярына Чарапок, Таццяна Жукоўская, Ганна Малей, Ларыса Языковіч, Юрый Бажэнаў — супрацоўнікі выдавецтва "БелЭн імя П. Броўкі".*

## Арт-лінія

*Лана ІВАНОВА, фота аўтара*

# Ля вытокаў сцэнаграфіі

**На працягу студзеня ў Дзяржаўным музеі гісторыі тэатральнай і музычнай культуры Беларусі працуе выстаўка "Творца, непадуладны часу". Яна прымеркаваная да 120-годдзя з дня нараджэння народнага мастака БССР Аскара Марыкса.**



У гісторыі культуры яго імя неадрыўнае ад перыяду заснавання і станаўлення беларускага прафесійнага дэкарацыйнага мастацтва. На сцэне кожнага з вядучых айчынных тэатраў ішлі спектаклі, аформленыя А. Марыксам. Напрыклад, у Купалаўскім, колішнім БДТ-1, — беларуская класіка "Раскіданае гняздо", "Салавей", "Машэка", "Кастусь Каліноўскі", "Каваль-ваявода"; мальераўскі "Мешчанін у дваранах"; "Ваўкі і авечкі" А. Астроўскага. У Беларускім ТЮГу імя Н. Крупскай — "Цудоўная дудка" В. Вольскага; у коласаўцаў — "Здані" Г. Ібсена, "Каварства і каханне" Ф. Шылера, "Проба агнём" К. Крапівы; у Дзяржаўным рускім драматычным тэатры — "Сабака на сене" Лопэ дэ Вегі, "Дзядзька Ваня" А. Чэхава...

Тэатральны мастак, педагог, А. Марыкс пакінуў адметную творчую спадчыну і ў жанрах пейзажу, нацюрморта, партрэта, стварыў графічныя серыі, прысвечаныя помнікам беларускага дойлідства, нацыянальнаму адзенню, і вітражы. З яго мастацкімі работамі (гэта эскізы дэкарацый і касцюмаў да спектакляў, пейзажы), з фотаздымкамі, рукапісамі, асабістымі рэчамі знаёміць новая выстаўка. Прадстаўлена больш як сотня экспанатаў: матэрыялы з фондаў музея і з асабістай калекцыі дачкі Аскара Пятровіча — Любові Марыкс. Яна, дарэчы, брала ўдзел у вернісажы, падчас якога выступілі і многія знаныя мастакі: Эдуард Агуновіч, Мікалай Апіёк, Ігар Бархаткоў, Тарас Параджняк, Уладзімір Уродніч... А дырэктар выдавецтва "Чатыры чвэрці" Ліліяна Анцух правяла прэзентацыю электроннага варыянта альбома твораў Аскара Марыкса.

Дарэчы, яго работы дэманстраваліся нядаўна і ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі — на выстаўцы "Прамень", прысвечанай Аляксандру Ахола-Вало і яго спадзвіжнікам.

***На здымку:** Аскар Марыкс "Брацкі сабор у Магілёве" (кардон, туш, пастэль, бяліла). 1946 — 1947.*

## Повязі

*Ганна ДУСЬ, фота аўтара*

# Тры дні з «Вясёлкай»

**Для рэдакцыі часопіса "Вясёлка" гэта ўжо стала добрай традыцыяй — кожны год пачынаць новым праектам. У 2008-м часопісныя вокладкі ўпрыгожвалі дзяўчынкі — пераможцы конкурсу "Міс "Вясёлка", у 2009-м — хлопчыкі, кожны з якіх прадстаўляў свой від спорту ў спаборніцтве "Чэмпіён "Вясёлкі".**



Не выключэннем стаў і 2011 год. На гэты раз рэдакцыя вырашыла пашырыць геаграфічныя абсягі часопіса: у праекце "Замежныя сябры "Вясёлкі" кожны з дванаццаці нумароў года будзе прысвечаны адной з краін свету. Юныя чытачы такім чынам змогуць пазнаёміцца з творамі дзіцячых пісьменнікаў, даведацца пра знакамітыя помнікі, народныя традыцыі і нацыянальныя строі асобных народаў. Ужо ў студзені гэты парад краін адкрывае Кітайская Народная Рэспубліка.

А старт праекту быў дадзены ў Нацыянальным дзіцячым адукацыйна-аздараўленчым цэнтры "Зубраня". На адкрыццё свята завіталі супрацоўнікі рэдакцыі часопіса "Вясёлка" на чале з галоўным рэдактарам Уладзімірам Ліпскім, а таксама галоўны рэдактар "Маладосці" Раіса Баравікова. На прэзентацыі праекта "Замежныя сябры "Вясёлкі" прысутнічалі прадстаўнікі пасольстваў Кітая, Азербайджана і Венесуэлы, старшыня таварыства па сувязях з суайчыннікамі за мяжой "Радзіма" Максім Дубянок, прэзідэнт Згуртавання беларускіх грамадскіх арганізацый у Літве Раман Вайніцкі, член прэзідыума Усерасійскага таварыства беларусаў, наш зямляк з Масквы, паэт і кампазітар Іосіф Рогаль, гасцей і гаспадароў сустрэчы вітаў мастацкі вакальны калектыў з Літвы — вучні Віленскай беларускай школы імя Францыска Скарыны. Нашы школьнікі, у сваю чаргу, прадстаўлялі краіны, пра якія на працягу года будзе распавядаць "Вясёлка".

***На здымку:** Уладзімір Ліпскі сярод сяброў "Вясёлкі".*

## З-пад пяра

Сярод цікавых, адметных і значных мерапрыемстваў, якія праводзіліся ў межах Года культуры Рэспублікі Беларусь у Расійскай Федэрацыі, — выстаўка "Геній зямлі Беларускай". Яна адкрылася ў Яраслаўскім гістарычным музеі, а экспанаты для яе прадаставіў Літаратурны музей М. Багдановіча ў Мінску. Як вядома, класік беларускай літаратуры Максім Багдановіч з 1908 па 1916 год жыў менавіта ў Яраслаўлі. У гэтым горадзе сёння жывуць нашчадкі роду Багдановічаў. У 1994 годзе ў мемарыяльным доме Багдановічаў была створана экспазіцыя "Беларускі паэт з берагоў Волгі". У аснову яе ўкладзены экспанаты з фондаў Літаратурнага музея Максіма Багдановіча (Мінск) — 114 адзінак. На базе Дома Багдановіча створаны таксама Цэнтр беларускай культуры, дзе ладзяцца розныя мерапрыемствы. Яраслаўскія музеі — частыя ўдзельнікі беларускіх навуковых канферэнцый, прысвечаных творчасці паэта.

**Мікола КАНСТАНЦІНСКІ**

Напярэдадні свята Нараджэння Хрыстова ў сталічным Палацы мастацтваў разгарнулася Праваслаўная выстаўка-кірмаш. Яе ўдзельнікамі сталі манастыры і прыходы, духоўныя навучальныя ўстановы, выдавецтвы, іканапісныя майстэрні, народныя майстры і рамеснікі з Беларусі, Малдовы, Расіі, Украіны. Асаблівасць выстаўкі — багатая культурная і духоўна-асветніцкая праграма: сустрэчы са святарамі, лекцыі, выступленні царкоўных хароў, дзіцячых калектываў, вечары духоўнай паэзіі і песні, прэзентацыі новых выданняў... Вялікае задавальненне ў наведвальнікаў выклікала экспазіцыя карцін мастака Георгія Галкіна, дзіцячых мастацкіх работ "Прыгажосць Божага свету", а таксама фотавыстаўка "Тэрыторыя вандравання", прапанаваная часопісам "Фома".

**Аляксей ГАРБУНОЎ**

У галерэі сучаснага мастацтва "Ў" адбыўся прагляд новага дакументальнага фільма Міколы Ваўранюка "Сыс пра Сыса". На прэзентацыі прысутнічалі Сяржук Сыс (які ў фільме выступіў у ролі апавядальніка, што і тлумачыць назву), сам рэжысёр, сябры паэта ды людзі, неабыякавыя да яго творчасці. Фільм выклікаў спрэчкі, бо надта ж не падобным да таго вобраза бунтара, скандальнага паэта паўстаў у ім Сыс. "Вясковы, звычайны, просты" — вось эпітэты, якімі ўзнагародзілі героя стужкі тыя, хто прысутнічаў на праглядзе. "Стужку ні ў якім разе нельга называць біяграфіяй, — патлумачыў рэжысёр, — бо мы не ахоплівалі ўсё жыццё паэта — у асноўным яго юнацтва, да вучобы ў Мінску. Сыс такі цікавы творца, што пра яго можна было б зняць нават сто розных фільмаў. І я веру, што яны будуць знятыя".

**Анастасія ГРЫШЧУК**

Гомельская Славянская спецыялізаваная бібліятэка арганізавала вечар памяці Уладзіміра Караткевіча, які падрыхтавалі студэнты філалагічнага факультэта ГДУ імя Ф. Скарыны. Студэнты-філолагі прадставілі гледачам вершы Караткевіча і праспявалі песні на яго словы, прачыталі ўрывак з твора "Краіна Цыганія"... Вялі праграму чатыры дзяўчыны ў вобразе чараўніц. Дарэчы, гэтыя чараўніцы і самі пішуць вершы, апавесці, артыкулы. І не толькі. Сказалі сваё слова ў памяць Уладзіміра Караткевіча таксама выкладчыкі Вольга Шынкарэнка і Анжэла Мельнікава.

**Ала ДАРАШЭНКА**

# Раман у кадры

Ірына ТУЛУПАВА

**Кажуць, кіно здараецца тады, калі ў ім ёсць драматургія. Таму зварот у гутарцы пра набыткі і перспектывы беларускага кінематографа да драматурга быццам бы цалкам лагічны. Той, хто піша для тэатра, маючы на ўвазе сцэну і разгорнутыя на ёй дзеянні, хто стварае характары, каб яны былі непадобныя і кожны — унікальны, — відаць, бліжай і да кіно. У ім таксама — сцэны, якія змяняюць адна адну ў кадры; характары, якія прымае ці не прымае глядач; дынамізм, вастрыня сюжэта… А як жа тады ўласна літаратура і іншыя мастацкія асаблівасці кіно, уласцівыя толькі яму? Распачатую на старонках "ЛіМа" гутарку пра айчынны кінематограф сёння працягвае пісьменнік, драматург Георгій МАРЧУК.**


Фота з інтэрнэт-сайта archives.gov.by

На здымку: Уладзімір Караткевіч і Валерый Рубінчык падчас мантажу кінастужкі "Дзікае паляванне караля Стаха", 1979 год.

**— Георгій Васільевіч, напачатку акрэслім саму тэму: пісьменнік і кінематограф. Якія варыянты іх узаемадачыненняў могуць быць рэальнымі?**

— Без літаратуры кінематографа няма. Уся сусветна вядомая кінематаграфія пабудавана на вялікай літаратуры. Зірніце на савецкі альбо нават расійскі кінематограф. "Яны змагаліся за Радзіму" вялікага Сяргея Бандарчука, "Стэп", "Вайна і мір", "Барыс Гадуноў": у аснове ўсіх кінастужак — мастацкая літаратура. Васіль Шукшын рабіў кіно па сваіх творах. І такія прыклады можна множыць бясконца. "Майстар і Маргарыта", "Ідыёт" Бортка, — у аснове заўсёды павінна быць сур'ёзная, глыбокая літаратура, якая адлюстроўвае жыццё народа. Былі і ў нас такія спробы вытворчасці фільмаў. Самая яркая — гэта "Альпійская балада" Васіля Быкава, "Дзікае паляванне караля Стаха" Уладзіміра Караткевіча, "Людзі на балоце" Івана Мележа, "Чужая Бацькаўшчына" Вячаслава Адамчыка.

**— Фільмы, створаныя паводле літаратурных твораў, якіх раней выпускалася значна больш, не такія ўжо і частыя на тэлеэкранах і экранах кінатэатраў у нашы дні. Хаця мы ведаем выдатныя ўзоры, якія ўзбагацілі беларускі кінематограф. Наколькі запатрабаваны цяпер жанр экранізацыі?**

— Экранізацыі цяпер дорага каштуюць. Да таго ж, бяру на сябе смеласць сказаць, што не ўсе рэжысёры беларускай кінастудыі чытаюць беларускую літаратуру. Шмат хто яе наогул не ведае. Усе яны выхаваны на савецкім кінематографе. Постсавецкі кінематограф — гэта кінематограф пра касмапалітычныя характары. Але людзі, якім яны ўласцівы, не прысутнічаюць у нацыянальным этнасе! Возьмем апошнія фільмы беларускай кінастудыі. "Масакра" створана па навелах Праспера Мэрымэ. Альбо карціна з нямецкаю назваю "Дастыш фантастыш". Зразумела, у камедыі, гіпербале можа прысутнічаць іншасказанне, але пры чым тут беларускі этнас? Раней мы і камедыі рабілі, і атрымоўвалася! І дзіцячае кіно было моцнае. Сёння я магу згадаць як станоўчы прыклад, дзе адчуваецца моцная рука і сцэнарыста, і рэжысёра, карціну "Ваўкі" (рэжысёр Аляксандр Колбышаў, аўтар сцэнарыя Аляксандр Чакмянёў). Толькі дзеянне адбываецца недзе пад Уладзімірам. Атрымліваецца абсалютна расійскі матэрыял! Але няхай у Расіі робяць пра сябе самі! А пра беларусаў лепш за іх самых ніхто не скажа. Ёсць выдатныя рэжысёры А. Яфрэмаў, М. Князеў, ёсць цудоўная мультыплікацыя, дакументальныя фільмы. Але ёсць і валюнтарызм рэдактуры, яе непрафесіяналізм.

**— Чым моцнае кіно мінулых гадоў — дык гэта правільна арганізаванай мовай, моцнымі маналогамі і дыялогамі герояў. Яны разважалі, ацэньвалі жыццё, думалі — і прымушалі думаць гледача. Маналогі герою не пішуцца цяпер?**

— Падкрэслю: моцнае кіно нацыянальным этнасам, пошукам самабытнасці, сваімі характарамі і праблемамі. Трэба шукаць свае арыгінальныя хады. Усе вучыліся ў Феліні, Вайды, Таркоўскага, Бергмана, але ж ніхто іх не паўтарыў! Толькі самабытнасць цэніцца на фестывалях, дзе прысуджаюцца прызы і званні. Лаўрэатамі былі рэжысёры В. Нікіфараў, Ю. Ялхоў, В. Рыбараў, але цяпер яны не здымаюць фільмы.

А наконт таго, што няма літаратурных сцэнарыяў, — то няма і зацікаўленасці рэдакцыйнай калегіі кінастудыі "Беларусьфільм" у пошуку сапраўдных твораў. А яны ёсць, ёсць аўтары, якія жывуць у Беларусі і чые творы вартыя таго, каб быць увасобленымі на экране. Назаву некалькі імёнаў. Гэта драматургі Васіль Ткачоў, Анатоль Дзялендзік, Дзіяна Балыка, Алена Папова, пісьменнікі Ірына Масляніцына, Андрэй Карэлін, празаікі Леанід Левановіч, Уладзімір Гніламёдаў. А які цудоўны мог быць фільм па гістарычнай п'есе Раісы Баравіковай "Барбара Радзівіл"! Ды што далёка хадзіць, калі я сам прынёс раман "Крык на хутары" на студыю, да мяне пастаўіліся як да пачаткоўца. Ніводнаму рэжысёру не далі пачытаць маю заяўку. Падаецца, што кінастудыя наша знаходзіцца ў пошуку імгненнага выніку — як зарабіць грошы.

**— А ці задаваліся вы пытаннем, дзе можна ў Беларусі купіць беларускае кіно? Па-іншаму як яно можа быць распаўсюджана, акрамя як праз кінатэатры?**

— Не валодаю гэтым пытаннем. Яно больш датычыцца пракату і пракатных устаноў Мінска і краіны ў цэлым. Памойму, такая праграма, каб пераводзіць фільмы на дыскі і іх прадаваць, ёсць у Белвідэапракаце, і яна патрэбная. Ёсць і іншы бок справы.

Я назіраю за шматлікімі "расійскімі" серыяламі, якія транслююць некаторыя каналы — там шмат антырускага! Здзіўляюся, як вытрымліваюць акцёры. Нейкая нянавісць, падтрунъванне адно з аднаго, зневажанне нацыянальнай свядомасці, гісторыі — дзіву даешся!

**— Шмат хто з пісьменнікаў адмаўляецца ад напісання сцэнарыяў па сваіх творах. У выніку з'яўляецца такая формулёўка: па матывах. І мы бачым на экране зусім іншы твор. Чым жа так адрозніваецца напісанне сцэнарыя ад напісання літаратурнага твора?**

— Справа ў тым, што цалкам перанесці твор на экран немагчыма. Возьмем тых жа Праўдзіна, Трахімёнка, Чаргінца — безумоўна, усё роўна на экране будзе нешта не так, як у тэксце. Кіно патрабуе ашчаднасці і выбару сюжэтных ліній. Толькі таго, што будзе і глядзішчна, і канфліктна. Апісальныя моманты, другасныя лініі могуць быць і не ўлічаны. Таму не заўсёды ўдаецца перанесці змест цалкам. Хаця калі ўзяць розныя стужкі, мы ўбачым і розныя падыходы. "Стэп" Бандарчука перанесены, на мой погляд, цалкам. "Ціхі Дон" Шолахава ўжо трохі ўціснуты, нават у чатырох серыях.

**— Такое "скарачэнне" можа выклікаць раздражненне і незадаволенасць у сучаснага пісьменніка, аўтара твора?**

— Не, я думаю, галоўнае тут — знайсці аднадумца-рэжысёра. Таго, хто будзе гэтаксама хвалявацца, як сам аўтар, працуючы над творам. Каб чалавек загарэўся ідэяй. Калі ў рэжысёра гэтага няма — усё: будзе штучнасць, халоднасць, у фільме не знойдзеш эмоцый…

**— Як вы думаеце: калі б існавала школа сцэнарыстаў, там бы паўдзельнічалі пісьменнікі?**

— Раней такое было, праводзілі семінары, прыязджалі з Масквы вядомыя сцэнарысты, помню і Грыгор'ева, і Яжова. Гэта добрая практыка для творцаў, бо не кожны празаік здолее адразу напісаць сцэнарый. Усё-такі гэта своеасаблівы жанр. Наладзіць такі семінар з запрашэннем прафесіяналаў высокага класа не пашкодзіла б, напэўна, і "Беларусьфільму".

**— Праца ў кіно для пісьменніка — гэта і дадатковая яго "раскрутка", хуткі шлях да вядомасці.**

— Любы перанос твора пісьменніка, які ўхвалены чытачамі, хоць на радыё, хоць на тэлебачанне — гэта дадатковая папулярызацыя добрых твораў. Цяпер тэлеканалы спрабуюць наладзіць вытворчасць шматсерыйных фільмаў. І кінематограф у тым ліку. Хоць апошні цяпер перажывае пэўны крызіс. Не ведаю, што з гэтага атрымаецца. Думаю, прычына ў тым, што не выпрацавана праграма нацыянальнага кінематографа. Не было сустрэч з нашымі пісьменнікамі кіраўніцтва "Беларусьфільма". Гэта, на мой погляд, алагічна. Так нельга быць! У нас агульная культура, і кінематограф павінен быць нацыянальным.

**— Вы таксама прачнуліся аднойчы знакамітым пасля прагляду фільма па вашым сцэнарыі? Які з сваіх фільмаў лічыце найбольш удалым?**

— Мой сцэнарый быў адхілены — ужо пяць гадоў не здымаюцца "Пеўчыя сорак першага года" (рэжысёр Ю. Ялхоў). Я мусіў звярнуцца са сваім рэжысёрам Дзмітрыем Зайцавым да прыватнага прадзюсара, і на прыватныя грошы знялі "Пісьмо Феліні" (фільм адзначаны на кінафестывалях). Мы зрабілі зноў жа на прыватныя грошы экранізацыю маіх навел — фільм "Яблык месяца", які рыхтуецца да паказу на адным з расійскіх тэлеканалаў (рэжысёр Ю. Ялхоў). Шукаем сродкі. Бо калі няма зацікаўленасці на кінастудыі да нашых аўтараў, даводзіцца шукаць нешта іншае. Але я не губляю надзеі, што і мае творы, "Крык на хутары", і чатыры серыі новай версіі "Кветак правінцыі", і раманы дойдуць да гледача. Я ўпэўнены: на сваёй зямлі нікуды не дзецца без нацыянальнай літаратуры, без нацыянальнай кінастудыі.

## Анкета пісьменніка

## Літаратура — хлеб мастацтва



*1. Існуе меркаванне: калі раней пісьменнік быў настаўнікам, вышчальнікам ісціны, то цяпер стаў прыватнай асобай, якая рэдка з'яўляецца нават на ТБ. І яшчэ радзей — у газетах. Чаму?*

*2. Падзенне нораваў — міф ці рэальнасць? Ці павінны кнігі "вучыць жыць"?*

*3. Як грамадская актыўнасць пісьменніка ўплывае на яго літаратурную працу?*

*4. Якія характэрныя рысы сучаснага нарыса вы б вызначылі?*

**Пісьменнік Леанід Левановіч:**

**1.** На жаль, гэта праўда: пісьменнік — рэдкі госць на тэлеэкране, на старонках газет — таксама. Не пачуеш вершы ў выкананні аўтара, апавяданні, творчыя партрэты нават да юбілеяў. Як быццам пісьменнікаў няма. Між тым літаратура ёсць і была першаасновай культуры, хлебам мастацтва. Да прыкладу, напісаў Купала геніяльны верш "Спадчына", Лучанок стварыў музыку, "Песняры" праспявалі — і пайшла ў народ выдатная песня. І ўсё болей выканаўцаў уключаюць яе ў свой рэпертуар. Як хораша, прачула выконвае "Спадчыну" Ірына Дарафеева! А на пачатку было Слова! Крыўдна за нашых паэтаў-песеннікаў: іх прозвішчы ніколі не называюць. Быццам песня "Рэха жураўлінае" нарадзілася сама сабою, а паэта Уладзіміра Пецюкевіча і не існуе.

Другі прыклад. Напісаў Мележ "Людзі на балоце". Тут жа купалаўцы паставілі спектакль, на кінастудыі знялі мастацкі фільм, на БТ — шматсерыйны тэлефільм. А колькі мастакоў афармлялі кнігу! І яшчэ будуць афармляць. Карацей, паэт, празаік, драматург даюць працу ўсім: акцёрам, рэжысёрам, музыкам, мастакам. Літаратар цягне ўвесь воз культуры!

Шведскі пісьменнік Мікаэль Ніемі нядаўна ў "ЛіМе" прызнаваўся, што ў іх літаратура — высокапрэстыжны занятак, праўда, ён не прыносіць вялікіх грошай. Дык у нас літаратура зусім не прыносіць грошай: ганарар даюць кнігамі, якія трэба самому прадаваць.

**2.** Падзенне нораваў ёсць. Вал сексуальнай рэвалюцыі дакаціўся і да нас. Калі мы будзем казаць, як і раней: сексу ў нас няма, — нашы творы ніхто не будзе чытаць. Вядома, пісаць пра інтымныя адносіны трэба вельмі далікатна. Кніга павінна вучыць жыць. Пісьменнік павінен заставацца інжынерам чалавечай душы. Значыць, трэба ўсё жыццё вучыцца. Інакш трапіш у абоз.

**3.** Усе сучасныя пісьменнікі вымушаны служыць не толькі Слову. Мне давялося шмат гадоў працаваць у рэдакцыях газет, часопісаў, на тэлебачанні, у выдавецтве. Але да высокіх пасад я не рваўся. Пра тое, што Гётэ быў міністрам, мала хто ведае, а што Гётэ — вялікі паэт, ведае ўвесь свет. Даводзіцца займацца і грамадскай дзейнасцю, люблю сустракацца з чытачамі, радуюся, калі набываюць кнігі, просяць аўтограф.

**4.** Журналістыка збяднела на жанры. Артыкулы ды інтэрв'ю. А дзе ж нарысы, замалёўкі, фельетоны? Лічу, што нарысы трэба заказваць. Мая першая кніжка "Гаспадар зямлі" — нарыс пра агранома, Героя Працы, нарадзілася па заказе выдавецтва. Першы вялікі нарыс "Беларускі мёд" напісаны па просьбе часопіса "Нёман". Літаратурны працэс трэба накіроўваць.

Закончыць хачу вясёлай згадкай. Неяк, яшчэ за савецкім часам, у Доме творчасці "Дубулты" сабралася пісьменніцкая сябрына. Былі ў застоллі расіяне, украінцы, латышы, казахі. І вось слынны маскоўскі крытык, прафесар прапанаваў тост: "Вып'ем за тое, каб украінская літаратура дагнала беларускую". Дык хопіць прыбядняцца: у нас ёсць вялікая, паўнавартасная літаратура. Будзем жа шчыраваць і далей, каб яна не бяднела на выдатныя творы.

# Пушкінка: пасля юбілею

**Пры канцы цяпер ужо мінулага 2010-га, у час, калі ўсе мы рыхтаваліся ўвайсці ў другі дзясятак XXI стагоддзя, Мінская абласная бібліятэка імя Аляксандра Пушкіна ладкавала “круглы стол” на сугучную з рэальнасцю тэму — “Абласная бібліятэка ў кантэксце развіцця грамадства: захоўваем традыцыі, шукаем новае”. “Нягледзячы на развіццё новых інфармацыйных тэхналогій, з’яўленне электронных бібліятэк, Пушкінка будзе прыкладаць усе намаганні, каб адпавядаць часу”, — запэўніла дырэктар Наталля Чуева.**

**Ірына ТУЛУПАВА**
**фота Кастуся Дробава**

## У новае стагоддзе

“Круглы стол” філосафаў-аднадумцаў, перакананых сяброў бібліятэкі, прымяркоўваўся да 110-гадовага юбілею Мінскай абласной і меў на мэце агледзецца ў прасторы і часе, каб вызначыць, з чым ісці далей. Пушкінка таксама ўваходзіла ў другі дзясятак: свайго другога стагоддзя. У кантэксце юбілейна-віншавальных дзён тыповыя для ўсіх бібліятэк пытанні знаходзілі свае — чаканыя — адказы. Гэтага вымагае навукова-практычны характар канферэнцыі. І — жыццёвы досвед Пушкінкі як аднаго з галоўных сацыякультурных цэнтраў Міншчыны.

## Агульнае і прыватнае

Як зазначыла намеснік дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Людміла Кірухіна, цяпер у рамках агульнанацыянальнай праграмы “Культура” створана падпраграма развіцця бібліятэк. Выконваючы сваю трыадзіную задачу: забеспячэння права насельніцтва на свабодны доступ да інфармацыі, захавання нацыянальна-культурнай спадчыны і далучэння людзей да агульнанацыянальных каштоўнасцей, бібліятэкі ў бліжэйшай будучыні возьмуць ухіл на штогадовае абнаўленне фондаў, павелічэнне ў іх долі інфармацыйных рэсурсаў. А паказчыкам эфектыўнасці іх выкарыстання і запатрабаванасці карыстальнікамі будзе колькасць зваротаў да іх: як чытачоў, якія прыходзяць у скарбніцы, так і аддаленых карыстальнікаў (праз Інтэрнэт). У любым выпадку, калі чалавек ідзе ў бібліятэку, і не раз, і не два, а цягам многіх гадоў, значыць, яна яго нечым захабіла і прапануе неабходныя паслугі. У Пушкінцы — з вытанчаным паэтычным майстэрствам і пісьменніцкім густам.



## Сучасны імідж

Мінскую абласную бібліятэку часта называюць другім Домам літаратара. Столькі запамінальных сустрэч з творцамі тут праходзіць. Вядомая яна Пушкінскім цэнтрам, які збірае найкаштоўнейшыя фаліянты, рэдкія выданні твораў самога паэта і пра яго. “Бібліятэка насамрэч звязала колькі слынных асоб — Пушкіна, Багдановіча і Талстога, — зазначыў прысутны на ўрачыстасцях міністр культуры Беларусі Павел Латушка. — Гэта азначала нават на той перыяд, што бібліятэка прыцягвала да сябе людзей”. Цудоўна працуе ўстанова і з моладдзю, мае шырокія міжнародныя кантакты: з Вялікабрытаніяй, Францыяй, іншымі краінамі свету. Яшчэ яе называюць акном у Парыж — па зале, якая тут арганізавана сумесна з Пасольствам Францыі. Вядомая Пушкінка і сваім дзіцячым філіялам — бібліятэкай імя Янкі Маўра, і залай мастацтва, а таксама фондамі, чытачамі, кадрамі, якія клапатліва выхоўвае, вучыць прафесіі сумесна з факультэтам інфармацыйна-дакументных тэхналогій Беларускага дзяржаўнага універсітэта культуры і мастацтваў. Цяпер яшчэ — сайтам агульнаеўрапейскага ўзроўню, які хутка з’явіцца ў Сеціве.

## У аддзеле замежнай літаратуры

Завітайце ў любую залу Мінскай абласной бібліятэкі — і зразумееце, што знаходзіцеся ў бібліятэцы XXI стагоддзя. Яна — мультымедыйная. Акрамя традыцыйных кніг, газет, часопісаў, іншых дакументаў, якіх у бібліятэцы больш як 760 тысяч, тут яшчэ вялікі збор на электронных носьбітах. І ў зале замежнай літаратуры сустрэнеш тэлевізар (спадарожнікавае тэлебачанне), камп’ютары, палічкі з кампакт-дыскамі.

— Паколькі мы — аддзел замежнай літаратуры, — акцэнтавалі ветлівыя бібліятэкары Галіна Іванова і Валянціна Фогель, — то маем шмат падручнікаў па вывучэнні моў. Прычым, рознага ўзроўню: для тых, хто пачынае вывучаць мову; хто хоча аднавіць свае веды ў гэтай сферы; альбо хто прагне палепшыць сваю замежную мову. Шмат падручнікаў з аўдыёдыскамі. Калі чалавек хоча ўзяць іх дадому — дазваляецца і гэта. Шмат тут мастацкіх фільмаў. І дакументальных — па гісторыі розных краін. Спадарожнікавае тэлебачанне мае шмат пераваг: на кожную замежную мову настроена каля 15 каналаў. Прычым, чалавек загадзя можа замовіць на пэўны дзень і час сабе спадарожнікавае тэлебачанне альбо відэа. Шмат у зале замежнай літаратуры мультыцікаў для дзяцей. Побач працуе дзіцячы куточак. Дзеткі сюды прыходзяць пачынаючы з двух гадоў — разам з бацькамі, якія наведвалі залу замежнай літаратуры раней. І мне паказваюць кнігі для дзетак, дзе руская тэксты самых просценькіх першых казак альбо нататак утрымліваюць словы на англійскай мове — па адным-два на старонцы. Гэта самы пачатак знаёмства з мовай. Сцвярджаюць, цяпер нават рэальна вывучыць замежную мову на базе бібліятэкі. Шмат энцыклапедычнага матэрыялу пра краіны альбо па пэўных галінах ведаў. Спрашчаюць задачу пошуку інфармацыі бібліятэкары, якія таксама добра валодаюць замежнымі мовамі. Працуе Movie Club, які знаёміць з шэдэўрамі кінамастацтва. Заснаваны і дзейнічае цікавы праект: франкафонная прэмія. Калі паводле густаў чытачоў вылучаюцца 5 найбольш цікавых раманаў, выдадзеных на працягу года. З іх журы (выкладчыкі замежных моў, студэнты) выбіраюць найбольш актуальнага аўтара – лаўрэата прэміі. Сярод уладальнікаў такога звання — Андрэй Макін, Лэйла Сэббар, Бернар Шамбаз, Тахар Бен Жэллун, Крысціян Камбаз, Ален Флэшэр. Апошні, між іншым, мае білет чытача Пушкінкі. Так спіс творцаў, з якімі бібліятэка мае сяброўскія стасункі, шырыцца і ў нашы дні.

Яшчэ чытачам запомніліся акцыі “Свет вітае паслоў джаза” — вечарына з удзелам Паўла Аракеляна — і вечар памяці “Перамога на ўсіх адна”, удзельнікамі якой сталі прадстаўнікі пяці пасольстваў у Беларусі.

Спіс новых праектаў, якія вынікаюць з галоўнай традыцыі, — быць поруч з чытачамі — можна доўжыць бясконца. І гэта тое, што стаіць за радкамі ёмкіх лаканічных фармулёвак уручаных у юбілейныя дні ганаровых грамат і лістоў падзяк ад Міністэрства культуры Беларусі, Мінскага аблвыканкама, ад Мінскай абласной бібліятэкі: “За прафесіяналізм і асабісты ўнёсак у развіццё бібліятэчнай справы”…

***На здымку: намеснік начальніка ўпраўлення культуры Мінскага аблвыканкама Святлана Баранок, дырэктар Мінскай абласной бібліятэкі Наталля Чуева і намеснік дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Людміла Кірухіна знаёмяцца з буклетам, прысвечаным бібліятэцы.***

## Першы крок

*Так сталася, што пра ролю бібліятэк найчасцей гавораць спецыялісты ды выкладчыкі спецыялізаваных ВНУ ды каледжаў. Але пераступіць парог установы, зрабіць першы крок да яе звычайна выпадае ва ўзросце, які дарослым не назавеш. Ад таго, якім стаўся гэты першы крок, у многім залежаць і далейшыя адносіны да скарбніцы. Будзе чытаць чалавек альбо не, стане наведваць бібліятэку альбо праходзіць, не зважаючы на яе, міма, — таксама вызначаецца першым досведам. Які ён быў у пісьменнікаў, паэтаў, дзяржаўных дзеячаў і саміх бібліятэкараў?*

**Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ:**

### Я здаваў «экзамен»…

Я вельмі добра памятаю сваю першую бібліятэку. Гэта была Полацкая дзіцячая бібліятэка, якая размяшчалася ў так званым доміку Пятра І. Са свайго ўскраіннага пасёлка, узяўшы з сабою Ваську Белашэнку і Мішку Багатырова, каб мне было смялей, бо меў усяго шэсць гадоў, пайшоў у той будынак. Прыйшоў, а там такая строгая жанчына пажылога веку, у акулярах, сустрэла па-даросламу: “Ты ж яшчэ ў школу не ходзіш!” І загадчыца яе падтрымала: “Не, яго не запісвайце! Ён чытаць не ўмее!” Я моцна пакрыўдзіўся! Кажу, дайце мне любую кніжку, я прачытаю! Хлопцы мае, спалохаўшыся, збеглі. А загадчыца дала мне кніжку, я ўголас прачытаў, а чытаў я ўжо свабодна! І тады мяне запісалі. Самае цікавае, што потым, калі я стаў ужо пастаянным чытачом, з Нінай Карзо (а гэта была яна) мы часта згадвалі тую гісторыю. Мы з Нінай Аляксееўнай пасябравалі, у бібліятэцы мне вельмі падабалася, я хадзіў туды амаль кожны дзень і нават марыў стаць бібліятэкарам. Мне здавалася, што гэта такая прафесія, у якой нічога іншага рабіць не трэба, акрамя як чытаць. Самая лепшая ў свеце прафесія! Бо больш за ўсё я любіў чытаць. Зараз гэтая бібліятэка знаходзіцца ў іншым месцы, домік Пятра І на рэканструкцыі, аўры той няма…

А яшчэ ў мяне была любімая бібліятэка ў Мінску — гэта бібліятэка імя Крупскай на вуліцы Мележа. Мы туды хадзілі з Алесем Пісьмянковым. Выбіраліся ў бібліятэку на выхадныя. У суботу ці нядзелю хадзілі ў чытальную залу і бралі розныя кнігі. А калі памёр Алесь і не здаў свае кнігі, я здаў ягоныя кнігі і свае і цяпер не магу туды больш хадзіць. Карыстаюся кнігамі з бібліятэкі Беларускага радыё. Тая бібліятэка ні ў чым не вінаватая, што не стала Паэта, але я не магу пераступіць парог: усё нагадвае, як мы там былі з ім. А ўвогуле, сябрую з бібліятэкамі, часта выступаю там, знаю многіх апантаных, шчырых бібліятэкараў. З імі заўсёды прыемна, бо яны шмат ведаюць.

**Мікола ЛЕЎЧАНКА**

# Сто год — як адзін дзень

**У 1910 годзе галава горада на Дняпры Быхава, ветэрынарны ўрач па прафесіі Капаневіч, імя і імя па бацьку якога, на жаль, невядомыя, павятовы земскі ўрач, ён жа начальнік грамадскай пажарнай каманды Казімір Эмс і прадстаўнік земскай управы Нестар Красніцкі стварылі гарадскую грамадскую бібліятэку, якую склалі іхнія ўласныя кнігі.**

Так сто гадоў таму нарадзілася сённяшняя Быхаўская цэнтральная раённая бібліятэка імя Надзеі Крупскай, кніжны фонд якой складае не сотні кніг, як тады, а каля 42 тысяч экзэмпляраў мастацкай, навукова-папулярнай, гісторыка-краязнаўчай і іншай літаратуры. Юбілейную дату шырока адзначалі не толькі самі бібліятэкары, іхнія калегі з іншых бібліятэк горада і сельскай мясцовасці, а і ўся грамадскасць Быхаўшчыны. Чытачы з шматгадовым стажам і зусім маладыя людзі прыйшлі на свята ў раённы цэнтр культуры і народнай творчасці, дзе працавала выстаўка, удзельнічалі ва ўрачыстым мерапрыемстве з нагоды саліднага юбілею. Намеснік старшыні раённага выканаўчага камітэта Вадзім Рагавы нагадаў прысутным пра тую вялікую ролю, якая належыць сёння бібліятэцы ў культурным жыцці рэгіёна: ніводнае значнае мерапрыемства не ладзіцца без яе ўдзелу. На нядаўнім святкаванні 640-годдзя Быхава калектыў цэнтральнай бібліятэкі на галоўнай плошчы горада маляўніча аформіў змястоўныя тэматычныя выставы і арганізаваў цікавую літаратурную гасцёўню, дзе сабралася нямала аматараў вобразнага, прыгожага пісьменства. Гучалі вершы Міхася Пазнякова, які нарадзіўся і вырас на быхаўскай зямлі, аўтара гэтых радкоў, выступленні мясцовых пісьменнікаў-фантастаў Сяргея Антонава і Сяргея Данілава.

Прадстаўнік раённай улады ўручыў дырэктару цэнтральнай бібліятэкі Наталлі Корзе за шматгадовую плённую працу Ганаровую грамату выканкама.

У розныя гады бібліятэку ўзначальвалі Марыя Бабцова, Алена Іванчанка, Соф’я Кавалеўская, Марыя Стараселец, якая цяпер жыве ў сталіцы Расійскай Федэрацыі, Марыя Кушнер, Ганна Мацiевіч, Зінаіда Яшчанка, а ў 1994 годзе дырэктарам прызначылі сённяшняга кіраўніка Наталлю Корзу.

Цэнтральная бібліятэка Быхаўскага раёна ўваходзіць у лік лепшых бібліятэк Магілёўшчыны.

Праца лепшых спецыялістаў была ацэнена не толькі Ганаровай граматаю, дыпломам, падзякамі райвыканкама, а і ўзнагародамі ўпраўлення культуры аблвыканкама, абласной бібліятэкі, аддзела культуры райвыканкама.

Двум даўнім сябрам бібліятэкі і актыўным карыстальнікам скарбніцы Наталля Корза ўручыла білеты “Ганаровы чытач”.

Юбіляраў шчыра віншавалі старшыня райкама прафсаюза работнікаў культуры Наталля Абросімава, чый працоўны стаж у цэнтральнай бібліятэцы вымяраецца 20 гадамі, вядучы спецыяліст Магілёўскага абкама прафсаюза работнікаў культуры Наталля Джафарава, адна са старэйшых чытачак і ўдзельніца клуба “Залаты ўзрост” пры бібліятэцы Валянціна Новікава, дырэктар абласнога ліцэя № 5 у горадзе Быхаве Віктар Радзькоў, дырэктар дзіцячай школы мастацтваў Вольга Глушчанка, іншыя госці. А музычныя падарункі час ад часу падносілі выкладчыкі дзіцячай школы мастацтваў, удзельнікі мастацкай самадзейнасці пры раённым Цэнтры культуры і чытач з 40-гадовым стажам Уладзімір Гашкоў, дыпламант многіх конкурсаў самадзейнага мастацтва.

# Трэба шукаць. Шукаць і знаходзіць!

**Пабачыла свет новая кніга лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі, вядомага пісьменніка Янкі Сіпакова "Зубрэвіцкая сага". Гэта раман у апавяданнях, у якім мінулыя эпохі суадносяцца з днём сённяшнім: пачынаецца кніга з палявання нашых продкаў на мамантаў, а заканчваецца падзеямі Другой сусветнай вайны. А ў цэнтры ўсіх віроў гісторыі — звычайная беларуская вёсачка Зубрэвічы, малая радзіма аўтара. Твор цікавы не толькі жыхарам Віцебшчыны, якія змогуць па-новаму зірнуць на свае мясціны, а і ўсім беларусам, бо гэтая кніга — частка вялікай і захапляльнай сагі пра нашу Айчыну.**

Ілона КУПРЭЙЧЫК,
фота Кастуся Дробава

**— Іван Данілавіч, якія эмоцыі засталіся пасля заканчэння працы над кнігай?**

— Эмоцыі былі розныя. І радасць ад таго, што праца, нарэшце, закончана, і трывога, хваляванне пра тое, як і дзе кнігу выдаць — у наш час гэта, вы ведаеце, вялікі клопат. Таму я вельмі ўдзячны выдавецтву "Літаратура і Мастацтва", дзе прынялі да сэрца гэты мой клопат, паверылі ў "Зубрэвіцкую сагу", і роднаму Віцебску, які, дапамогшы з тыражом, даў магчымасць ёй сустрэцца з чытачамі.

**— Што падштурхнула вас напісаць гэтую кнігу?**

— Першым само па сабе з'явілася апавяданне пра паляванне на мамантаў "Хуткія Ногі". Я пісаў яго і адчуваў сам, што яно мне ўдаецца, што матэрыял мяне слухаецца, што мне цікава і светла працаваць з ім. А напісаўшы — зразумеў, што апавяданняў будзе шмат і што гэта, урэшце, будзе цэлая — і цэласная! — кніга. Новыя сюжэты, як грыбы пасля дажджу, пачалі вырастаць каля "Хуткіх Ног" самі сабою. Мне толькі заставалася падбіраць іх.

**— Вы працавалі над гэтай кнігай 10 гадоў. Скажыце, што было самым цяжкім у працэсе напісання?**

— Нічога! Пісалася мне лёгка і без натугі. Нягледзячы на тое, што ў кнізе шмат болю, пакут, крыўды, бяды. Вядома, шмат працы вымагала кожнае апавяданне. Розныя эпохі, розныя эры. І розныя людзі. Гэта ж цэлыя тысячагоддзі паміж імі! Таму найпершым маім клопатам было вывучэнне таго часу, у якім жылі мае будучыя героі. Што яны елі, як яны елі, што гаварылі, як апраналіся. Аднак галоўнае — пра што і як яны думалі. І вельмі важнае: трэба было знайсці такія словы, якімі б маглі карыстаца мае героі ў сваіх эрах і якія былі б зразумелыя і сённяшняму майму чытачу. Карацей, мінулае трэба было перанесці ў наш дзень без адчувальных страт. Прыжыцца ў той эпосе, але і не выйсці са свайго часу.

**— Ці паказваеце вы камусьці тэкст, над якім працуеце?**

— Нікому і ніколі. Ні з кім не раюся. Толькі сам-насам. Разумею, што хтосьці можа неасцярожна скрывіцца, актыўна ўмяшацца ў працэс твайго мыслення ("гэта не так і тое не гэтак", "а я бы вось так зрабіў"), і ты пачнеш нервавацца, мітусіцца, вагацца: а можа, ён і праўду кажа? Такім чынам пачне разбурацца менавіта тваё мысленне. Твор можна паказваць каму хочаш, аднак толькі тады, калі ён зусім завершаны і калі ўжо на стварэнне яго ніхто не можа паўплываць. Зрэшты, можа я і памыляюся, але, думаю, і такое меркаванне мае права на жыццё.

**— Студзень для вас — юбілейны месяц. 75 гадоў… Вы па-ранейшаму радуеце чытачоў новымі выдатнымі кнігамі. Наколькі жыццёвы вопыт уплывае на творчасць?**

— Вядома ж, уплывае. Аднак, ведаеце, у творах, напісаных без вопыту, паўсотні гадоў таму, мне і сёння не хочацца паправіць ніводнага слова, ніводнай коскі, ужо не кажучы пра перарobку цэлага сказа. Я баюся парушыць тую непасрэднасць, якая была маім жыццём! Думаю, гэта адбываецца таму, што я заўсёды з вялікай шчырасцю і павагаю, як да святыні, адносіўся да роднага слова, любіў яго і абагаўляў. Зрэшты, так да слова ставіліся ўсе мы, усё маё пакаленне, што, не пабаюся так сказаць, стварыла сапраўдную літаратуру, якую мелі мы за храм і перад ёю, як перад храмам, доўга, цярпліва і старанна, выцiралі ногі…

**— Цяпер, азірнуўшыся назад, якую кнігу Янкі Сіпакова вы параілі б прачытаць сучаснаму чытачу?**



— Усе. Бо па нейкай адной рэчы ці то ў паэзіі, ці то ў прозе немагчыма зразумець пісьменніка. Да прыкладу, кожная мая кніга задумвалася і пісалася не толькі як асобны твор, але і як частка нейкай агульнай панарамы, у якой, нібы ў своеасаблівай літаратурнай сістэме, падобнай да сістэмы Мендзялеева, яго ўжо чакае свая, незапоўненая ячэя. Што выбраць? "Веча славянскіх балад", кнігу паэзіі, за якую мне прысуджана Дзяржаўная прэмія імя Янкі Купалы? Але ж у мяне ёсць і дарагія мне празаічныя кнігі – "Крыло цішыні", "Жанчына сярод мужчын", аповесць "Кулак"…

Можа, прапанаваць першую ў беларускай літаратуры кнігу паэм у прозе "Ахвярны двор", у якой і "Одзіум", і "Хата", і "Услед за травою", і "Экстаз"? Але ж тады застанецца незапатрабаванай кніга прытчаў "Тыя, што ідуць" — таксама першая ў нашай літаратуры.

Здаецца, я магу параіць "Зялёны лісток на планеце Зямля" — своеасаблівы партрэт Беларусі, трыццаць эсэ пра нашу Радзіму: наша зямля, нашы людзі, наш космас, што мы ядзім, якія песні спяваем, з чаго смяёмся, нашы войны і нашы міфы. Але ж тады застанецца непрачытанае "Наталенне смагі" — мой дзённік настрою.

А можа, прапанаваць фантастычную аповесць "Блуканне па іншасвеце"? Ці вось гэтую "Зубрэвіцкую сагу"? Але ж застанецца па-за ўвагаю выдатны амерыканскі паэт-вершаруб Уолт Уітмен, перакладаючы якога, я так выкладаўся, што ягонае "Лісце травы" ўжо, здаецца, стала маёю кнігаю.

І яшчэ хочацца, каб малады мой сябра-чытач заўважыў і прачытаў на роднай мове мае пераклады з вавілонскай паэзіі, з любоўнай лірыкі паэтаў Старажытнай Грэцыі і Старажытнага Рыма, гімны і замовы з "Рыгведы" і "Атхарваведы" — самых старажытных на свеце кніг. Хацелася б пачуць яго думку і пра вянок санетаў "Жанчына", які перакладзены на хіндзі, на рускую і ўкраінскую мовы.

Так што, калі нехта захоча зразумець якогасьці пісьменніка, трэба набрацца мужнасці і перачытаць яго ўсяго.

**— Апішыце, калі ласка, ідэальны стан для таго, каб пісаць.**

— Калі ты ажно трымціш ад перапоўненасці тым, што цябе ўжо вельмі, вельмі хвалюе, калі табе не церпіцца хутчэй сесці за пісьмовы стол, што тады зможа табе, пісьменніку, перашкодзіць?!

**— Што вы параіце маладым пісьменнікам?**

— Шукаць! Шукаць і знаходзіць. Але шукаць, помнячы, што ў свеце да цябе ўжо створана вялікая літаратура, што тысячагоддзі да цябе, да прыкладу, у Вавілоне пры цару Ашурбанапалу былі выдатныя бібліятэкі кніг, напісаных клінапісам на гліняных таблічках.

Гэта я кажу як шматгадовы колішні старшыня камісіі па рабоце з маладымі ў Саюзе пісьменнікаў Беларусі. Пры Броўку, Танку…

Трэба шукаць! Сваё пакаленне. Свой стыль. Сваю літаратуру. Але шукаць толькі для стварэння. А не для разбурэння паэзіі, думкі, сэнсу. Бо і разбурыўшы ўсё, давядзецца потым нешта будаваць на гэтых руінах.

**— Над чым працуеце цяпер?**

— Закончыў кнігу прозы "Мужчынскія апавяданні". Працую над кнігаю пра кнігі "Мая бібліятэка". Ёсць і яшчэ задумы.

# Прыраслі душой і сэрцам




Глеб ІВАНЧАНКА

Вядомы рэжысёр, акцёр і пісьменнік Мікола Макарцоў сваю новую кнігу прысвяціў дзеячам мастацтва, культуры і літаратуры адной з абласцей нашай краіны. Адсюль і назва адпаведная — "Творцы з гомельскай зямлі". Выпусціла гэты зборнік партрэтных замалёвак выдавецтва "Чатыры чвэрці" ў серыі "Асоба і час".

Адкрываецца кніга творчым партрэтам заслужанага артыста Беларусі, артыста Гомельскага абласнога драматычнага тэатра Фёдара Іванова. Назва матэрыяла гаворыць сама за сябе — "Патрыярх сцэны". Сапраўды, Фёдар Мікалаевіч на гомельскіх тэатральных падмостках выступае ўжо паўстагоддзя. Але зарэкамендаваў ён сябе і як акцёр кіно, зняўшыся ў вядомай стужцы кінастудыі "Беларусьфільм" — "Дзед Яўсей і Палашка".

Багатая творчая біяграфія і ў вядучай актрысы Гомельскага маладзёжнага тэатра Галіны Аншчыкінай ("Шчаслівы лёс актрысы і яе ролі"). Да ўсяго яна праявіла сябе і ў рэжысуры, увасобіўшы на сцэне драматычную кампазіцыю "У кожным з нас Бог" паводле твораў Пастарнака, Булгакава, Бродскага.

Аднак расказвае М. Макарцоў не толькі пра акцёраў. Прынамсі, яму ўдалося прамовіць харошае слова пра добра вядомых чытачам "ЛіМа" паэтаў Ізяслава Катлярова і Соф'ю Шах, якія жывуць у Светлагорску. Як і ў іншых сваіх матэрыялах, М. Макарцоў нешматслоўны, але гэта не на шкоду гаворцы. Наадварот, пэўная эскізнасць дазваляе высвятліць найбольш важнае, істотнае ў творчых лёсах І. Катлярова і С. Шах. Дый немалаважна і тое, што з усімі, хто стаў героямі кнігі "Творцы з гомельскай зямлі", аўтар асабіста знаёмы. Гэта, безумоўна, спрыяе таму, што размова адбываецца шчырая, непасрэдная.

У Светлагорску працуе і жывапісец Мікалай Кухарэнка ("Мастак з Бярэзінскага краю"). Ён узначальвае мясцовую дзіцячую мастацкую школу. Ёсць у кнізе і яшчэ адзін, калі можна так сказаць, светлагорскі адрас. У замалёўцы "Стваральніца тэатра ў светлым горадзе" расказваецца пра рэжысёра народнага тэатра "Спадчына" Светлагорскага Цэнтра культуры Аду Кузьмянкову.

Некалькі матэрыялаў кнігі зместам сваім звязаны з Чачэршчынай. Гэта таксама такі куток Гомельшчыны, дзе працуе нямала талентаў. Як, скажам, саломапляцельшчык Уладзімір Казлоў ("Адметны майстар залатога цуда"). Ці мастацкі кіраўнік фальклорна-этнаграфічнага ансамбля песні і танца "Лёс" з вёскі Бабічы Пётр Біжуноў ("Вясковы музыка і яго "Лёс").

А хіба не цікава бліжэй пазнаёміцца з вядомым беларускім балетмайстрам, носьбітам і прапагандыстам народнай традыцыйнай харэаграфічнай культуры Міколам Котавым?! "Самародак з тураўскімі каранямі" — самой назвай партрэтнай замалёўкі прыкмечана істотнае. Родам гэты самародак, праўда, з рэчыцкай зямлі, але нельга не пагадзіцца з М. Макарцовым, што "калі б Мікола Котаў не трапіў углыб Палесся, то не адбыўся б як балетмайстар менавіта народнага плана, бо ён імкнуўся назапасіць як мага больш фальклорнай спадчыны — асновы для стварэння непаўторных, яркіх танцавальных народных малюнкаў". Сапраўды: М. Котаў стаў тым, хто ён ёсць сёння, дзякуючы таму, што свой творчы шлях пачаў менавіта ў старажытным Тураве, дзе сутыкнуўся з надзіва самабытнай народнай культурай.

Усе, пра каго расказвае М. Макарцоў, незалежна ад таго, дзе яны нарадзіліся, прыраслі душой і сэрцам да Гомельшчыны. А паколькі яны ўспрымаюць гэтую зямлю для сябе роднай, то і працуюць самаахвярна. Нельга не пагадзіцца з аўтарам прадмовы "Шчыра і ўзнёсла", паэтам Міхасём Пазняковым у тым, што кніга "Творцы з гомельскай зямлі" — "сапраўдны гімн мастацтву, культуры, хараству, таленавітым людзям аднаго з найпрыгажэйшых рэгіёнаў нашай роднай Беларусі".

# Беларусістыка і песня

Сяргей ЧЫГРЫН

**Кафедра беларусістыкі Варшаўскага ўніверсітэта выдала свой чарговы штогоднік “Acta Albaruthenica-10”. Ён прысвечаны 80-годдзю з дня нараджэння доктара філалагічных навук прафесара Варшаўскага ўніверсітэта Аляксандра Баршчэўскага, літаратурныя творы якога мы ведаем і чытаем пад псеўданімам Алесь Барскі.**

Нарадзіўся ён на Беласточчыне, у вёсцы Бандары, пра якія так і пісаў: “Мае Афіны тут — назваў іх Бандарамі”. Амаль 30 гадоў быў загадчыкам кафедры беларусістыкі Варшаўскага ўніверсітэта, 21 год кіраваў беларускім літаратурным аб’яднаннем “Белавежа”. Аўтар шматлікіх кніг паэзіі, навуковых артыкулаў і перакладаў.

Вялікі том “Acta Albaruthenica-10” адкрываецца артыкулам Міхася Тычыны “Лірыка Алеся Барскага і Афіны Аляксандра Баршчэўскага”. Крытык спыніўся на вобразе сонца ў вершах Алеся Барскага, на credo Алеся Барскага-паэта і Аляксандра Баршчэўскага-грамадзяніна, падкрэсліўшы пры гэтым, што credo “застаецца нязменным, нягледзячы ні на што: быць самім сабой, абараняць права беларусаў у Польшчы на сваю мову і культуру, верыць у тое, што ідэя ўзаемнай нацыянальнай і светапогляднай талерантнасці на карысць і палякам, і беларусам, працаваць, як працаваў больш як паўстагоддзя дагэтуль “над засыпаннем пропасці паміж палякамі і беларусамі”, узводзіць “мост паміж нашымі народамі”, вучыцца “творчаму нацыяналізму ў палякаў”.

Міхась Тычына літаратуразнаўчы позірк спыніў на інтымнай лірыцы Алеся Барскага, заўважыўшы, што апошняя выразна выяўляе яго павышаную чуласць да эстэтычнай катэгорыі прыгажосці, увасобленай Творцам сусвету ў вобразе жанчыны.

Ірына Бароўская ў сваім артыкуле “Песня і малітва: лірыка Алеся Барскага” ўпэўнена, што найбольш яскравае ў творчасці Алеся Барскага — гэта купалаўскія традыцыі песеннасці мастацкага вобраза. “Як ніхто іншы, — разважае Ірына Бароўская, — з беларускіх паэтаў, Алесь Барскі стварыў уласную краіну-браначку, якая сталася ўвасабленнем мараў усіх беларускіх песняроў усіх эпох — бо тут зямля спявае”. Сапраўды, у паэтычным сусвеце Алеся Барскага бязмежна пануе песня, якой, у поўнай адпаведнасці з арфічнымі законамі, падпарадкавана ўсё жывое. Янка Купала ўсклікаў, што ён песні беларускай уладар. Песня Алеся Барскага — валадар сусвету. Бо ўсё ёй падуладна: яна можа разам з касою зваліць распаленае лета, спеў лугу данесці ў знямозе, ускалыхнуць зямлю і неба, узварушыць лес і г.д.

У “Acta Albaruthenica-10” надрукавана і шмат іншых артыкулаў па літаратуры, мове, культуры і гісторыі. З цікавымі матэрыяламі выступаюць не толькі беларускія літаратуразнаўцы і гісторыкі, але і польскія, украінскія, рускія. Тым не менш тэматыка беларускіх аўтараў даволі разнастайная і навукова абгрунтаваная, сур’ёзная і новая. Ірына Бурдзялёва, напрыклад, падводзіць вынікі мастацкіх пошукаў у кнізе-дзённіку Максіма Гарэцкага “Скарбы жыцця”.




Мікола Хаўстовіч даследуе вытокі фантастыкі Яна Баршчэўскага. Даследчык сцвярджае, што выкарыстанне Янам Баршчэўскім народнае фантастыкі — гэта мастацкі прыём пісьменніка, неабходны яму дзеля ўвасаблення пэўнай ідэйна-эстэтычнай канцэпцыі.

Доктар філалагічных навук Сяргей Кавалёў знаёміць чытачоў з самым вядомым паэтам Вялікага Княства Літоўскага эпохі Рэнесансу Міколам Гусоўскім у артыкуле “Мікола Гусоўскі — феномен творчасці і парадоксы рэцэпцыі”. На думку аўтара, феномен Міколы Гусоўскага бачыцца менавіта ў яго “поліэтнічнасці” і “шматкультурнасці”, у плённым функцыянаванні як пісьменніка на памежжы арэалаў дзвюх культур (усходне-візантыйская і заходне-лацінская) і ў прыналежнасці адразу да некалькіх нацыянальных літаратур, якія ўзыходзяць да багатай шматмоўнай спадчыны Вялікага Княства Літоўскага. А яшчэ феномен Міколы Гусоўскага — гэта ў першую чаргу феномен “Песні пра зубра”, унікальнага твора, які ў адрозненне ад большасці твораў шматмоўнай паэзіі Вялікага Княства Літоўскага не толькі прамаўляў да розуму сучаснікаў, але і адгукнуўся ў сэрцах нашчадкаў.

Лія Кісялёва ў артыкуле “Балады Яна Чачота: разбурэнне канону” разважае пра творы Чачота, дзе рэальныя людзі, уключаючы самога аўтара, ператвараюцца ў персанажаў; адпаведна, персанажы мімікруюць пад сапраўдных асоб. Балады Яна Чачота, на думку аўтаркі, вельмі літаратурныя, нават металітаратурныя, гэта значыць засяроджаныя і замкнёныя на ўласнай “літаратурнасці”, на раскрыцці механікі паэтычнай творчасці.

Доктар філалогіі, выкладчык БДУ Людміла Сінькова сваю працу прысвяціла постмадэрніскай інтэртэкстуальнасці і яе стасункам з мастацкай традыцыяй у прозе Сяргея Балахонава — 33-гадовага празаіка, які шукае новыя формы для рэалізацыі свайго філалагічна-культуралагічнага інтэлекту.

Цікавым філасофска-літаратурным даследаваннем атрымаўся артыкул Івана Штэйнера “Увасабленне горада ў філасофіі і паэзіі А. Рэмбо, Ф. Ніцшэ і А. Разанава”. Іван Штэйнер у сваім матэрыяле падкрэслівае, што горад у Алеся Разанава — найўнікальнейшае дасягненне чалавецтва, у якім чалавек будуе горад, а горад стварае чалавека. Беларускі паэт Алесь Разанаў сцвердзіў еўрапейскасць нацыянальнай культуры, якая ўжо без усялякіх комплексаў сведчыць аб узлёце і велічы беларускага духу.

Раздзел “Мова” распачынаецца вялікім артыкулам Ніны Баршчэўскай пра погляд беларускай эміграцыі на ролю роднае мовы ў станаўленні нацыянальнай тоеснасці. Сапраўды, тыя ж, напрыклад, беларускія эміграцыйныя выданні заўсёды спрыялі кансалідацыі беларусаў, расцярушаных па цэлым свеце, дапамагалі ім гуртавацца на глебе нацыянальнай ідэі. “Развіццё беларускай мовы ў дыяспары, — піша Ніна Баршчэўская, — гэта не проста частка гісторыі нацыянальнай мовы, гэта важны сацыялінгвістычны і этнакультурны рэсурс, школа выжывання і самаўсведамлення”.

Мэта выступлення Міраслава Янковяка на старонках выдання — паказаць умовы, у якіх існавала і існуе беларуская мова ў Латвіі пачынаючы з канца XIX стагоддзя да нашых дзён. Вось некаторыя прыклады. У 1921 годзе міністрам культуры Латвіі абралі Яніса Райніса — латышскага пісьменніка, які вельмі пазітыўна, па-сяброўску ставіўся да беларусаў. У гэты час у Латвіі існавала больш як 40 беларускіх пачатковых школ і чатыры гімназіі. На пачатку Другой сусветнай вайны савецкая ўлада зачыніла на латвійскіх землях беларускія школы. Пасля вайны ў Латвіі не існавала ўжо школ нацыянальных меншасцей.

Вельмі цікава чытаецца артыкул Вольгі Трацяк пра гісторыю перайменаванняў, якія на Беларусі адбываліся некалькі разоў. Залежала гэта ад гістарычных умоў, у якіх апынулася краіна. Найцяжэйшым часам для спрадвечных назваў быў 1964 год, калі 30 чэрвеня на Прэзідыуме Вярхоўнага Савета БССР было прынята рашэнне перайменаваць адразу 318 населеных пунктаў. На змену былым найменням, выпрабаваным гісторыяй, прыйшлі назвы, якія ў большасці выпадкаў не нясуць тапанімічнай нагрузкі. З карты Гродзеншчыны, напрыклад, зніклі назвы вёсак Жалігова, Свінашкі, Пацэнкі, Вулька Жданова, Кабакі, Плехава і г.д. Замест гэтых назваў з’явіліся Вішнёва, Зорная, Лугавая, Лясная, Снежная, Ягадная і г.д.

Артыкулы Алены Глагоўскай заўсёды чытаюцца з цікавасцю, бо ў іх прысутнічае адкрыццё і навізна. На суд чытачоў у новым выданні гісторык і літаратуразнаўца вынесла арыгінальнае даследаванне “Беласточчына ў жыцці і творчасці Хведара Ільяшэвіча”. І хоць паэт нарадзіўся ў Вільні, яго жыццё, творчасць і выдавецкая дзейнасць былі цесна звязаныя з Беласточчынай. Ён быў жанаты з Надзеяй Алексяюк з Тапалянаў, што каля Міхалова на Беласточчыне. А ў гады Другой сусветнай вайны Хведар Ільяшэвіч узначальваў Беларускае аб’яднанне ў Беластоку, рэдагаваў беластоцкую газету “Новая дарога”. Алена Глагоўская сабрала па каліве ўсё, што звязана з Хведарам Ільяшэвічам і Беласточчынай. Атрымалася добрае даследаванне-кніжка ў кніжцы і светлая памяць пра таленавітага беларускага грамадска-культурнага дзеяча, паэта, крытыка, празаіка Хведара Ільяшэвіча.

А. Гронскі два гады таму ў часопісе “Беларуская думка” апублікаваў артыкул “Кастусь Калиновский: конструирование героя”, дзе распавёў пра тое, што Кастусь Каліноўскі далёка не беларускі герой, а антыгерой. З гэтым катэгарычна не пагадзіліся і не пагаджаюцца многія беларускія гісторыкі, навукоўцы і літаратары, у тым ліку і гісторык Ігар Запрудскі, які ў “Acta Albaruthenica-10” на аснове архіўных дакументаў, старых выданняў і публікацый даказвае, што Кастусь Каліноўскі быў і застаецца беларускім нацыянальным героем.

Спіс удумлівых даследчых артыкулаў, якія склалі том “Acta Albaruthenica-10”, можна працягваць. Бясспрэчна, прыцягнуць увагу чытачоў і артыкулы Адама Мальдзіса “Дык колькі гадоў беларусам? Роздум пасля тысячагоддзя Літвы”, Генадзя Нікалаева “Музей Янкі Купалы пад Казаннем”, Ганны Кісліцынай “Чалавек як праблема літаратуразнаўства”, Тэрэзы Занеўскай пра паэзію Рыгора Крушыны і дзясяткі іншых.

> *“У паэтычным сусвеце Алеся Барскага бязмежна пануе песня, якой, у поўнай адпаведнасці з арфічнымі законамі, падпарадкавана ўсё жывое. Янка Купала ўсклікаў, што ён песні беларускай уладар. Песня Алеся Барскага — валадар сусвету. Бо ўсё ёй падуладна: яна можа разам з касою зваліць распаленае лета, спеў лугу данесці ў знямозе, ускалыхнуць зямлю і неба, узварушыць лес і г.д.*



# Ціхі голас паэта

У апошнія дні старога года Мінск развітаўся з Таццянай Сапач. Паэтка, журналістка, яна загінула ў аўтакатастрофе пад Вільняй.

Таццяна Сапач нарадзілася 26 жніўня 1962 года ў вёсцы Маркава, што на Маладзечаншчыне. Скончыла журфак БДУ. З 1982 года працавала на тэлестудыях і радыёстанцыях Беларусі. З 1991 года і да апошняга часу, жывучы ўжо ў Вільні, была аўтарам і рэдактарам сталай праграмы “Віленскі сшытак” на Літоўскім нацыянальным тэлебачанні. Гэтая перадача была прысвечана беларусам, якія жывуць на Віленшчыне.

Таццяна Сапач — жонка крытыка Сяргея Дубаўца, маці пісьменніцы Адэлі Дубавец (Teda Lee).

Адзіны паэтычны зборнік Т. Сапач “Восень” пабачыў свет у 1992 годзе. Зусім нядаўна пад назвай “Няхай не пакіне нас Восень / Do not abandon us, Autumn” у 2008 годзе ён быў перавыдадзены ў выглядзе англа-беларускай білінгвы — на англійскую мову вершы былі перакладзены Верай Рыч.

Вершы Таццяны Сапач мільгнулі вельмі ярка і зніклі. Тая ўспышка прыйшлася на часы паўставання незалежнай Беларусі. Памятаю момант, калі я знайшоў пасля чарговага пераезду закінутыя ў дальні кут падшыўкі тых газет. З першай жа паласы “Нашай Нівы” разанула вершам невядомая мне Т.С. Радкі былі вытанчанымі і змрочнымі, барочна разгорнутымі, але ў той жа час такімі зразумелымі і блізкімі, патраплялі ў рытм сэрцабіцця. У 1980-я гэта былі творы контркультуры пакалення “Тутэйшых”, якое падарвала асновы савецкага гладкапісу. Але і тады, у сярэдзіне 2000-х, калі я ўпершыню дакрануўся іх, вершы тыя заставаліся надзённымі, хоць старонкі рассыпаліся ў руках ад нядбайнага захоўвання…

Яе любілі, вядома, за яе самую, а не за вершы. Для многіх Таццяна Сапач заставалася прыкладам, *якім* можа быць чалавек нават і ў сённяшнім свеце. І вось гэтага прыкладу, промня святла, надзеі цяпер у іх не будзе.

Толькі светлая памяць.

**Ціхан ЧАРНЯКЕВІЧ**

Калектыў РВУ “Літаратура і Мастацтва” выказвае глыбокія спачуванні начальніку газетнай вытворчасці выдавецтва “Беларускі Дом друку” Супрону Аляксандру Антонавічу ў сувязі з напаткаўшым яго горам — смерцю БАЦЬКІ.

# ...Дзень добры, Мніськія!

Белыя снягі засланілі прастору. Калючыя завеі раскручваюць на сумётах свае арыгінальныя танцы. Невялікія вёскі патанулі ў глыбокіх гурбах, і толькі сям-там сярод белай роўнядзі выяўляюцца цёмныя сцены хат і сагнутыя слупкі дыму, што цягнуцца з камінoў.

Такою парой 9 студзеня 1941 года ў вёсцы Мніськія, што на Пастаўшчыне, у сям'і Міхасёнкаў нарадзіўся сын Вячаслаў — у будучым настаўнік, краязнаўца, паэт. Аўтар адной невялічкай кніжачкі вершаў "Сіняе рэха", што ў 1997 годзе выйшла ў свет у слуцкім выдавецтве "Дзіва". Творчы чалавек, які сябраваў з У. Караткевічам, В. Шніпам, М. Казлоўскім і некаторымі іншымі пісьменнікамі і краязнаўцамі, які збіраў матэрыялы пра тыя мясціны, дзе яму давялося жыць і працаваць, які напісаў некалькі цікавых артыкулаў пра свае пошукі і знаходкі, у тым ліку і невялікае гістарычнае эсэ пра сваю родную вёску Мніськія.

Вячаслаў Міхасёнак пакінуў пасля сябе адметны след у літаратуры і краязнаўстве, таму варты ўспаміну і пашаны. Знешне яго біяграфія выглядае простай: пасля атрымання сярэдняй адукацыі паступіў вучыцца ў Гродзенскае музычна-педагагічнае вучылішча, доўгі час настаўнічаў у Дубровускай сярэдняй школе на Маладзечаншчыне. Вучыўся на філалагічным факультэце педагагічнага інстытута імя Горкага ў Мінску. Апошнія гады жыцця (а памёр ён 13 лістапада 2002 года) працаваў у Слуцку.

Нялёгкі ваенны і пасляваенны час В. Міхасёнкам лаканічна апісаны ў эсэ пра родныя Мніськія — "Вёска майго дзяцінства". З такой жа шчырасцю і адкрытасцю распавядаў ён і пра тыя мясціны, дзе яму было наканавана лёсам пражыць большую частку жыцця. Цікавыя нарысы пра Маладзечаншчыну друкаваліся ў часопісе "Куфэрак Віленшчыны": "Ля вытокаў Бярэзінкі вёска мая" (пра в. Дуброва), "На беларускім хутары", "Воўкаўшчына".

І ўсё ж не краязнаўчыя артыкулы, а паэтычныя творы найбольш сведчаць пра несумненны талент і асаблівасць творчай спадчыны В. Міхасёнка. Як пісаў пра кнігу "Сіняе рэха" крытык і выдавец Міхась Казлоўскі, "у гэты маленькі зборнік укладзеная такая гама пачуццяў, якіх бы хапіла не на адну тоўстую эпапею, бо гэтыя пачуцці складзеныя з жыцця не толькі аўтара, але і іншых падобных на яго людзей." І яшчэ: "Увогуле, паэт Міхасёнак сапраўдны, цікавы і натуральны, у яго вершах проста немагчыма знайсці фальшу. Яны ідуць з глыбіні роднае зямлі, ад перажытага, перабачанага. А жыццё не песціла Вячаслава Васільевіча, а часта і даволі жорстка ламала, але ён выстаяў і застаўся чалавекам".

На радзіме В. Міхасёнка як паэта і краязнаўцу мала хто ведае і памятае. А ён, напэўна, адзіны, хто ўславіў свае родныя Мніськія ў прозе і ў вершы:

*Дні сонца шчодрага і спёкі самы час,*
*Да жніўня блізіцца, вунь хлеб як каласіцца.*
*— Дзень добры, Мніськія, я зноў прымчаў да вас,*
*Майго маленства сумная сталіца…*

Сямідзесяцігадовы юбілей Вячаслава Міхасёнка — гэта добрая нагода аддаць даніну памяці чалавеку, які пакінуў пасля сябе хай і небагатую, але важкую і адметную творчую спадчыну. А найлепшы ўспамін пра паэта — гэта чытанне яго вершаў…

**Ігар ПРАКАПОВІЧ**

Вячаслаў Міхасёнак



## Адамарына*

*Ля пералескаў, па палях пакатых*
*Маёвы вецер коціцца сюды,*
*І сыплюцца пялёсткі у прысадах*
*Здзічэлых вішань і ў ставок вады.*
*А сам ставок — вады — кату напіцца,*
*Даўно тут раскашуе асака,*
*Ды ўсё свідруе між карчоў крыніца,*
*Зіхоткая, як рыбіны луска.*
*Дыбоўскіх тут фальварак быў калісьці,*
*На ўлонні маляўнічым, між ялін...*
*Шуміць у прыдарожных вербах лісце,*
*Мінулых дзён калыша успамін.*
*Вучоны буйны Бенядыкт Дыбоўскі,*
*Паўстанцаў беларускіх атаман,*
*Тут вырас, і не раз сялян дуброўскіх*
*Лячыў ён ад хваробаў і ад ран.*
*Пасля ў сібірскай ссылцы на Байкале*
*Ставок ён адамарынскі прысніць,*
*Як з Каліноўскім лёс прадвызначалі,*
*Каб край наш вольным назаўжды зрабіць.*
*Гады ў стагоддзі, ні дубоў, ні дома,*
*А вобраз той у думках паўстае.*
*І толькі вецер той жа пакрыёма*
*Аб вольнай волі вечна тут пяе.*

*Адамарына — фальварак ля вёскі Дуброва, што на Маладзечаншчыне, дзе нарадзіўся выдатны вучоны і грамадскі дзеяч Б. Дыбоўскі.

## Хутары

*Ветрам паўночным не шэрую гуску адбіла*
*Люта ад выраю — шызую хмару ўзняло*
*Сіверам свежым.*
*І хмара над золкай зямлёю, астылай,*
*Першай сняжынкаю*
*ўпала на першы лёд.*

*І у прасторы бязмежным —*
*о, лёгкае дзіва! —*
*Белы-бялюткі павольна пасыпаўся пух.*
*Ціша мацнела і стала*
*ўрачыста-маўклівай,*
*Нібы прастор*
*сам ад першага снегу аглух.*

*Ноччу гарэза марозік прайшоўся,*
*захрупаў снягамі,*
*Месяц самотна ўсміхнуўся —*
*цямноцце сплыло —*
*І таямніча застыў,*
*і павіс над палямі,*
*Над хутарамі ў прысадах*
*Заходняй былой.*
*У жоўта-зялёным святле*
*гэтай цьмянай, маркотнае ночы*
*З рамак няхітрых*
*удумна глядзяць са сцяны*
*Вочы дзядзькоў-хутаранцаў,*
*разумныя стойкія вочы,*
*Тых, што стаялі за волю,*
*за праўду сваёй стараны.*

*Толькі, калі заскуголіць, завые завея —*
*Жэняцца чэрці,*
*як кажуць сяляне парой,—*
*Ой, неспакойна,*
*трывожна і прыкра на сэрцы*
*Стане ў дзядзькоў-грамадоўцаў*
*Заходняй былой.*

*Хутар стамлёна рыпіць*
*кожнай кроквай і латай,*
*Вецер-зласлівец імкнецца*
*растрэсці ўканец у палёх*
*Шапку страхі саламянай,*
*і часам гучыць у бяздонні*
*Дзікай віхуры знясілены енк,*
*і выцц, і сапалох.*

*Кураць цыгаркі тады*
*грамадоўцы і крочаць*
*З покуці — у покуць маўкліва*
*ўсю ноч напралёт,*
*Нібы прамову вялікую*
*ўзяць яны хочуць*
*Пра парцэляцыю Крэсаў,*
*як прыйдуць на сход.*

*Ветрам паўночным*
*не шэрую гуску адбіла*
*Люта ад выраю —*
*шызую хмару ўзняло*
*Сіверам свежым.*
*І хмара над золкай зямлёю, астылай,*
*Першай сняжынкаю*
*ўпала на першы лёд.*

* * *

*Асірацелы хутар на узлеску,*
*Здзічэлы сад, крынічка і ставок.*
*Замшэлы зруб калодзежа на ўзмежку,*
*Што жураўлём пахілены набок.*

*А побач, на грудку,*
*дзядком журботным*
*Застрэшак звесіў між сівых ялін*
*Такі вялікі і зусім парожны*
*Каменны склеп, няскораны адзін.*

*Ні часу, ні навалам не паддаўся*
*Нібыта адшліфованы засек;*
*І дзверы, і ступені, і сцяна ўся*
*Гавораць: склаў надзейна чалавек.*

*І мне на момант нейк сумна стала*
*За лёс такіх сіротаў-хутароў,*
*Якіх ужо на Беларусі мала,*
*Як і саміх былых Гаспадароў.*

* * *

*Дні сонца шчодрага і спёкі самы час,*
*Да жніўня блізіцца,*
*вунь хлеб як каласіцца.*
*— Дзень добры, Мніськія,*
*я зноў прымчаў да вас,*
*Майго маленства сумнага сталіца.*

*Я помню, помню вас, раўнінныя палі,*
*Дзе вабяць моцна ў даль зялёныя дарогі*
*Было такой парой:*
*па іх вазы плылі,*
*Нібыта караблі,*
*духмяныя, з мурогам.*

*І вас, мае дзядзькі,*
*што ўмелі мудра жыць,*
*Араць і сеяць, і касіць пад песні...*
*У вёсцы стала ціш,*
*а новыя крыжы*
*Гусцей паднёрлі*
*на узлеску паднябессе.*

*У пошуме сасны —*
*куткі для грыбнікоў,*
*І у грудзях мацней затахкае, забʼецца,*
*Калі на рэха раптам знекуль зноў*
*Маленства ціха*
*з нетраў адгукнецца.*

*А можа стацца так,*
*— не ўбачу тут і хат,*
*Адзін дуронік-вецер загуляе...*
*Ды зноўку, як заўжды, з'явіцца буду рад,*
*Бо гэты ціхі кут здаўна лічу я раем.*

## Дэбют



Эдуард Білейчык

***З гэтым даволі неардынарным чалавекам пазнаёміўся я сапраўды выпадкова. На чыгуначным прыпынку "Дрычын", што на Пухавіччыне, выйшаў з электрычкі — і тут маю ўвагу прыцягнуў ветлы і гаваркі мужчына. Хутка я ўжо ведаў усё пра яго.***

***Эдуард Білейчык нарадзіўся ў вёсцы Вераб'ёўка Пухавіцкага раёна. У 1981 годзе скончыў Мінскае прафесіянальна-тэхнічнае вучылішча будаўнікоў. Жыве і працуе ў г. Мінску, з'яўляецца ўдзельнікам сталічнага музычна-творчага калектыву "Жывіца". Шмат хто з мінчан ведае Эдуарда Білейчыка як барда — на ўласныя вершы ён, баяніст да таго ж, піша музыку і сам жа свае песні спявае.***

**Мікола СТАНКЕВІЧ**

## Адзіная

*Беларусь. Васільковыя вочы.*
*Тут празрыстыя льюцца крыніцы.*
*Беларусь — гэта вобраз дзявочы*
*І вясновы раскат навальніцы.*

*Беларусь — гэта белыя росы,*
*Дзе з туманам прыходзіць світанак,*
*Дзе кладуцца ўздоўж рэчкі пракосы,*
*Дзе бушуе пялёсткамі ранак.*

*А над хатамі бусел клякоча,*
*А над кветкамі ветрыкам вее.*
*Тут з дубамі бярозы шапочуць.*
*Мілы кут, ты — мой лёс і надзея.*

*Беларусь — мая родная маці,*
*Не знайсці і не зведаць такую.*
*Дзе б я мог так спяваць, і кахаці,*
*І спазнаць тваю веру святую?*

## Вераб'ёўка

*Прыляцеў у сад салоўка,*
*Песні заспяваў свае,*
*І прыціхла Вераб'ёўка*
*Ад мелодыі тае.*

*Рэчка злева, лес направа,*
*Пахам бэзу ў вокны б'е,*
*Ў небе месячык ласкавы*
*Па-над лесам устае.*

*На душы спакой, лагода —*
*Жыць тут хочацца і жыць.*
*А салоўка ўжо за бродам*
*Срэбным голасам звініць.*

*Льецца песня ў травах з шоўку,*
*А дарога — што струна.*
*Прыязджай у Вераб'ёўку —*
*Лепшай вёсачкі няма!*

* * *

*Мне б толькі кавалачак неба —*
*Нічога такога, каб звыш —*
*Скарыначку цёплага хлеба,*
*Не трэба далёкі Парыж.*

*Каб Бог прыдаваў болей сілы*
*Ў чаканні наступнага дня,*
*Ды шчасце ў далонях насілі*
*І дыхала вольна зямля.*

*Айчынай сваёй ганаруся,*
*Далёкія вежы — бы сны,*
*Дзе белыя над Беларуссю*
*Ляцяць, як анёлы, буслы.*

*І стравы заморскай не трэба,*
*Стаю я маўклівы, бы глыж.*
*Мне б чысты кавалачак неба —*
*Далёкі не трэба Парыж.*

Сумесны праект штотыднёвіка «ЛіМ»
і Нацыянальнай кніжнай палаты Беларусі

Кніжны свет

14 студзеня 2011г.

# У «люстэрку» кніжнай палаты Беларусі

**Нацыянальная кніжная палата Беларусі — установа ўнікальная. Яна ўвабрала ў сябе і бібліятэчна-бібліяграфічныя, і архіўныя, і выдавецкія функцыі і з'яўляецца своеасаблівым "люстэркам", у якім адбіваюцца выдавецкія працэсы ў краіне. Пра тое, што сёння актуальна для кніжнай палаты Беларусі, якія праекты рэалізоўваюцца і якія тэндэнцыі назіраюцца ў кнігавыданні, — наша гутарка з дырэктарам Нацыянальнай кніжнай палаты Беларусі Аленай Івановай.**

Марына ВЕСЯЛУХА


Фота Кастуся Дробава

**— Алена Вітальеўна, падчас XXIII Маскоўскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу паміж Нацыянальнай кніжнай палатай Беларусі і Нацыянальнай кніжнай палатай Расійскай Федэрацыі было падпісана пагадненне аб абмене інфармацыяй…**

— Гэтая дамова — падзея для кніжных палат абедзвюх краін сапраўды гістарычная. Нягледзячы на тое, што кніжныя палаты постсавецкай прасторы звязваюць шматгадовыя прафесійныя ўзаемаадносіны, упершыню яны былі афармлены ў выглядзе дамовы аб супрацоўніцтве. Асабліва прыемна адзначыць, што пагадненне носіць не дэкларатыўны, а сапраўды "рабочы" характар. Асноўная яго скіраванасць — супрацоўніцтва па абмене інфармацыяй пра кніжную прадукцыю, што выпускаецца на тэрыторыі Беларусі і Расіі.

**— Пра якія менавіта выданні ідзе гаворка?**

— На працягу шэрагу апошніх год больш як 20 працэнтаў па назвах і больш як 40 працэнтаў па тыражы ў сукупнасці кніжнай прадукцыі Беларусі займаюць сумесныя расійска-беларускія праекты. І яшчэ каля 500 выданняў друкуюцца на паліграфічнай базе Беларусі па заказах расійскіх выдаўцоў. Але ў апошні час назіраецца адваротная тэндэнцыя: некаторыя буйныя беларускія выдаўцы сыходзяць на расійскі паліграфічны рынак. Натуральна і заканамерна, што кніжныя палаты жадаюць валодаць інфармацыяй пра падобныя выдавецкія праекты, а прававых механізмаў для гэтага, на жаль, не заўсёды дастаткова. У гэтай сітуацыі актуальнасць такіх пагадненняў відавочная, і не толькі для кніжных палат. Дакумент падпісаны ў верасні, і сёння ўжо можна падвесці пэўныя вынікі супрацоўніцтва. Дзякуючы дадзеным, якія нам прадаставіла Расійская кніжная палата, а гэта каля тысячы найменняў кніг, у архіў друку Нацыянальнай кніжнай палаты Беларусі паступіла 121 выданне. Асабліва хачу падкрэсліць, што дамова будзе садзейнічаць рэалізацыі пагаднення дзяржаўудзельніц СНД "Пра супрацоўніцтва ў галіне кнігавыдання, кнігараспаўсюджвання і паліграфіі", падпісанага 6 красавіка 2004 года...

**— Завяршыўся 2010 год. Якім ён стаў для Нацыянальнай кніжнай палаты Беларусі?**

— Мінулы год для нас, з аднаго боку, быў складаным, а з іншага — цікавым і плённым у прафесійных адносінах. Складаным, бо мы ўсе працавалі ва ўмовах эканамічнага крызісу, складаным, таму што ў гэтым годзе мы сутыкнуліся з праблемай, з якой раней ці пазней сутыкаюцца ўсе архівы і бібліятэкі, — дэфіцыту плошчаў для далейшага размяшчэння архіўнага фонду. Праблема складаная, яна патрабуе значных фінансавых укладанняў і рашэння на дзяржаўным узроўні. А цікавым гэты год быў тым, што рэалізоўвалася і рэалізавана некалькі цікавых і значных праектаў.

Па-першае, не так даўно былі падпісаны дакументы аб здачы ў эксплуатацыю новай інфармацыйнай сістэмы дзяржаўнай бібліяграфічнай інфармацыі, створанай на базе кніжнай палаты ў межах Дзяржпраграмы "Электронная Беларусь" па заказе Міністэрства інфармацыі краіны. Думаю, што пра гэтую падзею мы больш падрабязна раскажам у адным з бліжэйшых выпускаў "Кніжнага свету". Скажу толькі, што сістэма не проста дазволіць весці апрацоўку ўсёй выдавецкай прадукцыі Беларусі — а гэта каля 70 тысяч адзінак на год, — але і забяспечыць доступ аддаленых карыстальнікаў да базы дадзеных бібліяграфічнай інфармацыі, дазволіць аўтарызаваным карыстальнікам самастойна фарміраваць запыты і атрымліваць неабходную інфармацыю.

Актыўна працягвалася праца па стварэнні рэтраспектыўнага бібліяграфічнага паказальніка "Часопісы Беларусі", які стане працягам паказальніка "Газеты Беларусі" (2003 г.) і будзе ўключаць дадзеныя пра часопісы Беларусі пачынаючы з канца XVII ст., калі выйшаў першы на тэрыторыі Беларусі бюлетэнь "Awizy Grodzieńskie" (на польскай мове), і да 2000 года. Працягвалася праца па пераглядзе падыходаў да статыстыкі друку, якія амаль не змяняліся з савецкіх часоў. У 2011 годзе плануецца завяршыць распрацоўку новага дзяржаўнага стандарта па статыстыцы друку, які ўнясе карэктывы ў дадзеныя статыстыкі друку і прывядзе яе да сучасных рэалій.

**— Якія тэндэнцыі назіраюцца ў кнігавыданні ў апошнія гады?**

— У 2010 годзе ў Беларусі выпушчана 11 тысяч кніг (лічба пакуль недакладная), а тыраж знізіўся на 10 мільёнаў асобнікаў у параўнанні з 2009 годам і папярэдне склаў каля 43 мільёнаў асобнікаў. На жаль, даводзіцца канстатаваць факт, што ў 2010 годзе тэндэнцыі падзення як колькасці выданняў, так і іх тыражу не проста захоўваюцца, але і прагрэсуюць.

Што яшчэ цікава было б заўважыць? На працягу шэрагу апошніх год у айчыннай выдавецкай прадукцыі дамінуюць кнігі, што выпускаюцца невялікімі тыражамі, да 500 асобнікаў. Яны складаюць каля 44 працэнтаў усёй кніжнай прадукцыі. Але, што цікава, у гэтую групу трапляюць і навуковыя выданні, сярэдні тыраж якіх, напрыклад, у 2009 годзе склаў 195 экзэмпляраў. А за апошнія 10 год тыраж навуковых выданняў зменшыўся амаль на 80 працэнтаў. Згадзіцеся, гэта глеба для роздуму.

Да таго ж, калі гаворка ідзе пра кнігу, аперыраваць толькі колькаснымі паказчыкамі па меншай меры недастаткова. Важным з'яўляецца змяставане напаўненне кніжнага рынку. Яно дазваляе адказаць на пытанні: што мы сёння выдаём? Што прапануе нам айчынны кніжны рынак? А што чытаем? Якое месца адведзена кнізе ў нашым жыцці? Пра гэта можна разважаць бясконца. Дарэчы, і "Кніжны свет" не абыходзіць гэтую тэму. Я маю на ўвазе рубрыкі "Час чытаць", "Аўтограф", рэйтынгі "Топ-10" і іншыя матэрыялы.

На мой погляд, цікавай тэндэнцыяй кнігавыдання 2010 года стала з'яўленне кніг, аўтары якіх спрабуюць прыцягнуць увагу да асэнсавання, а часта і пераасэнсавання нацыянальнай гісторыі, культуры, да традыцый і ментальнасці беларускага народа, а таксама да сучасных палітычных і эканамічных праблем Беларусі. Гэтая тэма знаходзіць адлюстраванне ў навуковых, навукова-папулярных і мастацкіх публікацыях, якія ўсе разам фарміруюць тое, што часта называюць "нацыянальнай ідэяй", "брэндам краіны". Гэта ўнікальныя кнігі выдавецтва "Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі": "Радзівілы. Альбом партрэтаў XVIII — XIX стагоддзяў", энцыклапедыі "Вялікае Княства Літоўскае", "Культура Беларусі", "Природа Беларуси" і іншыя. Гэта кнігі выдавецтва "Мастацкая літаратура", РВУ "Літаратура і Мастацтва", якія папулярызуюць творчасць класікаў беларускай літаратуры і нашых сучаснікаў. Безумоўна, выклікалі цікавасць кнігі, якія не проста здзіўлялі, але часам і шакіравалі чытачоў. Напрыклад, выданне "История имперских отношений: беларусы и русские, 1772 — 1991" (Мінск, ФУАинформ, 2010), галоўнай ідэяй якой з'яўляецца быццам даказаны ўжо факт, што "няма ніякіх братоў-народаў. Рускія, беларусы і украінцы тры абсалютна розныя этнасы. Розныя генетычна, псіхалагічна, гістарычна". Арыгінальныя погляды на паходжанне беларускага, рускага і ўкраінскага народаў выкладзены ў кнізе М. Галдзянкова "Утраченная Русь: Забытая Литва, Неизвестная Московия, Запрещённая Беларусь" (Мінск, "Современная школа", 2010). Нельга не адзначыць і кнігу Ю. Чарняўскай "Белорусы. От "тутэйшых" — к нации" (Мінск, ФУАинформ, 2010), у якой аўтар спрабуе знайсці адказы на пытанні пра ментальнасць беларускіх сялян ("тутэйшых") у старажытнасці і сучасных беларусаў. Шмат і іншых цікавых выданняў, у тым ліку навуковых, якія змяшчаюць афіцыйна-дзяржаўныя падыходы да гэтай тэмы. Іх, напрыклад, выдаваў Інфармацыйна-аналітычны цэнтр пры Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

## Час чытаць


Фота Кастуся Дробава

### Мару перачытаць усю беларускую класіку

**Таццяна Бялова, дырэктар выдавецтва "Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі":**

— Жыццё ідзе па спіралі — я, дачка бібліятэкара, гадавалася сярод кніг, сёння мая прафесійная дзейнасць непасрэдна звязана з іх выданнем.

Мяне з самага дзяцінства цікавілі тоўстыя кнігі — энцыклапедыі. У іх было так многа дзіўнага, цікавага. (Існуе меркаванне, што малое дзіця пры нараджэнні ведае болей за дарослага, а калі падрастае, губляе гэту асаблівасць.) Мне здавалася, я ўсё разумею. Чаго не магу сказаць пра том, які мы нядаўна выпусцілі ў свет — "Фізіка. Матэматыка", другі са шматтомнага выдання "Энцыклапедыя для школьнікаў і студэнтаў".

Мой светапогляд фарміравала сур'ёзная літаратура. Сёння ў асноўным чытаю тое, што ідзе праз выдавецтва. Люблю тоўстыя часопісы: "Наш современник", "Нёман", "Полымя"… Люблю сур'ёзную гістарычную літаратуру — Уладзімір Караткевіч, Іван Мележ, Іван Шамякін (яго вельмі любіла маці, зараз, калі яе няма, чытаю старонкі яго твораў і разумею, што ў яе быў выключны літаратурны густ). Мару пра тое — калі будзе шмат часу, — каб перачытаць усю беларускую класіку.

## Прэзентацыя

У Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Я. Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі прайшла прэзентацыя кнігі "Яков Оттонович Наркевич-Иодко (1847 — 1905): биобиблиографический указатель" (складальнікі: Н. Ю. Бярозкіна, В. А. Гапоненка). Паказальнік уключае больш як 1200 крыніц інфармацыі: пералік работ вучонага, спіс літаратуры пра яго жыццё і навуковую дзейнасць. Падчас прэзентацыі ўпершыню экспанаваліся копіі ўключаных у паказальнік артыкулаў з рэдкіх выданняў кніг і часопісаў XIX — пачатку XX ст. і атрыманых Якавам Наркевічам-Ёдкам электраграфічных здымкаў, што захоўваюцца ў архівах і бібліятэках замежных краін.

*Віртуальныя вандроўкі*

# Як купіць кнігу ў Кітаі?..

Вераніка ЛАЗОЎСКАЯ,
г. Пекін

**По дадзеных, апублікаваных у дакладзе Аддзела па справах выдавецкай дзейнасці Галоўнага ўпраўлення інфармацыі і выдавецкай дзейнасці КНР, у Кітаі за 2009 год было выдадзена трыста дзве тысячы назваў кніг. Лічба для Беларусі неймаверная. Статыстыка — рэч умоўная. І тым не меней любая статыстычная інфармацыя пра маштабы кнігагандлю ў Кітаі, несумненна, выкліча ў нашых выдаўцоў пэўнае захапленне і зразумелую зайздрасць.**

Давайце завітаем у Кніжны дом “Чжунгуаньцунь”. Гэта адна з трох самых буйных кніжных крам у Пекіне. Яна знаходзіцца ў паўночна-заходняй частцы сталіцы, побач з “Кітайскай сіліконавай далінай”, вядучымі ВНУ краіны — Пекінскім універсітэтам і ўніверсітэтам Цінхуа, мноствам навукова-даследчых цэнтраў. Гандлёвыя плошчы Кніжнага дома “Чжунгуаньцунь” складаюць амаль дзесяць тысяч квадратных метраў. Для параўнання: у мінскім ГУМе пад гандаль аддадзена шэсць з паловай тысяч квадратных метраў.

Калі ў пакупніка ёсць разуменне, якое выданне яму патрэбна, ён ведае назву і аўтара, самастойна знайсці кнігу вельмі проста. На кожным паверсе кнігарні размешчаны ад дзесяці да пятнаццаці камп’ютараў з электронным каталогам.

Але калі ў вас няма пэўнай мэты і вы вырашылі выдаткаваць вольныя гадзіны, а магчыма, і цэлы дзень пошуку кніжных прыгод, знаёмства з кніжным домам “Чжунгуаньцунь” лепш за ўсё пачаць з апошняга, чацвёртага, паверха. Левае крыло паверха прысвечана ў асноўным творам кітайскай і замежнай мастацкай літаратуры. Улічваючы іерагліфічнае пісьмо і іншыя асаблівасці кітайскай мовы, выданні размешчаны не ў алфавітным парадку, а ў адпаведнасці з жанрамі ці серыямі: класіка, сучасны раман, публіцыстыка, паэзія, літаратурная крытыка.

Кніжны дом “Чжунгуаньцунь” прапануе наведвальнікам каля дваццаці тысяч назваў кніг, аўдыё- і відэапрадукцыі. Разгубіцца сярод такой разнастайнасці можа кожны. Таму чытачы ахвотна прыслухоўваюцца да парад літаратурных крытыкаў, вывучаюць рэйтынгі продажаў і вынікі прэмій. Самая прэстыжная і ўплывовая літаратурная прэмія ў Кітаі — Літаратурная прэмія імя Маа Дуня. Яна была заснавана ў 1982 годзе, абвяшчэнне прызёраў адбываецца кожныя чатыры гады. У Кніжным доме “Чжунгуаньцунь” нават ёсць спецыяльны стэлаж, на якім размешчаны толькі творы — пераможцы гэтай прэміі. Напрыклад, раманы дастаткова вядомай рускамоўнаму чытачу пісьменніцы Чжан Цзэ “Цяжкія крылы” і “Без слоў”. На паліцах стэлажа пакупнік знойдзе раманы прызёраў 2008 года: аналагічную функцыю выконваюць наклейкі на некаторых паліцках “Асабліва рэкамендуем”.

На стэлажах з сучаснай паэзіяй кідаюцца ў вочы зборнікі вершаў Маа Цзэдуна розных выданняў, літаратурная крытыка і даследаванні, прысвечаныя паэтычнай творчасці першага лідара Кітайскай Народнай Рэспублікі. На першым паверсе можна купіць дыскі з музыкай і відэа.

Не буду сцвярджаць, але магчыма, беларускіх прадаўцоў спецыяльна вучаць: калі пакупнік трымае кнігу ў руках больш за пяць хвілін, грошай ад яго не дачакаешся, і таму на такіх пакупнікоў трэба падазрона пазіраць, назойліва цікавіцца, што ён шукае і ці патрэбна яму дапамога. Кітайская кнігарня — іншая справа. У Кітаі попыт на кнігі вялікі, але і канкурэнцыя моцная. І за магчымасць прывабіць большую колькасць наведвальнікаў, а значыць патэнцыяльных пакупнікоў змагаюцца рознымі спосабамі. Нават у самай маленькай кнігарні — памерам з невялічкі пакойчык — можна сесці на падлогу ці ўтульна размясціцца ў крэсле (калі яно ёсць) і чытаць, чытаць — з раніцы да вечара.



Фота аўтара

Уладальнік яшчэ адной знакамітай пекінскай кнігарні “Ваньшэн шуюань” Лю Сулі звярнуў увагу на наступную заканамернасць: вучні пасля заняткаў не абмінуць кнігарню, калі ў краме шмат дзіцячых кніжак. Дзіцячая літаратура нязменна карыстаецца папулярнасцю ў любой краіне. Адпаведна першапачатковаму плану дзіцячыя выданні павінны былі стаць асноўнай крыніцай прыбытку і складаць каля дваццаці працэнтаў тавараразвароту “Ваньшэн шуюань”. Аднак у Кітаі, як паказала практыка, вучні кніжак амаль не купляюць, і кнігарня для іх — своеасаблівая чытальная зала. Выданні зачытваюць да дзірак, і прадаць іх ужо амаль немагчыма. Таму сучасныя выдавецтвы пачалі выпускаць кніжкі, запакаваныя ў поліэтылен. Затым у краме з адной кнігі здымаюць цэлафан і, каб наведвальнікам было зручна ёю карыстацца, кладуць адкрытую кнігу наверх стоса.

Нядзіўна, што стэлаж з кнігамі займальных жанраў — дэтэктывамі, трылерамі, навуковай фантастыкай — адзін з самых запатрабаваных у краме. На паліцах шмат замежных аўтараў. Як, дарэчы, і ў кнігарнях Масквы і Мінска.

***На здымку:** рэкламная акцыя: купі пяць выданняў з гэтай паліцы і атрымай тэрмас для заняткаў спортам у падарунак.*

# Усё — для пакупніка!

**Антон Рубінштэйн калісьці паўтараў, што ён ацэньвае горад па колькасці кнігарняў у ім. Вось я і вырашыў паспрабаваць ацаніць кніжныя крамы Познані (Польшча). Шчыра кажучы, знайсці кнігарню тут нескладана. Толькі на пляцы Свабоды я налічыў тры, дзве з іх — не маленькіх памераў. Менавіта адну з іх мы сёння і наведаем.**

Арцём ТКАЧУК,
г. Познань

“Эмпік” (pol. Empik) — адна з крам найбуйнейшай сеткі кнігарняў у Польшчы. Шчыра кажучы, ужо вонкавы выгляд магазіна не пакідае абыякавым. Як кажуць, сустракаюць па адзенні. Першае, што запамінаецца, — ветлівы ахоўнік, які вітаецца з кожным, хто заходзіць у краму. Увайшоўшы ў кнігарню, адразу заўважаеш выставу літаратурных навінак. Пры гэтым большасць з іх — творы замежных пісьменнікаў.

Кнігі прадстаўлены ў велізарнай калекцыі, і калі пакупнік не знаходзіць патрэбнай, тут жа можа падаць заяўку, і ў бліжэйшы час гэтая кніга з’явіцца. Ухіл робіцца на разнастайнасць: ёсць паліцы з навуковай, навукова-папулярнай, мастацкай літаратурай, вучэбнымі дапаможнікамі. На паліцах са слоўнікамі можна знайсці нават слоўнікі японскай, грэчаскай, фінскай, дацкай, славацкай, шведскай, турэцкай і іншых моў, не кажучы пра найвялізнейшую прапанову слоўнікаў міжнародных моў зносін. Таксама ёсць літаратура на англійскай мове. У кнігарні шмат маленькіх крэслаў — пуфікаў, на якія можна прысесці і пачытаць патрэбную кнігу (між іншым, гэтым правам палякі актыўна карыстаюцца). Ёсць і спецыяльна абсталяванае месца для дзяцей.


Фота аўтара

Цікава, што кнігарня зусім не абмяжоўваецца толькі кнігамі. Тут і ўсе неабходныя рэчы для заняткаў маляваннем, і разнастайныя канцылярскія прылады, і вялізная калекцыя паштовак, і дыскі з музыкай і фільмамі, і іншыя аксесуары. Кожны можа знайсці музыку на свой густ. На суседніх паліцах стаяць джаз і класіка, поп-музыка і рок. Пры гэтым прадстаўлены як найноўшыя альбомы, так і легенды музыкі 1970 — 1990-х гг. Дыск, які спадабаўся, можна паслухаць на спецыяльным прайгравальніку. Ёсць выбар электронных адукацыйных праграм, слоўнікаў, дакументальных фільмаў. Уся прадукцыя ліцэнзаваная, што, у сваю чаргу, адбіваецца на кошце. Аднак тут людзі прывыклі плаціць аўтарам за іх працу.

Асаблівае месца ў кнігарні займае аддзел часопісаў, газет і іншай перыёдыкі. Можна набыць нават найбольш аўтарытэтныя нямецкія, французскія, рускія і англійскія газеты. У краме таксама ёсць спецыяльная зала для пастаянных выстаў і прэзентацый.

У цэлым, крама ўражвае. Вельмі прыемна сюды прыходзіць хаця б дзеля таго, каб пачытаць кнігу, на якую проста не хапае грошай. Пры выхадзе ахоўнік зноў дорыць кожнаму ўсмешку і развітваецца. Пасля гэтай невялічкай экскурсіі застаюцца толькі прыемныя ўражанні. Так што дзякуючы сэрвісу ў “Эмпіку” боль ад удару па кішэні пасля новай пакупкі амаль неадчувальны.

***На здымку:** кнігарня “Эмпік”.*

*Азбука Морзэ*

Чэслава ПАЛУЯН

● Па інфармацыі Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Нацыянальнай бібліятэкай Беларусі пры ўдзеле Нацыянальнай кніжнай палаты і буйнейшых бібліятэк краіны была распрацавана “Праграма развіцця нацыянальнай бібліяграфіі Беларусі на 2011 — 2015 гг. і на перспектыву”. Праграма зацверджана Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь і Міністэрствам інфармацыі краіны. У выніку рэалізацыі дадзенай праграмы будзе створаны карпаратыўны электронны інфармацыйны рэсурс нацыянальнай бібліяграфіі, які дазволіць аб’яднаць звесткі пра ўсе дакументы: ад старадрукаванай кнігі да выданняў цяперашняга часу, забяспечыць доступ да электронных інфармацыйных рэсурсаў устаноў, дазволіць інтэграваць крыніцы нацыянальнай бібліяграфіі з Нацыянальнай электроннай бібліятэкай.

— У апошнія дні 2010 года ў Варшаве, у выдавецтве “Сава” ў перакладзе на беларускую мову Міколы Хаўстовіча пабачыла свет “Аповесць з майго часу, або Літоўскія прыгоды”. Напісаную на пачатку 50-х гадоў XIX ст., кнігу можна лічыць гістарычным творам, бо мастацкі час пачынаецца ў канцы XVIII ст., а заканчваецца падзеямі ў Крошыне 1828 года. Доўгі час “Аповесць…” заставалася загадкай для навукоўцаў. Каб адкрыць яе аўтарства, даследчыкам спатрэбілася 40 гадоў. Аўтар — Ігнацы Яцкоўскі, паўстанец-эмігрант, публікатар верша П. Багрыма “Зайграй, зайграй, хлопча малы…”. Нязменнаю, такой жа, як і ў арыгінальным выданні, засталася вокладка кнігі, адметнасць яе ў тым, што на ёй няма прозвішча аўтара.

● У беларускім сегменце ЖЖ з’явіўся своеасаблівы эстэтычны адказ і працяг дыскусіі з нагоды выхаду жаночага календара — “Беларускі жаночы каляндар: анталогія” — інтэрнэт-макет календара на 2011 год. Ён быў створаны з мэтай пазнаёміць чытача з асобнымі, напісанымі пераважна ў 1990-х, творамі беларускіх пісьменніц. Паводле яго складальнікаў, “каляндар створаны ананімна, распаўсюджваецца бясплатна, існуе толькі ў інтэрнэт-версіі. Каляндар прысвячаецца светлай памяці беларускай паэткі Таццяны Сапач”. Каляндар не ўтрымлівае здымкаў, а ўякасці мадэляў у ім змешчаны тэксты.

— У ЗША рыхтуецца новае выданне кніг Марка Твэна “Прыгоды Гекльберы Фіна” і “Прыгоды Тома Соера”, у якіх будуць заменены крыўдныя для чытачоў словы. Гаворка ідзе пра замену слоў “негр” і “раб”, а таксама іх сінонімаў, што абазначаюць чарнаскурых, якія працуюць на белых гаспадароў.

● Стывен Кінг, прызнаны майстар трылера, апублікаваў спіс дзесяці лепшых кніг, якія ён прачытаў у 2010 годзе. Сярод твораў сучасных аўтараў, кожнага з якіх хвалююць розныя тэмы, — і кніга Дэвіда Беніёфа “Горад злодзеяў”. Прататыпам галоўнага героя кнігі, Льва Бенёва, стаў дзядуля аўтара. Падзеі рамана, часам трагічныя, а часам і вясёлыя, аптымістычныя, адбываюцца ў блакадным Ленінградзе ў 1942 годзе.

# Сто раз… прочитать!



















**Лучше один раз увидеть… — гласит известная поговорка. Но это не всегда так. Авторы книг ООО "Харвест", которые мы сегодня представляем вниманию читателей "Кніжнага свету", утверждают иное: лучше прочитать о сотне мест, замков, национальных парков и заповедников, сокровищ человечества, а потом — решиться их увидеть не только на фото в книге, но и воочию. В любом случае — решение за вами, но авторы советуют: сначала — прочитать.**

**Юзефа ВОЛК,**
**Денис МАРТИНОВИЧ,**
**Ольга ПАВЛЮЧЕНКО**

## Легенды, предания, факты

Важные исторические события разных времён, как правило, происходили в замках, замки традиционно являются местами действия исторических, приключенческих, мистических романов. С древними зданиями связано множество легенд, преданий, удивительных историй и реальных фактов. Являясь значительными культурными и историческими ценностями, замки разных типов во все времена притягивали внимание не только специалистов-исследователей, но и просто любопытных туристов, и сегодня они становятся местом воссоздания событий прошлого в виде исторической реконструкции или съёмок фильмов.

Какой европейский замок дважды вошёл в Книгу рекордов Гиннеса? Какое древнее здание является последним настоящим замком в Англии? Где останавливался лорд Байрон во время своего пребывания в Швейцарии? На эти и многие другие вопросы читатель найдёт ответы в книге И. Е. Гусева **"100 величайших замков, которые необходимо увидеть"**.

В книге рассказывается об истории возникновения замков, о людях, которым они принадлежали в разное время, об их архитекторах и строителях, о том, какие изменения претерпели сооружения с течением времени во внешнем и внутреннем облике и какое место они занимают в настоящее время в мировой культуре. Здесь представлены не только знаменитые европейские здания, но и принадлежащие восточно-азиатской культуре, о которых современный читатель знает сравнительно мало.

Большое количество иллюстраций поможет окунуться в атмосферу таинственности этих загадочных произведений архитектуры, прочувствовать их величие, что непременно вызовет желание побывать в этих местах. А начать путешествие (реальное или виртуальное) лучше с близкого и знакомого — башни замка Гедимина в Вильнюсе, который тесно связан с историей Великого Княжества Литовского. Ну, или с Мальборкского замка в Польше, бывшей резиденции Тевтонского ордена, или замка Лидзбарк Варминский (Польша), где некоторое время жил и работал Николай Коперник.

## Увидеть Париж и…

Стоунхендж, Озеро Титикака, Ниагарский водопад, Прага, Киев, Венеция, Краков, Лапландия… Что объединяет эти города, регионы, памятники, водоёмы, расположенные на разных континентах? Ответ на него даёт Татьяна Шереметьева: это места, которые необходимо увидеть.

В книге **"100 мест на земле, которые необходимо увидеть"** автор рассказывает не только о местах с первозданной природой, но и о многих известных городах, где находятся архитектурные шедевры и памятники культуры, музеи с художественными ценностями. На страницах представлены не только достопримечательности, ставшие общечеловеческими ценностями, но и описаны характерные для того или иного места развлечения — будь то обычное посещение ресторана с экзотической кухней, экскурсия в национальный парк Серенгети или отдых в таком райском месте, как остров Пинанг, а для любителей экстрима предложены необычные, порой даже опасные путешествия — восхождение на Килиманджаро, участие в сафари, исследование грандиозного комплекса пещер, водопадов и оврагов Гранд-Каньон.

Книга хорошо иллюстрирована, на фотографиях представлены не только традиционные достопримечательности и пейзажи, но и особенности местности — животные и птицы, блюда национальной кухни, знаковые личности, необычные скульптуры.

## Шедевры и сокровища

Сокровищами культуры, созданными человечеством за долгую историю существования, можно назвать грандиозные архитектурные сооружения, выдающиеся произведения искусства, уникальные природные ландшафты. Но если литературную классику Л. Толстого можно прочитать не выходя из дома, музыку Дж. Верди услышать в оперном театре или даже на CD-диске, а точную копию картины И. Левитана — в одном из художественных музеев, то оценить многочисленные и разнообразные архитектурные памятники, а также чудеса, созданные природой, можно только непосредственно увидев их.

В какую же страну направиться? Как не ошибиться и увидеть действительно самое важное? В этом читателям поможет книга Татьяны Шереметьевой **"100 сокровищ человечества, которые необходимо увидеть"**. Перед вашим взором предстанут исторические памятники и монументальные дворцы прошлого, кафедральные соборы и небольшие переулки, а также восхитительные природные ландшафты и нетронутые уголки дикой природы. Вы узнаете о традициях и легендах этих мест, об их реликвиях и тайнах, о достопримечательностях и архитектурных шедеврах минувших эпох. Причём, на страницах издания не только приведены иллюстрированные описания этих прекрасных уголков земли, но и содержится множество фотографий, а также полезная для туристов информация.

Для тех читателей, которые принципиально являются домоседами, "100 сокровищ человечества" станут прекрасным подарочным изданием, помогут интеллектуально отдохнуть и позволят расширить кругозор. А вот для тех, кто не спешит выезжать на чужбину и путешествует только по своей стране, книга, бесспорно, станет предметом лёгкой зависти и примером того, как надо беречь отечественные памятники старины.

## Трус не играет в… войну!

Среди представителей мужской половины человечества вряд ли найдётся тот, кто не играл в детстве в солдатиков. Кто не бегал во время учёбы в младших классах по соседским дворам, сжимая в руках игрушечный автомат. Кто не играл во время "переходного возраста" в военные компьютерные игры. Для кого любой фильм был интересен лишь с точки зрения взрывов и стрельбы, а также компьютерных спецэффектов. Кто, читая "Войну и мир", обращал внимание в заголовке только на первое слово.

И пусть немногие из них связали свою судьбу с профессиональной армией, интерес к войнам и походам остался в их жизни навсегда. Уверены, издание **"100 величайших битв и сражений"**, написанное Анной Спектор, станет для таких читателей настольной книгой.

Данное издание охватывает период от древних времен до наших дней и содержит подробное описание самых известных битв и сражений, которые происходили в мире. По ширине охватываемого материала, достоверности, а также объективному подходу к описываемым событиям она вряд ли найдёт равных на книжном рынке стран СНГ.

Красочные и подробные карты и схемы, дополненные иллюстрациями и описаниями исторических фактов, дают прекрасную возможность составить мнение о величайших военных событиях мира. А настоящим романтикам воображение позволит принять в них самое непосредственное участие.

Издание предназначено как для тех, кто интересуется военной историей, так и для широкого круга читателей. В мире, пожалуй, найдётся немного стран, которые не участвовали бы в различного рода военных конфликтах, будь то войны мирового масштаба или локальные боевые действия в отдельно взятой стране. Поэтому в случае переезда или смены места жительства не забудьте положить "100 величайших битв и сражений" в свою дорожную сумку. Только не перепутайте страну! Уверен, французам глава "Битва при Ватерлоо" вряд ли понравится.

## Цели должны быть великими

А вот шаги к их достижению можно и нужно дробить. Главное, чтобы вектор движения чётко осознавался. Именно для этого нужно взять в руки книгу Татьяны Шереметьевой **"100 городов мира, которые необходимо увидеть"** и определиться, какие города мира стоит посетить в первую очередь. Агра и Эдинбург, Будапешт и Прага, Зальцбург и Токио… Лучшие виды и наиболее известные места ста городов нашей планеты запечатлены на иллюстрациях этой книги: блюда из морских деликатесов в меню сиднейских ресторанов, мост "Золотые ворота", дома в викторианском стиле и памятник Махатме Ганди в Сан-Франциско, витраж в Кафедральном соборе св. Стефана в Брисбене, скульптуру рабочего, который "выглядывает" из канализационного люка на тротуаре в Братиславе… Как здорово, наверное, услышать колокол Зигмунда в краковском Кафедральном соборе св. Станислава и Вацлава на Вавеле, попробовать в Валлетте маленькие слоёные пирожные "фиголла" с пикантной миндальной начинкой, которые традиционно подают к кофе во всём Средиземноморье, пройтись по пляжу Копакабана и стать участником карнавала в Рио-де-Жанейро, посетить музей шоколада, великолепный собор и привезти флакончик "воды из Кёльна" — города, который вечно жив в слове "одеколон"… Можно с невероятным удовольствием отметить в списке те города, в которых уже удалось побывать, и сравнить их виды с фото из семейных альбомов. А можно составить по образу и подобию этого издания свой список близких сердцу мест, которые не менее красивы, но, может быть, ещё не настолько известны.

Впрочем, это дело поправимое — ведь каждый из нас в душе путешественник.

## Созданное природой, сохранённое людьми

В книге **"100 самых знаменитых парков и заповедников мира"** Татьяны Шереметьевой читатель отыщет красоты национальных парков Австралии ("Какаду"), Исландии ("Скафтафетль"), Канады ("Джаспер") и многих других известных парков и заповедников нашей планеты. Богатый иллюстративный материал предоставляет уникальную возможность побывать в парках Испании и Чехии, заглянуть во дворцовые парки Японии, Швеции, Германии, Австрии, Франции. А также открыть для себя красоты природы Китая, Танзании, Кении и даже Непала и ЮАР. Самые большие главы книги посвящены России и США. В России кроме всемирно известных парков Петергофа и Ораниенбаума, Царицынского, Екатерининского и Александровского в Царском Селе стоит посмотреть Долину гейзеров и государственный природный заповедник "Столбы", расположенный на северо-западных отрогах Восточного Саяна. Каждый "столб" — остывшая магма вулкана — и даже отдельные фрагменты имеют имена: Такмак, Первенец, Перья, Слоник, Львиные ворота, Дед… У них есть и давние почитатели — в Красноярске существует общество любителей свободного лазанья по скалам-столбам, у которого свои обычаи, традиции, обряды, места для стоянок. Государственным природным заповедником "Столбы" стали в 1925 году, во многом благодаря любителям скалолазанья, которые ещё сто лет назад способствовали сохранению природного памятника.

# Навінкі кнігавыдання

*Айчынныя выданні, зарэгістраваныя Нацыянальнай кніжнай палатай Беларусі апошнім часам*

## Чытальная зала




### Шляхецкія карані беларусаў

У РВУ "Літаратура і Мастацтва" не так даўно пабачыла свет незвычайная кніга "Срэбная страла ў чырвоным полі: з гісторыі беларускіх прыватных гербаў", у якой сабраны выявы беларускіх шляхецкіх гербаў, пералічаны прозвішчы родаў, што імі карысталіся, прыведзены і кароткі нарыс узнікнення гербаў як асаблівых адзнак тых жа родаў. Аўтар гэтага выдання — мастак і журналіст Уладзімір Крукоўскі.

Як узнікла ідэя сабраць пад адной вокладкай беларускія прыватныя гербы? З чаго пачалася праца? На гэтыя пытанні адказаў сам Уладзімір Якаўлевіч: "Усё пачалося прыкладна ў 1989 — 1990 гг. Я тады быў мастацкім рэдактарам часопіса "Спадчына" і таму пэўны час праводзіў у Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі, шукаў матэрыялы для публікацый, а заадно — звесткі пра ўласны радавод. З дзяцінства ведаў, што Крукоўскія — старажытны шляхецкі род, ведаў і некаторыя факты з гісторыі нашай сям'і. Выкарыстоўваючы магчымасці працы ў архіве, шукаючы свае карані, аформіў уласны радавод, які разам з артыкулам "Гонар і годнасць" быў апублікаваны ў "Звяздзе" ў верасні 1990 г.

Працуючы ў архіве, праглядаючы мноства матэрыялаў, часта сустракаў у дакументах радаводы беларускай шляхты і каляровыя выявы іх гербаў, фатаграфаваў іх. Так назбіралася паўтары сотні, а можа, нават і болей, ілюстрацый. Каб абвергнуць крыўдную гістарычную тэндэнцыю, што беларусы — нацыя сялянская, што тут няма шляхты, дваранства, задумаў пазнаёміць чытачоў, грамадскасць з гэтым матэрыялам. Так, на працягу трох год рэгулярна, з нумара ў нумар, у часопісе "Спадчына" друкавалася некалькі гербаў з далучанымі да іх спісамі гербаўладальнікаў. У 1995 годзе апублікаваў вялікі артыкул, які і стаў асновай гэтай кнігі. У ім выклаў свае меркаванні, погляды на праблему. З'явілася і задума выдаць кнігу, я нават атрымаў станоўчыя рэцэнзіі на сабраны матэрыял — ад гісторыкаў Анатоля Грыцкевіча, Генадзя Сагановіча і пісьменніка Уладзіміра Арлова".

На працягу тых гадоў, што прайшлі з моманту задумы да выдання кнігі, спісы гербакарыстальнікаў увесь час папаўняліся. Публікаваліся матэрыялы і ў газеце "Звязда" — з верасня 2007 да верасня 2008 года.

Хто ж патэнцыяльны чытач гэтага выдання? "Гэта кніга для ўсіх, — разважае Уладзімір Крукоўскі.— Па публікацыях у перыядычных выданнях ведаю, што, сустрэўшы сваё прозвішча ў спісе, многія пачынаюць задаваць пытанні пра паходжанне ўласнага роду. Да таго ж, нельга забываць, што геральдыка, мастацтва малявання гербаў — адзін з відаў графікі, так што выданне можа быць цікавым і для мастацтвазнаўцаў. Але перш за ўсё гэта кніга — для беларусаў. Спадзяюся, што для многіх яна стане адкрыццём".

**Марына ВЕСЯЛУХА**

---

**Вольны час. Святочныя дні. Канікулы**

**Приглашаем в Беларусь** / [текст: А. Г. Варавва, Е. М. Апарина; фото: С. М. Плыткевич]. — Минск: Рифтур, 2010. — 40 с. — 5000 экз. — ISBN 978-985-69-19-29-2.

**55 лет в туризме!** / Белинтурист. — Минск, 2010. — 26 с. — 1000 экз.

**Туристические маршруты Минщины** = Tourist trips of Minsk region / [Управление физической культуры, спорта и туризма Минского облисполкома]. — Минск: БОФФ, [2010]. — 24 с. — Текст параллельно на русском и английском языках. — 1000 экз.

**Этнаграфія. Звычаі. Норавы. Традыцыі. Лад жыцця. Фальклор. Фальклор у вузкім сэнсе**

**Міфалагічныя ўяўленні беларусаў** / [укладальнік Новак В. С.; малюнкі Кісловай В. А.]. — Мінск: Права і эканоміка, 2010. — 533 с. — Частка тэксту на рускай мове. — 250 экз. — ISBN 978-985-442-855-0.

**Хойнікшчыны спеўная душа**: народная духоўная культура Хойніцкага краю: фальклорна-этнаграфічны зборнік / [Дземідзенка Алег Міхайлавіч і інш.; пад агульнай рэдакцыяй В. С. Новак; фотаздымкі Міколы Бяльковіча, Алега Белавусава]; Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь [і інш.]. — Мінск: Выдавецкі цэнтр БДУ, 2010. — 303 с. — Частка тэксту на рускай мове. — 1000 экз. — ISBN 978-985-476-841-0 (у пер.).

**Швед, І. А.** Уводзіны ў фалькларыстыку: вучэбна-метадычны дапаможнік для студэнтаў 1-га курса філалагічнага факультэта: у 2 ч. / І. А. Швед; Брэсцкі дзяржаўны універсітэт ім. А. С. Пушкіна. — Брэст: БрДУ, 2009–2010. — ISBN 978-985-473-408-8.

Ч. 2 / [пад рэдакцыяй У. А. Сенькаўца]. — 2010. — 114 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-473-571-9.

**МАТЭМАТЫКА І ПРЫРОДАЗНАЎЧЫЯ НАВУКІ**

**Прырода. Ахова прыродных рэсурсаў**

**Заповедное дело в Республике Беларусь: итоги и перспективы**: материалы международной научно-практической конференции, посвященной 85-летию Березинского биосферного заповедника, 22–25 сентября 2010 г., п. Домжерицы, Республика Беларусь / [редколлегия: В. С. Ивкович (отв. ред.) и др.]. — Минск: Белорусский Дом печати, 2010. — 279 с. — Часть текста на английском языке. — 150 экз. — ISBN 978-985-6587-86-6 (в пер.).

**Лупач, С. А.** Интересные факты о природе Республики Беларусь / С. А. Лупач; [фото: А. Н. Скуратович, А. С. Гиряев]; Министерство природных ресурсов и охраны окружающей среды Республики Беларусь. — Минск: Минсктиппроект, 2010. — 124 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-6735-73-1.

**Особо охраняемые природные территории Беларуси**: исследования / Управление делами Президента Республики Беларусь, Государственное природоохранное учреждение «Березинский биосферный заповедник»; [редколлегия: Ивкович В. С. (ответственный редактор) и др.]. — Минск: Белорусский Дом печати, 2006–

Вып. 5. — 2010. — 255 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-6587-87-3 (в пер.).

**Природа, человек и экология**: сборник материалов межуниверситетской студенческой научно-практической конференции, Брест, 30 апреля 2010 г. / [под общей редакцией Л. Н. Усачевой]. — Брест: БрГУ, 2010. — 54 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-473-599-3.

**Природопользование: экология, экономика, технологии**: материалы международной научной конференции, Минск, 6–8 октября 2010 г. / [редколлегия: В. С. Хомич – ответственный редактор и др.]. — Минск: Минсктиппроект, 2010. — 357 с. — Часть текста на английском языке. — 150 экз. — ISBN 978-985-6735-72-4. — ISBN 978-985-673572-4 (ошибоч.).

**Состояние природной среды Беларуси**: экологический бюллетень, 2009 г. / Национальная академия наук Беларуси, Министерство природных ресурсов и охраны окружающей среды; под общей редакцией В. Ф. Логинова. — Минск, 2010. — 394 с. — 1000 экз.

**Трафимова, Г. В.** Человек и мир: 3-й класс: о чем в учебнике не прочитаешь: пословицы, загадки, интересные факты / Г. В. Трафимова, С. А. Трафимов, М. С. Даниленко. — Минск: Аверсэв, 2010. — 158 с. — 3100 экз. — ISBN 978-985-529-395-9.

**Матэматыка**

**Барбушина, С. Г.** Считалочка: тетрадь по математике для 3-го класса: пособие для учащихся общеобразовательных учреждений с русским языком обучения: в 2 ч. / С. Г. Барбушина. — 2-е изд., исправленное. — Минск: Новое знание, 2010. — 5100 экз.

Ч. 1. — 72 с. — ISBN 978-985-475-410-9.

Ч. 2. — 72 с. — ISBN 978-985-475-411-6.

**Барвенов, С. А.** Математика: индивидуальный комплект тренировочных материалов для подготовки к централизованному тестированию: вариант № 3 (с решениями), вариант № 4 / С. А. Барвенов. — Минск: ТетраСистемс, 2010. — 10 с. — 3100 экз. — ISBN 978-985-536-102-3.

**Бубен, С. В.** Математика: сборник задач для поступающих в вузы / С. В. Бубен, В. В. Казаченок. — Минск: Издательский центр БГУ, 2010. — 380 с. — 180 экз. — ISBN 978-985-476-849-6.

**Войтова, Ю. К.** Устный счет в 5 классе: упражнения, тесты / Ю. К. Войтова. — Минск: Аверсэв, 2010. — 144 с. — 3100 экз. — ISBN 978-985-529-559-5.

**Высшая математика**: сборник заданий для аудиторной и самостоятельной работы студентов инженерно-технических специальностей: в 2 ч. / Министерство образования Республики Беларусь, Белорусский национальный технический университет, Кафедра высшей математики № 1. — Изд. 2-е. — Минск: БНТУ, 2010. — 600 экз. — ISBN 978-985-525-487-5.

Ч. 1 / [составители: А. Н. Андриянчик и др.]. — 154 с. — ISBN 978-985-525-485-1.

Ч. 2 / [составители: А. Н. Андриянчик и др.]. — 179 с. — ISBN 978-985-525-486-8.

**Высшая математика**: учебно-методическое пособие: [для студентов]: в 4 ч. / Государственный институт управления и социальных технологий БГУ, Кафедра экономики и управления бизнесом; [автор-составитель Т. В. Веремеенко]; под редакцией Л. Г. Третьяковой. — 2-е изд., исправленное. — Минск: ГИУСТ БГУ, 2010– — ISBN 978-985-491-038-3.

Ч. 4: Математическое программирование. — 2010. — 157 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-491-042-0.

**Жук, И. К.** «ГДЗ». Математика 6: решения задач приведены к учебному пособию для 6-го класса общеобразовательных учреждений «Математика 6» авторов Е. П. Кузнецовой [и др.] / И. К. Жук, С. К. Жук. — Минск: Элайда, 2010. — 217 с. — 1200 экз. — ISBN 978-985-6753-82-7.

**Задачи и упражнения по высшей математике. Аналитическая геометрия. Линейная алгебра**: учебно-методическое пособие: [для студентов] / Государственный институт управления и социальных технологий БГУ, Кафедра экономики и управления бизнесом. — Минск: ГИУСТ БГУ, 2010. — 58 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-491-046-8.

**Математика**: учебно-методическое пособие: [для студентов]: в 3 ч. / Министерство образования Республики Беларусь, Белорусский государственный педагогический университет им. Максима Танка. — Минск: БГПУ, 2008–2010. — ISBN 978-985-501-547-6.

Ч. 3 / Г. Л. Муравьева, А. А. Покало, Н. В. Толстик. — 2010. — 123 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-501-894-1.

**Рудая, Е. Н.** Занималочка. Я играю и считаю: в 2 ч. / Е. Н. Рудая; [художник С. В. Иванченко]. — Мозырь: Федосенко Е. Н., 2010– — ISBN 978-985-90223-1-9.

Ч. 1. — 2010. — 32 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-90223-2-6.

**Чеботаревская, Т. М.** Математика: 3-й класс: рабочая тетрадь № 2: пособие для учащихся общеобразовательных учреждений с русским языком обучения / Т. М. Чеботаревская, В. В. Николаева, Л. А. Бондарева. — 4-е изд. — Минск: Народная асвета, 2010. — 56 с. — 5000 экз. — ISBN 978-985-03-1434-5.

**Чеботаревская, Т. М.** Математика: 4-й класс: рабочая тетрадь № 2: пособие для учащихся общеобразовательных учреждений с русским языком обучения / Т. М. Чеботаревская, В. В. Николаева, Л. А. Бондарева. — 3-е изд. — Минск: Народная асвета, 2010. — 59 с. — 5000 экз. — ISBN 978-985-03-1435-2.

**Чеботаревская, Т. М.** Рабочая тетрадь по математике: 4-й класс: пособие для учащихся общеобразовательных учреждений с русским языком обучения / Т. М. Чеботаревская, В. В. Николаева, Л. А. Бондарева. — Минск: Юнипресс, 2010. — 127 с. — 5100 экз. — ISBN 978-985-532-351-9.

**Чеботаревская, Т. М.** Разноуровневые тематические задания по математике: 3-й класс: пособие для учащихся общеобразовательных учреждений с русским языком обучения: к учебнику Т. М. Чеботаревской, В. Л. Дрозда, А. А. Столяра «Математика. 3 класс» / Т. М. Чеботаревская, В. В. Николаева, Л. А. Бондарева. — Минск: Юнипресс, 2010. — 105 с. — 3100 экз. — ISBN 978-985-532-359-5.

**60-я Белорусская математическая олимпиада** = 60th Belarusian mathematical olympiad: сборник задач / [составители: И. И. Воронович, С. А. Мазаник]. — Минск: Белорусская ассоциация «Конкурс», 2010. — 35 с. — Текст на английском языке. — 250 экз. — ISBN 978- 985-6821-74-8.

**Фундаментальныя і агульныя праблемы матэматыкі**

**Kiselev, A.** Inaccessibility and subinaccessibility: in 2 pt. / Alexander Kiselev; Belarusian State University. — 2nd ed., enriched and improved. — Minsk: Publishing center of BSU, 2008–2010. — На англійскай мове. — ISBN 978-985-476-597-6.

Pt. 2. — 2010. — 146 c. — References: с. 143–146 (45 назв.). — 100 экз. — ISBN 978-985-476-835-9. — ISBN 978-985-835-6 (памылк.).

Кісялёў, А. А. Недасягальнасць і субнедасягальнасць.

**Тэорыя лікаў**

**Радына, А. Я.** Пачаткі неархімедавага аналізу: дапаможнік для студэнтаў механіка-матэматычнага факультэта / А. Я. Радына, Я. М. Радына, Я. В. Радына. — Мінск: БДУ, 2010. — 111 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-518-293-2.

**Алгебра**

**Алгебра**: 7-й класс: решения задач с подробными объяснениями: справочное пособие / [составитель Е. Д. Волынец]. — Минск: Кузьма, 2010. — 192 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-453-367-4.

**Алгебра**: 9-й класс: к учебному пособию «Алгебра. 9 класс» для общеобразовательных учреждений с русским языком обучения авторов Е. П. Кузнецовой [и др. / составитель Т.В.Горбацевич]. — Минск: Юнипресс, 2010. — 646 с. — 3100 экз. — ISBN 978-985-532-345-8.

**Горбацевич, Т. В.** Алгебра: 8-й класс: решение упражнений по учебному пособию «Алгебра. 8 класс» авторов Е. П. Кузнецовой [и др.], под редакцией Л. Б. Шнепермана / Т. В. Горбацевич. — Минск: Юнипресс, 2010. — 799 с. — 3100 экз. — ISBN 978-985-532-338-0.

**Геаметрыя**

**Белякова, Е. И.** Начертательная геометрия: практикум: учебное пособие для студентов высших учебных заведений по техническим специальностям / Е. И. Белякова, П. В. Зеленый; под редакцией П. В. Зеленого. — Минск: Новое знание, 2010. — 203 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-475-416-1.

**Белякова, Е. И.** Начертательная геометрия: рабочая тетрадь: для студентов высших учебных заведений / Е. И. Белякова, П. В. Зеленый; под редакцией П. В. Зеленого. — 2-е изд., стереотипное. — Минск: Новое знание, 2010. — 47 с. — 2100 экз. — ISBN 978-985-475-413-0.

**Белякова, Е. И.** Начертательная геометрия: учебное пособие для студентов высших учебных заведений по технические спе-

Дэбют



Андрэй Башлакоў

*Андрэй Башлакоў нарадзіўся ў 1983 годзе ў Гомелі, пасля Чарнобыльскай аварыі разам з бацькамі пераехаў у Мінск. Скончыў гістарычны факультэт Белдзяржуніверсітэта. Жыве і працуе ў сталіцы. Пераможца Рэспубліканскага маладзёжнага літаратурнага конкурсу ў намінацыі "Малая проза", сярод адзначаных твораў — апавяданне "Габрыэль".*

# Габрыэль

## Апавяданне

Сухвецце думак набрыняла агорклым палыном. І туманіцца тая, пра якую я думаю шэптам, каб знянацку не напалохаць мінулае. Усё даўжэйшым падаецца шлях да нязбыўна-таемных мясцін; крочу, наступаю на лісце — на сухіх матылькоў, якія адляталі, адкрасавалі сваё. Восень у лесе ўспамінаў…

Да якога чароўнага слова нячутна дакрануцца залатым пяром, каб месяц узняўся, адарыў святлом бяссонны радок?

Туман.

Густым сырым імхом абрасталі хаты. У вокнах святло ліпавага мёду спаланіла марля. Суцішыліся, апусцелі паркі. Яшчэ больш крыкліва-заўважна, колькі гора ў асірацелых дрэвах, колькі прадчування расстання ў выцягнутай галіне. Усохла вусце вуліцы непадалёк ад паднябеснага квартала, чуйнага да горных вышынь. Цьмянасць агортвае янтарыкі ліхтароў. Канец дня блукаў, губляўся ў туманным дыханні *таго*, іншага свету. А пасля асела восеньскае неба. І замерла. Вецер захлынуўся ў малочным паветры. Спыніўся, адышоў час.

Туман — натоўп знямелых зданяў. І свечкі ліхтароў у іх нябачных руках вось-вось згасіць імглістае дыханне. Даўно стаяць яны каля маёй хаты. Але ж я пад надзейнай абаронай-уладай агню, таму ўсміхаюся, угледаючыся ў змрок твараў.

Дываны, санлівыя канапы. Няспешныя старонкі празрыстай, чыстай прозы, светлай, быццам блаславенне. Скрозь іх бачу я ранішнія зоркі. І засынаю з лёгкасцю, якую калі і трапіцца заслужыць, то гадамі манастырскага жыцця. Рэдкія госці прыносілі трывогу, распавядалі, што не вяртаюцца дамоў людзі, гінуць цэлыя караваны машын, і, дапіўшы каву, госці ўздыхалі, пакідаючы ўтульны востраў. Крыху даўжэйшы век быў наканаваны галасам і паху азёрнай вады. Я падыходзіў да акна. Яго забеленае бяльмо драпала кіпцюрастая птушыная лапка сухотніцы-галіны, падманутай змарнелым пакаёвым святлом. Бедная мая, гаротная дрыяда! Лампадныя агеньчыкі выдавалі суседні будынак. Насоўвалася нешта вялікае, патанаў у хваляванні нябачны натоўп — вярнуўся, зблукаўшыся, вецер і неспакойнымі рукамі ўхутваў мой лялечны прыстанак воблакамі ваты, спакоўваў разам з бляклым лісцем. Пасля закіне, адорыць іншую планету… Я запаліў лямпу, і ўсё прычасцілася змроку.

Скрып скуранай курткі, бляск абутку, нябачнасць. Туман, насычаны змрокам, але падуладны ўсмешцы, адну за адной адкрываў свае заслоны. Воўчыя вочы аўтамабіляў. Нязрушныя сцены шматпавярховых дамоў. Выродлівы ствол хворага дрэва, набрынялы сырасцю кіслага паветра. Побач калыхаецца лодка, заспакойвае спаласаваныя нервы чалавека — на струхлелай лаўцы стары. Здымаю пальчатку, лашчу халодную, змакрэлую дошку і адчуваю пальцамі моц марской хвалі, затоеную між гэтых бартоў. І лодка ўрастае ў зямлю, хіліцца ўбок, мярцвее. Стары пахне вяленай аленінай і бачыць салёныя сны...

У чыгуннай немаце гатычны ўзор кратаў захоўвае чыесьці запаветныя сады. І па зярністым асфальце, зыбучым і гіблым на першы погляд, іду да ракі. Не збочваю з мармуровага краю набярэжнай, пільна ўслухоўваюся ў гук рачной хвалі, які адыходзіць, лапоча крыламі. І здаецца, што берагі ўсё далей.

Стомлены сіверам, я сустрэў яе ў тумане. Альбо ў паднябессі? Яна ўтаймоўвала рукою парывы паўночных светлых валасоў. У яе ўсмешцы квітнела ціхая пяшчота ранішняй расы. Я здрыгануўся, акроплены, асвечаны гэтай расой. І сустрэў погляд вуснамі, быццам святое распяцце. Ці то свята, ці то цень звечарэлых вачэй, у якіх тоіцца столькі сузор'яў. Пацеркі туману на вейках — пылок на крылцах паўночных матылькоў. І яе пах — пах журбы.

— Вітаю вас! Я — Габрыэль, — словы замільгацелі срэбрам, зродненыя з яе вачыма.

Крануўся рукой яе гарачай далоні, і вулканічны агонь выпаліў таўро на маім сэрцы… Пайшлі на брук праспекта. Я распавядаў пра кнігі і роздумы і вёў яе сцяжынай, нязведанай іншымі, у свой запаветны, стоены ад усіх вачэй зямлі свет. Але пры гэтым словам ці жэстам яна на схілах маёй думкі пакідала вехі, каб пасля вярнуцца ў туман. І вехі былі знакамі-слупамі расстання. А я ўжо не памятаў адзіноты і рассыпаў перад ёю пялёсткі кветак, якім наканавана распусціцца толькі аднойчы на сонечным экватары душы. Яна ж, як ноч, пакінутая месяцам, стаяла на варце сваіх схаваных за аблокамі цудаў.

— Я вас прадчувала…

Прапанаваў сагрэцца ў маленькім кафэ. Смяялася, паскарала хаду, уся вытканая з белага, у белым паліто. І мне было не пад сілу апярэдзіць туман.

— Заўтра а сёмай.

Спыніўся, дыханне дастасаваў да рытму сэрца і голасам неслухмяным ледзь не нададраваў дзівосную мелодыку яе чароўнага імя:

— Габрыэль!

У адказ заскавыталі тармазы. І я раструшчаны, ды не коламі, а настолькі ж імклівай думкай: а сёмай… Габрыэль, дзе ж а сёмай?!

Кудлаты гультаяваты пуф спуджана прытуліў да сваёй зродненай з пылам морды зацёртыя вушы падушак. А няўрымслівы тэлефонны апарат змоўк, здзіўлены, калі я, не звярнуўшы ўвагі на яго старэчы дрыготкі голас, адразу падаўся на балкон, тоячы ў сабе страх спаланіць хваляваннем пакой, усю хату. Счарнелая заварка смутку, што заўчасна спазнала кіпень, ахаладжвалася, ападалі кудысь на днішча горкія згусткі сумненняў. Вярну яе абраз імкліваму натоўпу, і пад уладай будзённай рамкі ён хутка выцвіце, спустошацца вочы, згаснуць сузор'і. Састарэе маё ўражанне. І перш чым надыдзе містраль непакорлівых гарачых эмоцый, я зачыніў балкон, ратуючы мілых пакаёвых звяркоў: дэкаратыўныя звычкі, мудрагелістыя маленькія дзівацтвы, халасцяцкія жарты.

У халадаватай зале загарэлася люстра — спаланёная зорка, сплеценая з тысячы крышталікаў. Па сценах замітусіліся ластаўкі ценяў. Уключыў музыку, і гукі нязладжанага рытму чарцянятамі заскакалі па пакоі. Вінаградны сок у фужэры пасмейваўся скрозь хрустальную перагародку. Я гнаў прэч спагадлівыя думкі, іх чэсны шэпт заглушалі чэрці. І ўсміхаўся, як Нерон крывавы, сузіраючы буянства полымя ў каміне. Лязом непрадбачана вострай злосці я патрашыў не плюшавых мішак, а сваё сэрца з манаграмай "Г".

Змора затуманілася па жылах, хваравітая млявая змора. Пазяхалі дзверы, адразу ж зачыняючыся, — развітанне хатніх са святлом. Згубілася ў змроку музычная скарбонка, вярнулася ў нябёсы нявольніца-зорка.

І свечкі ліхтароў вось-вось перадсмяротна затрапечуць, адчуўшы імглістае дыханне…

Гарачы шакалад дыхаў ліловым ранішнім дымком. Нібы вобла, на сонцы залацілася пяшчотная булка. А пах мандарынаў надрыўна клікаў у Божае Нараджэнне.

Шоўкам кашулі супакою назойлівы боль. Выбраў срэбны пярсцёнак з чорным каменем. І, не зашпіліўшы чорнае паліто, адгукнуўся на покліч ветру. Вуліца злегла ў глыбокай непрытомнасці. Дзесьці палілі лісце. Іх агорклы тытунёвы пах разам з задымленым туманам п'янілі бачаннем падпаленай зямлі. Чорны сабака не зводзіў з мяне спагадлівых вачэй. Я збочыў на рэльефны брук, што парывіста ляцеў уніз. Здавалася, што спускаюся па чарапічнай страсе на шляху да непрадказальнай краіны туману. І ўсё больш і больш настойліва халодная нябачна-няўлоўная дзяўчына лашчыла спіну заінелымі рукамі.

Званок веласіпеда і цяжкі ўздых — вытраўлены жыццём уздых-жабрак — вабілі, цягнулі ў цёмную арку. Мускулістыя літары ўзнялі пікі і алебарды прамяністага шрыфту на шыльдзе. Спаланёныя меддзю дзверы калісь маглі паслужыць шчытом быліннага асілка. Я пацягнуў, разбіўся пагалоскам званочак, уздыхнулі дзверы. Паўзмрок, ствалы дрэў, трыногі попельніц, струмень малахітавай вады на лакіраваных камянях. Невялікая зала, сцішаныя свяцільні, пурпуровы аксаміт высакародных і высокіх сцен, стракатыя пудзілы заморскіх папугаяў і — каля бара — рыцарскія латы. Яны зведалі на сабе цьмяны адбітак геральдычных каньячных этыкетак. Стол, сервіраваны на чацвярых, пунсовы, ледзь не да падлогі абрус адбіваў у імжы фужэра рэшткі царкоўнага віна. Змрочныя, быццам нявольнікі, афіцыянты. Меню, перацыснутае скурай. І чароўны водар кавы.

Мінуўшы цёплае сярэднявечча, я адчуў на сабе раны ад пранізлівай прахалоды. Замітусіліся крылы чорнага паліто, і панесла мяне таксі ў туманнае бездарожжа. Я ўспомніў, што ноччу мой сон наведвалі вёрсты, старажытнарускія, роспачныя, бясконцыя, — журба зводзіла сон. Праз дзесяць кварталаў пакінуў машыну і зноў, утоптваючы час у тратуар, шукаў невядома чаго. За ўчарашні вечар было прыкра, як быццам здрадзіла нястачай чарніл асадка на першым радку натхнення. Марудны рыбай у глеістай вадзе я плыў на бляск ваблівай вітрыны. Лаўка сувеніраў. І між тысячы драбніц — мініяцюрны срэбны ліхтарык з малюсенькай, не большай, чым запалка, свечкай знутры.

— Запаліце яе ў хвіліну шчасця, і гэта хвіліна будзе доўгія гады асвятляць ваша жыццё, — праскрыпеў прастуджаным голасам іржавабароды гандляр.

Адолеўшы мост да сярэдзіны, я ўзняў каўнер і, быццам стогадовы крумкач, у глыбокай задуме схіліўся над чорнай вадой, што хавала ў сабе таямніцы знямелых стагоддзяў. І ўсё туман…

Божа, пачастуй нас сонцам!

Мяне паклікала машына, і мякка прашамацелі шыны. У асяродку сяброў я быў невясёлы, стоена сачыў за стрэлкай гадзінніка, што нервова ўздрыгвала з кожным крокам. Дзесьці а сёмай я ўжо блукаў па набярэжнай пад руку з надзеяй.

Туманны змрок выцвітаў, схіліўшыся пад цьмяным скупым ліхтаром. У іх бронзавым арэале, быццам грэчаская багіня, паўстала мая Габрыэль, распусціла вееры вей. І звар'яцелае ад шчасця сэрца заскакала ў істэрыцы кахання.

Дзівіліся маркотныя дрэвы са сцішаных туманных статкаў, што быццам з белых гор спусціліся, гнаныя галодным ветрам. Я адчуваў поўнач па яго дыханні і ўздымаў чорнае крыло, захінаючы роднага чалавека.

— У вашых рук цяпло выпечанага з любоўю хлеба.

— Габрыэль…

Мы міналі ліпавую алею, і ў цішы мае словы так дзіўна балелі і заміралі на вуснах.

Але ж зараз усё гэта толькі легенды восені…

І закружылі па горадзе, то туліліся адно да аднаго, то развіталіся ў адзінокім палёце. Чыстая, як першы снег, Габрыэль поўніла мяне невымоўнай радасцю. Гэтую радасць я пільна ахоўваў многія гады. Але раставала памяць, і ў дрыготкіх далонях заставалася ўсё менш неба, усё менш жывой вады. І імклівы сонечны зайчык суцішыўся ў каўчэгу далоняў і выпіў апошнюю кроплю, выпіў жамчужную кроплю апошняй маёй слязы. Я прачынаюся, калі ідзе дождж. Услухоўваюся, выцягваю далоні — можа, нябёсы вернуць маю радасць. І дзесь у глыбінях дажджу прабіваецца сэрцабіцце…

Туман слабеў, радчэў, як сівізна. І прамяньчык сонца растрывожыў горад. Згаслі адзічэлыя дні і ночы без зорак — ночы неадгаданых жаданняў.

І вось яна пераступіла парог маёй мары. Усе пакоі скалануў я хрустальнымі фужэрамі, напоўненымі шампанскім — вадой залатаносных рэк, — і ў кожным патанаў водбліск свечкі. Яны мерыліся сотнямі, і ў брыльянтавым ззянні пераліваліся столь і сцены, як у казачным жамчужным гроце. У празрыстых вазах залатыя ружы — вытанчаная алхімія фларыстаў. Гарэў і цвіў алтар кахання. Сам у белых тканінах са срэбрам на пальцах і ў валасах, я сустрэў выбеленую багіню малітоўнай усмешкай. І непадкупная адкрытасць першага пацалунка лізнула сэрца цёплым языком.

…Кубка салодкія беражкі. Габрыэль сагравае пухлінку вуснаў над цёмным, гарачым. Задрамалі вочы, спалоненыя дымкай кавы, суцішыліся, здаволеныя. Але ўжо выгнулася напаленая нітачка — праменіцца на тысячу ват. Бліснула зацукранымі зубамі, ускалыхнула пухлыя дзьмухаўцы смеху — і закружыла, замільгала па пакоі шчасце.

Дотыкам рук яна ўпрыгожыла, расквеціла хату, хрустальным голасам пабудзіла рэха натхнення. Мы выпраўляліся гуляць і бралі крылы анёлаў напракат. І калі ўсміхалася сонца, то вельмі шчыра, вельмі сонечна. Людзі глядзелі на нас і свяцілі, адчувалі нашу стыхію. А ўвечары так пасавалі да яе настрою агні ліхтароў, жэмчуг ілюмінацый. Яна не ўздымала вытканага з таямніцы вэлюму, не адарыла ні словам пра сябе. Мне было дастаткова яе трапяткой цеплыні, каб верыць.

У нас было шэсць дзён, жывых, як раніца Божага Нараджэння. А на сёмы Габрыэль замерзла каля акна. Крывавячы вусны, я надломваў ледзяную скарынку, што няўмольна раздзяляла нас, але гэтым толькі пашыраў палыновыя абсягі маўчання, а яна незваротна патанала ў акне. За акном стаяў туман. Завея яе паўночных валасоў на скразняку засцілала вочы, і я збочыў.

І па сівенькай набярэжнай, па змерзлым горадзе панёс вецер вестку пра хуткае расстанне. Габрыэль заінела. Я саграваў дыханнем яе хуткія няўлоўныя пальцы. Яна засмяялася, але як счарнела срэбра яе смеху! Заўпарцілася, адмовілася вярнуцца ў хату. Потым суцішылася ў маіх руках. Змучаны яе пакутай, я на хвіліну падняўся. Заглядзеўся, як аўкала і аукала свайго сыночка ружовая мажная матрошка, захоўваючы пры гэтым выгляд, што не бачыць яго патаемнай схованкі пад елкай. А ён, у капюшоне з жоўтым казырком падобны да паўночнага папугая — тупіка, скавытаў і кракатаў ад шчасця.

Я павярнуўся і… Габрыэль, як ты магла пайсці? Мітусіўся, клікаў, пераступаючы мяжу іншага свету. Але зноў вяртаўся на паркавую сцяжынку, пераследуючы туман. Мяне не маглі, не хацелі адпусціць услед за табой. Кружылі, палымнелі сляды, ды нават раз'юшанасць мая слабела перад замовапячаткай, што сквала нябачныя дзверы. Надламаліся ногі. Я прысеў на лаўку. Скрозь туман кідаліся ў палёце чорныя птушкі.

Крокі адбіваліся пагаласкам у здурманенай галаве, дачырвана напаленай думамі. Бясконца мружыліся вочы. Горад не пазнаваў мяне, дзічэўся, хаваў ліхтары. Я вяртаўся на набярэжную, слухаў ваду. Спаліў у каміне вершы, спаліў старонкі памяці. І наноў узнімецца жыццё, народжанае агнём. Словы не знаходзілі выйсця. Глытаў па літарах востры боль, што прынесла тваё чароўнае імя — Габрыэль.

Зараз у туманнай далечы твой твар — усяго толькі пяшчотны скрутак змарнелай святочнай мары. І цень твой, што раней здаваўся мне даўжэйшым, чым жыццё, абрываецца на гэтай старонцы. Ужо не баліць па начах сэрца з выгравіраваным, выпаленым кляймом. Не памятаю, калі дагарэла свечка срэбнага ліхтарыка. Восень у лесе ўспамінаў.

Ноч плыла па небе, і ў гэтай плыні загінулі тысячы залатых рыбак. Перапыні мае сны, адвядзі мяне… Мроіцца альбо гэта я сам прашаптаў? І дождж такі шчыры, што хочацца плакаць.

О, Габрыэль, няхай я цябе страціў, але мая чулая душа крадзецца за тваім сэрцабіццем…

**З рускай пераклала Таццяна ВЫСКВАРКА**

# Моладзь таксама хоча жыць

Вітаўт МАРТЫНЕНКА,
музычны крытык

**Бадай, кожны чалавек, заходзячы ў музычную краму, найперш спасцерагае на паліцах выдавецкія навінкі суперзорак, знакамітых удзельнікаў прэстыжных праектаў, стабільных герояў радыёратацый. У Беларусі гэта ў першую чаргу свежыя запісы і архіўныя рэлізы гуртоў "Крама", "Палац", "N.R.M.", "P.L.A.N.", "Neuro Dubel". На разнастайных складанках, пра якія мы распавядалі раней, раскручваюцца будучыя куміры, з якіх, аднак, да сур'ёзных творчых даляглядаў здольныя датрываць не ўсе. І што ж застаецца астатнім? Хіба толькі камп'ютарная нарэзка альбомаў сціплымі самаробнымі тыражамі ў некалькі дзясяткаў асобнікаў?**

Прызнацца, і сярод апошніх рэлізаў такіх не надта ўпэўненых у сабе талентаў ёсць даволі прыкметныя творчыя набыткі, вартыя ўвагі не толькі крытыкаў, але і шырокай публікі. Прыгадаць хоць бы дэбютны альбом мінскага барда **Аляксея Жбанава** "Песні для мамы", які сціпла прэзентаваўся ў актавай зале адной з бібліятэк. А рэгіяналам яшчэ цяжэй дабрацца да сталічных канцэртных пляцовак, хоць, напрыклад, смалявіцкая рок-каманда **"Акропаль"** здолела паказаць свой дэбютны альбом "Дзе вы згубілі мяне?" і на прэстыжных фестывалях, і ў музычных інтэрнэт-рэсурсах, прывабіла ўвагу шырокай прэсы, але ў масавы тыраж так і не выйшла. Дык дзе ж мы згубілі яе?

Прычын такога марнавання талентаў у сучасным свеце кожны знойдзе процьму, але сёння, відаць, варта звярнуць увагу і на адваротныя прыклады, калі талент усё ж даходзіць да масавай аўдыторыі: нехта рупіцца кансалідаваць фінансавую падтрымку сваіх прыхільнікаў, каб запісаць і выдаць якасны альбом (і тое, і другое каштуе немалых грошай), некаму шчасціць адшукаць сур'ёзных спонсараў, а хтосьці і зацікавіць аўтарытэты саміх выдавецкіх структур. Адно шкада, што шматлікія беларускія FM-радыёстанцыі зусім не бяруць удзелу ў стварэнні носьбітаў нацыянальнай адметнасці свайго ж эфіру, хоць іх польскія, шведскія, французскія калегі даюць цалкам станоўчыя прыклады.

Сярод беларускіх стваральнікаў надвор'я ў гэтай галіне найперш варта назваць музычна-выдавецкую ініцыятыву "БМAgroup", якая займаецца пераважна арганізацыяй канцэртаў, а паралельна выдае сур'ёзнымі масавымі тыражамі музычныя кампакт-дыскі. Гэта і цікавыя архіўныя рэлізы тых жа славутых **"Крамаў"**, **"Палацаў"**, **"Мрояў"**, і падборкі новых песень на вершы класічнай беларускай паэзіі. Рызыкуе названы лэйбл і пошукам удалых навічкоў. Менавіта "БМAgroup" выдала за апошні год альбом доўгачаканага дэбютанта "**Litvin Troll**" ("Rock'n'Troll", 2009), музыкі якога ўсім вядомыя паводле славутага медыевальнага праекта "Стары Ольса". Гурт "Litvin Troll" таксама базуецца на медыевальнай (сярэднявечнай) музыцы, але грае яе ў агрэсіўным рокавым стылі, што выразна падвышае прывабнасць сярод маладзёжнай аудыторыі.




Калаж Віктара Калініна

Праўда, у малазёжным асяроддзі надта шырокая разбежка музычных прыхільнасцей (рок, рэп, медыеваль, барды), таму адгадаць будучых куміраў не надта проста. І ўсё ж "БМAgroup" рызыкуе ў даволі шырокім жанравым спектры. І хоць іх першы зборнік беларускамоўнага рэпу "Пасадзіў DEAD RAPку" даволі доўга шукаў сваю аўдыторыю, але "БМAgroup" не спыніўся і ў гэтым кірунку, выдаўшы рамантычны і паэтычна змястоўны сольны альбом "Пачатак" івацэвіцкага рэпера **Vinsenta** (пад гэтым псеўданімам хаваецца сённяшні студэнт Інстытута журналістыкі БДУ Зміцер Папко). Кружэлка не засталася праігнараванай ні прэсай, ні публікай. Яе прэзентацыя шумна прайшла ў найбуйнейшым сталічным клубе "Рэактар".

Часам лэйбл "БМAgroup" сам раскручвае будучых зорак у сваіх серыйных зборніках. І вось метал-праект "Metallection" адкрыў для многіх сапраўды новае імя "**Soulsides**". Яно хоць і англамоўнае ("Бакі душы"), але творчасць хлопцаў цалкам у рэчышчы роднай мовы. Натуральна, з'явіўся неўзабаве і іх поўнафарматны альбом "Першы крок", які ўразіў і асэнсаванымі паэтычнымі рыфмамі песень, і магутнасцю чыстага вакалу ў жорсткіх рытмах музычнага экстрыма.

Бадай, акурат той "Metallection" паказаў выдаўцам, што менавіта метал-музыка мае асаблівую прывабнасць у Беларусі. Мо з асэнсавання гэтага пастулата выйшла ініцыятыва і гурта **"Weeping Twilight"**, які нейкімі сваімі шляхамі здолеў кінуць на наш музычны рынак паўнафарматны альбом "Парасткі памяці на руінах былога" (2009). Яны хоць і раскручваліся ў праектах "БМAgroup", але ў сваю зорную дарогу пайшлі самастойна. Невядома, чым гэта скончыцца, але музыка гэтых беларускамоўных прыхільнікаў чужых імёнаў (ну чаму б не назвацца проста, па-нашаму — "Сутонне плачу"?) выклікала немалое зацікаўленне беларускай экстрым-тусоўкі. Дый што казаць: любяць беларусы прыгожы, фірмовы прадукт.

Прызнацца, я быў надзвычай рады, калі сярод куміраў маёй дачкі Альдоны з'явіліся не толькі замежныя зоркі, але і родныя "**:Б:Н:**" (Бяроза), **"Mauzer"** (Магілёў), той жа Vinsent (Івацэвічы). І асабліва ўразіла сустрэча на канцэрце чарговага адкрыцця "БМAgroup" — гурта альтэрнатыўнай музыкі "**Мутнаевока**". Гэты калектыў даўно вылучаўся на айчыннай музычнай сцэне адметным гукам, жывым настроем. Ім насамрэч удаўся плён асэнсавання музыкі як сродку кансервацыі настрою. Дый варта дадаць, што іх канцэрт стаўся не толькі прэзентацыяй уласных здольнасцей, але і адкрыцця новых імёнаў. Не, на разагрэве не гралі такія ж недараскручаныя гурты, проста адмысловы госць Наталля Няцеля падчас музычнай дзеі ажыўляла імпрэзу сваім неверагодным тэатрам пясчаных мініяцюр: яна штохвілінна стварала карцінкі з пяску паводле тэматыкі песень альбома "Пошлы гламур" (2010), якія тут жа праецыраваліся на вялікі экран над сцэнай. Зноўку ўвачавідкі пераконваешся, што сапраўдны талент прыцягвае таленты, а гэта і яму ідзе на карысць, бо наведнікі клуба ў той дзень настолькі захапіліся вобразамі новага музычнага альбома, што стварылі яму гандлёвы рэйтынг на ўзроўні правераных айчынных брэндаў: ці не кожны трэці выходзіў з клуба пасля канцэрта не толькі з уражаннямі, але і з новым дыскам.

Вось такія музычныя адкрыцці дорыць нам музычны маладняк Беларусі.

# 30 год гульні ў лялькі

**Гродзенскі абласны тэатр лялек пры канцы мінулага года адзначыў сваё трыццацігоддзе. Так, менавіта ў 1980-м па рашэнні Гродзенскага абласнога выканаўчага камітэта была створана гэтая культурная ўстанова. Але традыцыі лялечнага тэатра ў горадзе над Нёманам закладаліся яшчэ раней.**

Дар'я ЧАРКЕС,
студэнтка ГрДУ
імя Янкі Купалы,
фота аўтара

У 1940 годзе быў адкрыты першы тэатр лялек у Гродне. Аўтар ідэі — вядомы польскі акцёр і рэжысёр Уладзіслаў Ярома. Куды больш адметную гісторыю мае сам будынак тэатра, які з'яўляецца помнікам архітэктуры XVIII стагоддзя. Гэты храм Мельпамены быў створаны па загадзе мясцовага старасты Антонія Тызенгаўза вядомымі архітэктарамі таго часу Мёзерам і Сака.

З нагоды трыццацігоддзя Гродзенскага абласнога тэатра лялек прайшоў шэраг юбілейных мерапрыемстваў. Прынамсі, у Гродзенскай выставачнай зале адкрылася экспазіцыя "30 гадоў сярод лялек", дзе прадстаўлены лялькі, дэкарацыі, сцэнічныя строі, афішы розных гадоў. На сцэне тэатра лялек адбыўся вечар "Сеанс чорнай магіі, або 3 юбілеем". На святочным мерапрыемстве гучалі словы захаплення і добрых пажаданняў ад знакамітых тэатральных дзеячаў Беларусі, Літвы, Польшчы, Расіі. Сярод іх была расійскі рэжысёр Кацярына Абразцова, унучка знакамітага лялечніка Сяргея Абразцова, які, дарэчы, больш як паўстагоддзя таму гастраляваў у Гродне. Да святочнай даты калектыў тэатра падрыхтаваў прэм'еру "Пікавай дамы" паводле аповесці А. Пушкіна з музыкай П. Чайкоўскага.




Гродзенскі абласны тэатр лялек вядомы ў многіх краінах свету дзякуючы таленавітай трупе, якая налічвае 23 акцёры, і галоўнаму рэжысёру Алегу Жугжду. У рэпертуары тэатра больш як 35 спектакляў для дзяцей і дарослых. Многія пастаноўкі атрымалі ўзнагароды на прэстыжных міжнародных конкурсах і фестывалях у Беларусі, Польшчы, Балгарыі.

***На здымку: будынак тэатра.***

# Пяцігодка ў культуры

Лана ІВАНОВА

**Дзяржаўную праграму "Культура Беларусі" на 2011 — 2015 гады прыняў Савет Міністраў. Яна скіраваная на вырашэнне найбольш актуальных праблем культурнага развіцця краіны.**

Як паведамілі з Міністэрства культуры Беларусі, мэтай Дзяржаўнай праграмы з'яўляецца павышэнне сацыяльнай і эканамічнай эфектыўнасці функцыянавання сферы культуры, у сувязі з чым плануецца шэраг захадаў. А менавіта — правесці структурныя пераўтварэнні арганізацыйна-гаспадарчага механізма ў гэтай сферы, распрацаваць эфектыўны механізм фінансавання культуры, новыя формы яе эканамічнай падтрымкі, працягнуць работу па стварэнні цывілізаванага рынку паслуг, актыўна ўключыцца ў сусветныя працэсы развіцця культуры.

Адметнасць прынятай маштабнай праграмы — у шэрагу інавацыйных падыходаў. Гэта, напрыклад, стварэнне сістэмы нацыянальных прэферэнцый для культуры краіны; прыцягненне прыватнага капіталу праз развіццё спонсарства і мецэнацтва; рэфармаванне сістэмы менеджменту; развіццё механізмаў дзяржаўна-прыватнага партнёрства ў адпаведнай сферы; падтрымка культурных ініцыятыў і развіццё праектнай дзейнасці; стварэнне ўмоў для эфектыўнага функцыянавання прадзюсарства; павышэнне канкурэнтаздольнасці ды інвестыцыйнай прывабнасці прафесійнай адукацыі ў галіне культуры і мастацтва; інавацыйная накіраванасць навукова-даследчай дзейнасці; эфектыўнае выкарыстанне дзяржаўных сродкаў на аснове навукова абгрунтаванага планавання; прасоўванне беларускай культуры за мяжой.

Праграмай, сярод іншага, прадугледжана стварэнне сістэмы стымулявання паступлення пазабюджэтных сродкаў у сферу культуры (правядзенне рэспубліканскага конкурсу "Мецэнат культуры", стварэнне апякунскіх саветаў пры нацыянальных і найбольш значных установах культуры, інфармацыйная падтрымка мецэнацкай дзейнасці ў СМІ); правядзенне рэстаўрацыйных работ на знакавых аб'ектах гісторыка-культурнай спадчыны (Лідскі, Гальшанскі, Навагрудскі замкі); стварэнне Нацыянальнай электроннай бібліятэкі ды новых рэсурсаў кшталту электронных бібліятэк "Францыск Скарына — беларускі і ўсходнеславянскі першадрукар", "Radziviliana"; поўная камп'ютарызацыя дзяржаўных музеяў ды бібліятэк. На працягу пяцігодкі з'явяцца інтэрнэт-рэсурсы па культуры; Нацыянальны інтэрнэт-партал "Музеі Беларусі"; дзяржаўная ўстанова "Цэнтр беларускага кіно". Плануецца таксама арганізацыя і правядзенне штогадовых рэспубліканскіх конкурсаў "Нацыянальная тэатральная прэмія" і "Нацыянальная музычная прэмія ў галіне эстраднага мастацтва"; адкрыццё чатырох культурных цэнтраў Беларусі за мяжой; ажыццяўленне ўрадавай праграмы "Беларусы ў свеце" і спецыяльнай праграмы навучання і стажыровак студэнтаў ВНУ за мяжой.

# Чырвоны аловак, або Пад пільным вокам

Аляксандр ГУЖАЛОЎСКІ,
доктар гістарычных навук

**Прапануем увазе чытача працяг публікацыі выбраных старонак з будучай кнігі вядомага даследчыка А. Гужалоўскага, прысвечанай гісторыі цэнзуры відовішчаў у БССР 1920 — 1930 гадоў.**

(Працяг. Пачатак у № 50, 2010 г.)

Ужо было сказана пра прыцягненне партыйных органаў як арбітраў у спрэчных сітуацыях, што перыядычна ўзнікалі паміж Галоўрэперткамам як складнікам Галоўлітбела і Галоўпалітасветай — падчас ажыццяўлення іх цэнзарскай ды ідэалагічнай работы. У найбольш жорсткай і адкрытай форме канфлікт паміж Галоўпалітасветай у асобе яе старшыні С. Шамардзіной і Галоўлітбелам у асобе яго начальніка П. Арэшнікава праявіўся ў лістападзе 1926 г. у сувязі з прэм'ерай п'есы Янкі Купалы "Тутэйшыя". Як вядома, прэм'ера гэтага шматпакутнага твора, што адбылася 16 лістапада 1926 г. у БДТ-1 у пастаноўцы рэжысёра М. Папова, была прымеркавана да правядзення Акадэмічнай канферэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі, якая праходзіла ў Мінску 14 — 19 лістапада. Паводле намераў арганізатараў канферэнцыя мусіла перад усім светам прадэманстраваць адзінства паміж КП(б)Б, заходнебеларускім нацыянальным рухам і беларускай палітычнай эміграцыяй. Таму забарона П. Арэшнікавым п'есы пасля яе прэм'еры з прычыны ігнаравання рэжысёрам цэнзарскіх заўваг адразу ж набыла характар скандалу. Беручы пад увагу сур'ёзнасць палітычнага моманту, а таксама асобу аўтара (за год да гэтага Янку Купалу было нададзена званне народнага паэта), калегія Наркамасветы са згоды С. Шамардзіной адмяніла забарону Галоўлітбела. Парадаксальнасць сітуацыі была ў тым, што абедзве структуры фармальна падпарадкоўваліся кіраўніцтву Наркамасветы, але насамрэч мелі асобны статус. Галоўпалітасвета з'яўлялася правадніком палітыкі партыі ў галіне навукі, адукацыі і культуры, Галоўлітбел адказваў за палітыка-ідэалагічны змест вынікаў навуковай, адукацыйнай і культурнай дзейнасці ў БССР. Таму кіраўніцтвы і Галоўпалітасветы і Галоўлітбела ў якасці свайго рэальнага кіраўніцтва разглядалі ЦК КП(б)Б. Менавіта там і было знойдзена кампраміснае рашэнне, калі 19 лістапада 1926 г. пытанне пра п'есу "Тутэйшыя" разглядалася на калегіі аддзела друку. Галоўпалітасвету прызналі вінаватай у тым, што дапусціла п'есу да пастаноўкі ў арыгінальным аўтарскім варыянце. Галоўлітбел — у тым, што зняў яе адразу ж пасля прэм'еры. Саму ж п'есу было дазволена праставіць гледачу пасля аўтарскай перапрацоўкі і пакаяннага ліста, апублікаванага на старонках перыядычнага друку.

Як ужо гаварылася, пазітыўным бокам працы цэнзараў на працягу першага дзесяцігоддзя савецкай улады было пазбаўленне беларускай сцэны ад праяў нізкапробных твораў, якія валам абрынуліся на савецкую публіку перыяду НЭПа. Так, у 1924 г. Галоўлітбел забараніў выступленні на сцэне віцебскага тэатра ленінградскага кабарэ "Баба Яга", рэпертуар якога пераважна складаўся з танных французскіх вадэвіляў. Але пад цэнзарскі прэс разам з "вырабамі" бульварнага ўзроўню траплялі мастацкія творы, што выйшлі з-пад пяра беларускіх драматургаў. У 1927 г. з палітычных меркаванняў была забаронена для паказу п'еса "Жывы нябожчык" М. Ільінскага, п'еса "Краб" У. Галубка, у 1928 г. яго ж п'еса "Рвачы".

У 1928 г. Галоўрэперткам быў перападпарадкаваны іншай структуры Наркамасветы — Галоўмастацтву, што на думку ідэалагічнага кіраўніцтва КП(б)Б павінна было наблізіць цэнзараў да працэсу стварэння культурных каштоўнасцей. Пры захаванні ў цэлым папярэдніх задач і зместу дзейнасці, новы статус Галоўрэперткама выклікаў яго структурныя змены. Цэнзарская піраміда ў галіне відовішчаў у БССР цяпер выглядала наступным чынам: Галоўрэперткам у Мінску — гаррэпперткамы ў Віцебску і Гомелі — райрэперткамы ва ўсіх раёнах. Палажэнне пра Галоўрэперткам 1928 года ўключала ў сферу яго дзейнасці новыя напрамкі, у прыватнасці, мастацкія перадачы беларускага радыё і аматарскія пастаноўкі, якія наладжваліся ў клубах, народных дамах і хатах-чытальнях. У выключных выпадках цэнзарам Галоўрэперткама цяпер дазвалялася спыняць спектаклі падчас іх паказу публіцы. Данінай ліберальным 1920-м гадам быў 14-ы пункт палажэння, які прадугледжваў правядзенне ўсёй работы рэперткамамі "… у цеснай сувязі з грамадскасцю данага гораду, раёну, наладжвая грамадскія прагляды, абгаварэньні, дыспуты, чыткі твораў маючых быць прынятымі да пастаноўкі, прыцягвая да работы па кантролю за рэпертуарам партыйную, камсамольскую і савецкую грамадскасць". Але адразу ж аўтары дакумента зрабілі агаворку: "Рашэньні дыспутаў, грамадскіх праглядаў, абгаварэньняў і г.д. улічваюцца пры вынясеньні рашэньня рэперткома, але не з'яўляюцца для рэпертunion кома абавязковымі".

Адной з першых буйнамаштабных акцый Галоўрэперткама ў новым статусе быў агляд работы дзяржаўных тэатраў БССР, вынікі якога абмяркоўваліся на пасяджэнні бюро ЦК КП(б)Б у сакавіку 1928 г. У прыватнасці, на ім БДТ-1 крытыкаваўся за пастаноўкі наступных п'ес: "Тутэйшыя" Янкі Купалы ("Уся п'еса перапоўнена як замаскіраваных, так і яўных выпадаў супроць савецкае улады"), "Перамога" Е. Міровіча("…павярхоўная трактоўка сюжэту"), "Вір" Я. Рамановіча ("Зусім не паказаны адмоўныя праяўленьні фэадалізму"), "Лес цёмны" М. Ільінскага ("Вялікае значэньне прыдаецца ў п'есе выпадковасьці"), "Змрок" В. Шашалевіча ("Зусім не ўлічана роля кампартыі і савецкае ўлады ў ломцы старога вясковага быту"). Сярод пастановак БДТ-2 незадаволенасць цэнзараў выклікала п'еса "Апраметная" В. Шашалевіча ("… насычана містыкай, перасыпана рознага роду выкрутасамі"). Сярод недахопаў у рабоце Дзяржаўнага вандроўнага тэатра У. Галубка называліся "… адсутнасьць правільнага мастацкага кіраўніцтва, а таксама якіх-бы то ні было жаданьняў да набыцьця тэхнічных тэатральных ведаў з боку актораў". Да таго ж, "сцэнічнае афармленьне тэатру Галубка працягвае заставацца на традыцыях старога бытавога тэатру, мастацкія прыёмы прымітыўны, шаблонны і зацяганы". Пра Беларускі дзяржаўны яўрэйскі тэатр у аглядзе лаканічна гаварылася, што ён "…стаў на правільны шлях па абслугоўваньню культурных запатрабаваньняў рабочага гледача". У заключэнні агляду кіраўніцтва Галоўрэперткама запэўнівала ЦК у тым, што выправіць сітуацыю ў тэатральнай сферы БССР можна шляхам абнаўлення рэпертуару за кошт выкарыстання твораў савецкіх драматургаў, у тым ліку расійскіх і ўкраінскіх.

У лістападзе 1929 г. старшыня Галоўрэперткама І. Гурскі дакладваў, што за апошнія паўгода з беларускага тэатральнага рэпертуару выкраслены наступныя п'есы: "Дзядзька Якуб" Ф. Аляхновіча, "Нажыўся" Бэна, "Астап" А. Глобы, "Фанатык" У. Галубка, "Скарынін сын з Полацку" М. Грамыкі, "Айцец Мікола" і "Снягурачка" М. Ільінскага, "Тутэйшыя" Я. Купалы, "Слуцкая варона" М. Кудзелькі (М. Чарота), "Чаму змоўк гармонік над Дзвіной" Я. Рамановіча, "Апраметная" В. Шашалевіча. Акрамя таго, за той самы перыяд для пракату ў БССР былі забаронены 11 савецкіх і 70 замежных кінастужак.

На мяжы 1920 — 30-х гадоў змяняюцца змест і формы правядзення культурнай рэвалюцыі, якую пачалі называць "трэцім фронтам", паводле аналогіі з "першым фронтам" (індустрыялізацыяй) і "другім фронтам" (калектывізацыяй). Пачынаецца працэс поўнага абдзяржаўлівання сферы культуры, калі дзяржава фінансавала, кантралявала і накіроўвала ўсё. У літаратуры і мастацтве пасля творчага плюралізму і барацьбы розных напрамкаў у 1920-я гады мастацкай інтэлігенцыі цяпер пачалі навязваць ідэйна-творчую платформу сацыялістычнага рэалізму. Нацыянальнаарыентаванае мастацтва, якое не ўкладалася ў рэчышча марксісцка-ленінскай ідэалогіі, а фактычна — сталінізму, выціскалася з культурнай прасторы краіны. У галіне відовішчных мастацтваў лозунг "Культуру — у масы!" праявіўся не толькі ў змене рэпертуару і зместу рэжысёрска-акцёрскай працы, але нават у з'яўленні г.зв. "рабочай паласы" — спецыяльных бясплатных месцаў для рабочых прамысловых прадпрыемстваў у глядзельных залах. Тады ж сфарміравалася "добраахвотна-прымусовая" сістэма наведвання ідэалагічна вытрыманых, выхаваўчых тэатральных пастановак. Адным з найважнейшых сродкаў правядзення культурнай рэвалюцыі, выхавання "новага чалавека" становіцца цэнзура.

> *У 1928 г. Галоўрэперткам быў перападпарадкаваны іншай структуры Наркамасветы — Галоўмастацтву, што на думку ідэалагічнага кіраўніцтва КП(б)Б павінна было наблізіць цэнзараў да працэсу стварэння культурных каштоўнасцей. Пры захаванні ў цэлым папярэдніх задач і зместу дзейнасці, новы статус Галоўрэперткама выклікаў яго структурныя змены. Цэнзарская піраміда ў галіне відовішчаў у БССР цяпер выглядала наступным чынам: Галоўрэперткам у Мінску — гаррэпперткамы ў Віцебску і Гомелі — райрэперткамы ва ўсіх раёнах. Палажэнне пра Галоўрэперткам 1928 года ўключала ў сферу яго дзейнасці новыя напрамкі, у прыватнасці, мастацкія перадачы беларускага радыё і аматарскія пастаноўкі, якія наладжваліся ў клубах, народных дамах і хатах-чытальнях.*

Да канца 1920-х задачы і метады яе дзейнасці змяняюцца. Прапаноўваць дарэвалюцыйны расійскі (за выключэннем дзесятка дазволеных класікаў) ці замежны буржуазны рэпертуар у атмасферы 1930-х гадоў ніхто з арганізатараў відовішчных мерапрыемстваў нават не спрабаваў. Таму асноўны ўдар наносіўся па творах маладых беларускіх савецкіх аўтараў. Абстаноўка сталінскага тэрору вымагала ад цэнзараў больш жорсткіх, у параўнанні з ліберальнымі дваццатымі гадамі, дзеянняў. А сама цэнзарская забарона часта азначала для аўтара турэмнае пакаранне альбо смяротны прысуд.

Важнай вяхой у працэсе фарміравання таталітарнай мадэлі культуры ў БССР стаў пленум ЦК КП(б)Б, які праходзіў з 20 па 25 кастрычніка 1930 г. у Мінску. На пленуме паслядоўна фарміраваўся негатыўны вобраз нацыянальна-дэмакратычнай інтэлігенцыі, якая за дзесяць папярэдніх гадоў захапіла ўсе сферы культуры. Абвінавачванне ў контррэвалюцыйнай дзейнасці на пленуме было прад'яўлена Янку Купалу. Устаноўка на простае падпарадкаванне мастацкай культуры інтарэсам партыі, агучаная на кастрычніцкім пленуме, была пакладзена ў аснову рашэнняў І Усебеларускай нарады сцэнарыстаў, Усебеларускай партыйнай нарады па пытаннях мастацтва, Усебеларускай канферэнцыі мастакоў, якія адбыліся ў 1931 г. У тым жа годзе ў Мінску ладзіліся дзве выстаўкі: IV Усебеларуская, якая дэманстравала ўзоры новага рэвалюцыйнага мастацтва, і "нацдэмаўская", закліканая папярэдзіць беларускіх мастакоў ад звароту да нацыянальна-гістарычнай тэматыкі.

Новы курс правядзення культурнай рэвалюцыі ў галіне відовішчных мастацтваў у БССР вызначыла першая ўсебеларуская партыйная нарада па пытаннях мастацтва, якая адкрылася 6 снежня 1931 г. Ва ўступным слове загадчык агітацыйна-прапагандысцкага аддзела ЦК КП(б)Б А. Чарнушэвіч так вызначыў галоўную задачу правядзення нарады: "… актывізаваць мастацтва, як зброю барацьбы за генеральную лінію нашай партыі з правым ухілам як найбольш небяспечным на гэтым этапе і з "левымі" загібамі і з прымірэнчымі да іх адносінамі, …у барацьбе з беларускім нацдэмакратызмам, шавінізмам і шавінізмамі яўрэйскім, польскім і інш.". Нарада 1931 г. па пытаннях мастацтва мела пагромны характар, а многія выступоўцы, прыкрываючыся ваяўнічай фразеалогіяй, зводзілі асабістыя рахункі са сваімі калегамі.

**(Працяг будзе.)**



Фота з архіва

***На здымку: знаны тэатральны дзеяч Фларыян Ждановіч (злева) на будаўніцтве Беламорканала падчас адбыцця пяцігадовага тэрміну зняволення па справе "Саюза вызвалення Беларусі". 1932 год.***

# Класічны свінтус

**Падкоп інстытута геалогіі мамантава свіння Кандрата Крапівы ажыццявіла ў 1939 годзе і спакваля дакапала да сцэнічных трактовак, дысертацый і школьных хрэстаматый. Такім чынам, нагадваць змест камедыі "Хто смяецца апошнім" асаблівай патрэбы няма. Аднак спектакль Мінскага абласнога драматычнага тэатра з Маладзечна не спавядае адмысловую пашаноту да класікі альбо традыцыйнае прачытанне. І называецца "Свінтус Грандыёзус".**



*Жана ЛАШКЕВІЧ*

Свінтус Грандыёзус... Яго трывалы сюррэалістычны вобраз дасціпна распрацаваны і ўжо на сцэне сабраны па каліве рэжысёрам Уладзімірам Савіцкім і мастаком Віктарам Цімафеевым. З хрэстаматыйнага тэксту, скарочанага і пададзенага па-за прыкметамі часу. З нязмушанага акцёрскага існавання (стыль тэатра прадстаўлення). З вясёленькага музычнага падбору Паўла Захаранкі. Нарэшце, з... костак (натуральна, бутафорскіх).

Дзе такія ёсць? Верагодна, у музейным запасніку. У скрынях. Але ніякага бязладдзя і груваскіх прыстасоваў: скрыні гарманічна ўладаваныя ў сцэнічную прастору. Іх атуляюць чалавечыя постаці — кшталту васковых. Перад стартам спектакля (у пралогу) адлічваецца час. Са скрыні пры сцяне вылазіць чалавек і крадком зрушвае бліжэйшую да сябе постаць. Тая знарок чапляе іншую, і хутка музейныя постаці ажываюць, пачынаюць рухацца... совацца, лётаць, завіхацца, цалавацца... Спяшаецца прыбіральшчыца цёця Каця, бокам сунецца Туляга з парасонам, тупаціць кабета Гарлахвацкага з пакункамі, спакусліва перабірае ножкамі Зіна Зёлкіна, шырокай хадою мерыць сцэнічны абсяг сакратар вучонага савета Леванові̂ч...

У гэтым парадзе персанажаў можна пазнаць кожнага. Пазнаць і трактаваць. Аднаго — як Пера-сцярогу, другога — як Страх, іншых — як Нахабства і Ліслівасць, Адказнасць або Звадніцтва... Алегорыі новага жыцця... па-над побытам. Па-над завучанай сацыяльнай завостранасцю. Па сцэнічным дзеянні яны і пакрочаць парадам, спыняючыся для сцэн і дыялогаў. Уладзімір Савіцкі, безумоўна, іранізуе. Больш верагодна — кпіць. Затое інтрыга "Свінтуса..." празрыстая і дзеянне імклівае.

Акуратныя драўляныя скрыні ў вырашэнні Віктара Цімафеева надаюць віраванню навуковай думкі асаблівай элегантнасці. Светлае свежае дрэва з пячаткамі інстытута геалогіі. Паўсюль дбаюць ды завіхаюцца адмысловыя нетраў зямных. У хуткім часе са скрыняў пацягнуцца тэлефонныя драты — імі навуковыя супрацоўнікі ўсё адно як прывязваюцца да сваіх прамоўленых словаў. Куфры-скрыні варочаюць, носяць, соваюць і прыстасоўваюць — пад шафы, канапы, сталы... Здаецца, у іх можна спакаваць цэлы свет. Патэнцыяльная энергія руху назапашваецца ў скрыні. Энергіяй скрыняў ды іх змесцівам, здаецца, сілкуюцца і адмоўныя, і станоўчыя персанажы спектакля. Раўняюцца па скрынях. Скрыні раўняюць паводле сябе...

Пасярод сцэны — скрыня-шафа, якая ўяўляе сабой важнецкія падвоеныя дзверы ў кабінет Гарлахвацкага (вох жа й грымнецца, і ляснецца, і абрынецца яна — як папярэджанне дырэктару). Рухомыя скрыні — адзнака перасоўнага, лёгкага на пад'ём чалавецтва, якое цягае за сабой... гісторыю свайго... э-э... зямнога асталявання: мамантавыя косткі. Разабраныя. Палічаныя. Пазначаныя. Здабыванне ды апрацоўка мамантавых костак — векапомная адзнака чалавечага досведу.

...А прыбіральшчыца цёця Каця і ахоўнік Нічыпар размаўляюць пра новы дырэктарскі стол. Нічыпар перабірае косткі, а цёця Каця — паперкі ў сметніцах (кожную старанна перачытвае, усё адно як пазначае, падлічвае, рэканструюе). Цікаўнасць цёці Каці ў выкананні Ірыны Кляпацкай стрыманая, але шчырая і непапраўная. Ёй не дае спакою... сэнс працы інстытута геалогіі. Разважлівы асілак Нічыпар (Дзяніс Фешчанка) "сваімі словамі" распавядае ёй пра вывучэнне таемных жыццёвых працэсаў. Маўляў, навуковец Чарнавус на костку зірне і расказа, якія жывёлы былі мільёны гадоў таму і як яны елі адна адну. І вось на прамоўленае "елі адна адну" адгукаецца **нешта**...

Запомнім фразу Нічыпара і тое, як на яе адгукнулася сцэнічная прастора. Ёсць свой таемны алгарытм у існаванні абуджанага інстытута геалогіі. Выніковыя праявы яго дзейнасці і суправаджаюца пэўным адбіткам... голасам пачвары, сусветнае катастофы, паскарэння альбо тармажэння, перасцярогі ці папярэджання... Гэткае "memento mori" цэлай дзяржаўнай установы. Усе сцэнічныя насельнікі чуюць і адчуваюць яго. Нічыпар ажно бярэцца шукаць крыніцу гукаў, нават цёці Каці загадвае змоўкнуць. Гэтае водгулле не праміне апошні закутак інстытута геалогіі, суправодзіць падзеі да кульмінацыі і загучыць на поўны голас... Што ж такое чыніць перaслед геалагічнаму інстытуту? Родавы праклён чалавецтва? Цяжар цывілізацыі?

...Косткі? Унікаючы пільнасці цёці Каці, костку прыкладае да нагі сакратарка Зёлкіна (Яўгенія Стацэнка) — прымервае. Костак жахаецца спалоханая цёця Каця, калі Зёлкін змушае яе распавесці пра размову каля жанкі Веры з прафесарам Чарнавусам, а цёця Каця (за адным



разам) шчыра выкладае Тулягаў сакрэт (вонкавае падабенства да варожага палкоўніка) — надта ўжо добра ўсё дачула. Пляткар Зёлкін ходзіць у абдымку з косткай. Костку выносіць за ім цёця Каця з дзвярэй дырэктарскага кабінета. Косткі цягае ў партфелі дырэктар Гарлахвацкі.

Ён самы будуе з меншых костак фігуру гульні ў гарадкі і цэліць па іх большаю косткаю... а цёця Каця ад шчодрасці душэўнай дакладае яму плётку пра Чарнавуса і між іншым падносіць самую вялікую костку — каб пэўна пацэліў! Гарлахвацкага так захапляюць непрыемнасці прафесара, ажно танчыць лезгінку... з косткай у зубах. Альбо выкладае косткі ў нейкае падабенства шкілета, спакушаючы Чарнавуса рэцэнзаваць сваю дысертацыю. Асуджаючы Чарнавуса, косткамі адбарабаньвае доказы Зёлкіна пра Чарнавусаву вінаватасць. Памахваючы косткаю, выразна чытае Чарнавусу з "Дэмана"... Зорка мастацкай самадзейнасці! Гулліваю зоркаю прадстаўляе персанажа Барыс Донін: гэтак званая прафесійная дзейнасць Гарлахвацкага цалкам выдае на самадзейнасць. Але ж не звадніцтва. Гарлахвацкі — прафесійны звадыяш. Ён кшталціць сваё майстэрства да ўзроўню мастацтва. Ягонае мастацтва і выпрабоўваецца, і пераконвае (ад празмернай стараннасці нават усёведны Зёлкін падпускае шэфу непрыемных хвілін клопатам акцёра Васіля Сцепаненкі). Маналог з нагоды вымушаных заняткаў палеанталогіяй Гарлахвацкі прамаўляе, ускладаючы на грудзі дзве косткі крыжам, маўляў, не лезь — заб'ю...

Проста ў рукі Гарлахвацкі совае мамантаву костку і падначаленаму Тулягу: вымагае сабе дысертацыю. Як паводле Савіцкага, дык Туляга церпіць дырэктарскі ўціск не за фактычнае падабенства да варожага палкоўніка і не за тое, што гэтаму факту няма тлумачэння. Туляга баіцца не апраўдацца і сваім страхам толькі раздзімае ўяўную вінаватасць... за жыццё і працу ў Варонежы ў самую скрутную часіну. Гарлахвацкі так гучна вінаваціць Тулягу, што беларускае вуха адразу ловіць сугучча "Варонежа" з "варожым", а выкананнем акцёр Сяргей Карзей пацвярджае: увесь шантаж Гарлахвацкага мацуецца моўным сугуччам! І Туляга раптоўна разумее гэта! Менавіта таму на абвінавачванне, выдзьмутае з паветра, Туляга прадставіць дысертацыю, высмактаную з пальца.

Сцэна шантажу Тулягі Гарлахвацкім нібы ў люстэрку адбівае завязку спектакля, калі (паводле рэжысёра) пра свае падабенства з варожым палкоўнікам Туляга апавядаў... са скрыні-трыбуны, а малодшы навуковы супрацоўнік Вера (Людміла Рошчына) і прафесар Чарнавус (абаяльная работа Аляксандра Пашкевіча) слухалі яго на ладнай адлегласці. Тое, што звычайна прамаўляюць сцішана, амаль шапочуць, Туляга вымушаны быў крычаць. Вера з Чарнавусам пасмяяліся, а цёця Каця дачула — міжволі! І... паўтарыла Зёлкіну. Такім чынам — міжволі — Туляга сам сябе забяспечыў і вінаватасцю, і шантажом.

Але, выдае на тое, рэжысёра не дужа цікавіць выкрыццё пляткарства, абгавору ды прыстасавальніцтва. Іх механізм агаляецца на сцэне паміж іншым, не-пафасна й будзённа. Рэжысёра цікавіць чалавечая прырода, якой механізм замінае як... костка ў горле. Выродзіць яе. Мяняе. Старажытныя людзі заўважылі, што паводле малое часткі можна меркаваць пра цэлае. А можна паводле аднае навуковай установы — пра стан нацыянальнай навукі? Пайсталы з мінулага інстытут геалогіі — праўдзівая музейная рэканструкцыя, дзе адзінкі прафесараў Чарнавусаў стаяць супраць легіёна... На персанажаў Кандрата Крапівы Савіцкі глядзіць з нашае "цудоўнае далечы" — і сцэнічнае жыццё інстытута геалогіі пасля скарачэння тэкстаў пра партыйны камітэт, НКУС і шкодніцтва распавядае пра стан знаёмы, клопат тутэйшы, дзень сённяшні. Жыццё найвялікшага цэлага мізарнее да нікчэмства малое часткі.

Тым часам "малая частка" збіраецца на сход і слухае новае слова ў навуцы пра мамантаў. А глядзельная зала дачувае... пра канфлікт чалавека і яго жыццёвага асяроддзя. Пра чалавечае грэбаванне прыроднай раўнавагай. Выкрыццё Гарлахвацкага так разнявольвае інстытут геалогіі, што патэнцыяльная энергія са скрыняў пераходзіць у кінетычную... чалавецтва разбірае косткі... і гэтак далей, паводле класічнае фізікі, да самай бойкі. Але ж класічная фізіка — толькі раздзел агульнай (да з'яўлення квантавай фізікі і тэорыі рэлятыўнасці). Але ж вывучэнне мамантавых костак — малая частка палеанталогіі. Уявім сабе бойку будучыні...

Бойку мамантавымі косткамі пасля даклада Гарлахвацкага можна назваць апафеозам, дзе кожны з насельнікаў інстытута геалогіі паўстае складнікам выключнага, адметнага "новага віду дагістарычнай жывёліны", Свінтуса Грандыёзуса Класічнага — без прыкмет узросту, полу і навуковай абцяжаранасці. Чуецца знаёмы гук... рассоўваецца сцэнічная прастора... Пры самым задніку апынаецца пастава дыназаўра на поўны рост, а на ўсё люстра сцэны — Класічны Свінтус, утвораны з чалавечых постацей у баявым парадку і з косткамі, занесенымі над галавамі. Набіраецца святло...

...І па музеі вядуць дзіцячую экскурсію, распавядаючы пра мамантавыя шкуры ды косткі. "Маманты загінулі, — кажа экскурсавод. — Чалавек выжыў". Рэжысёр дапісаў маленькі тэкст эпілога, каб падштурхнуць залу да адкрыцця: Класічны Свінтус выжыў разам з чалавекам. Голас таямнічага сцэнічнага перасьледу належаў яму.

«Рэжысёра не дужа цікавіць выкрыццё пляткарства, абгавору ды прыстасавальніцтва. Іх механізм агаляецца на сцэне паміж іншым, не-пафасна й будзённа. Рэжысёра цікавіць чалавечая прырода, якой механізм замінае як... костка ў горле. Выродзіць яе. Мяняе. Старажытныя людзі заўважылі, што паводле малое часткі можна меркаваць пра цэлае. А можна паводле аднае навуковай установы — пра стан нацыянальнай навукі? Паўсталы з мінулага інстытут геалогіі — праўдзівая музейная рэканструкцыя, дзе адзінкі прафесараў Чарнавусаў стаяць супраць легіёна...

***На здымках: сцэны са спектакля "Свінтус Грандыёзус".***

**Восеньскім днём выпраўляўся ў падарожжа: мажліва, найцікавейшае з тых, што даводзілася здзяйсняць. У маім партфелі ляжала запрашэнне ад Саратаўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя М. Чарнышэўскага. У ім паведамлялася, што мой даклад быў прыняты да друку і яго можна будзе зачытаць на маштабнай канферэнцыі, прысвечанай 120-годдзю з дня нараджэння А. Скафтымава, вядомага саратаўскага філолага.**

# Між берагамі Свіслачы і Волгі


У музеі М. Г. Чарнышэўскага

Ціхан ЧАРНЯКЕВІЧ

У рускім літаратуразнаўстве даўно вядуцца размовы пра тое, што ў савецкі час філалогія ўмацоўвалася перадусім у правінцыяльных універсітэцкіх цэнтрах, як быццам схаваўшыся ад пільнага вока віжоў. Тартуская, саратаўская, іжэўская, кемераўская, цвярская, данецкая школы бралі на сябе функцыю, якую не маглі выконваць афіцыйныя цэнтры — Масква і Пецярбург. Ідэалагічны цэнз на перыферыі прасцей было пераадолець, і таму ў "вучоных запісках" і "весніках", у рататарных зборніках дакладаў і тэзісаў канферэнцый пачалі з'яўляцца артыкулы, абсалютна свабодныя ад якойкольвек "базісна-надбудовачнасці". Адзін горад часцей за ўсё браў на сябе пэўную галіну літаратуразнаўства і засяроджваўся менавіта на ёй: прыкладам, на семіётыцы альбо праблеме чытача, сюжэтаскладання, цэласнага аналізу, канцэпцыі аўтара… Кожная з утвораных такім чынам школ мела зазвычай свайго заснавальніка і лідара: у Тарту быў Юрый Лотман, у Іжэўску — Барыс Корман. Для саратаўскай школы такім знакавым чалавекам стаў Аляксандр Скафтымаў.

Асоба гэта была надзвычай неардынарная. Найвыдатнейшы вучоны, які неаднойчы выяўляў сябе як дасканалы тэкстолаг (галіна, што патрабуе поўнага самаадрачэння), ён застаўся ў гісторыі літаратуразнаўства перш за ўсё як неардынарны, глыбокі мысляр. Скафтымаў быў творцам у філалогіі: вытанчаны стыль ягоных артыкулаў пра Чэхава, Талстога, Дастаеўскага дагэтуль бярэ ў палон усіх, хто хоць раз меў магчымасць далучыцца да ягонага досведу. А зрабіць гэта было не так і проста: бязмежна сціплы чалавек, схільны ў апошнія гады да замкнёнасці і прытоенай дэпрэсіі, Скафтымаў ніяк не рупіўся пра выданне сваіх работ. У сваёй адасобленасці ён часта параўноўваецца з Міхаілам Бахціным, які, прафесарсвуючы ў Мардовіі, практычна быў вязнем правінцыі. Скафтымаву пашанцавала больш — пры ўнутранай сваёй самотнасці ён займеў дзясяткі дбайных вучняў, сяброў-аднадумцаў і наступнікаў. Але, што праўда, знайсці ягоныя выданні ў кнігарнях і раней, і цяпер — амаль безнадзейная задача. Мала таго, нават сёння, калі прайшла юбілейная канферэнцыя ў гонар 120-годдзя, частка ягонай спадчыны знаходзіцца ў рукапісе…

Але якім чынам асоба Аляксандра Скафтымава суадносіцца з Беларуссю? Адказ вельмі просты — у 1913 годзе ён скончыў гісторыка-філалагічны факультэт Варшаўскага імператарскага ўніверсітэта. Патлумачу: гэта азначае, што ягонымі настаўнікамі былі Іван Замоцін і Аляксандр Яўлахаў, якія пазней заклалі падмурак беларускай тэорыі літаратуры ў сценах БДУ. На адным жа курсе са Скафтымавым вучыліся Аляксандр Вазнясенскі, Анатоль Багдановіч, Міхаіл Вейнгер — будучыя выкладчыкі-філолагі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Займаючыся вывучэннем гісторыі літаратуразнаўчай навукі, я зацікавіўся разыходжаннямі і падабенствамі ў ранніх працах двух вучоных-тэарэтыкаў, былых аднакурснікаў, А. Вазнясенскага і А. Скафтымава. Я пісаў даклад і не быў упэўнены нават, ці былі абодва Аляксандры ўвогуле знаёмыя паміж сабой у рэальным жыцці, мелі нешта супольнае. Параўноўваліся ж толькі тэксты. Якім жа было маё здзіўленне, калі ў архіве Саратаўскага ўніверсітэта я пабачыў лісты прафесараў Яўлахава і Замоціна да Скафтымава, дзе прозвішча Вазнясенскага фігуравала не раз і не два. Для Яўлахава, выяўляецца, важнымі за ўсё яго жыццё засталіся толькі гэтыя двое вучняў. У сваіх лістах ён увесь час наракае, што яны так рэдка адгукаюцца, не падаюць пра сябе ніякіх вестак. Захаваліся ў архіве Скафтымава і дзве працы Вазнясенскага, дасланыя апошнім з Мінска ў падарунак з цёплымі надпісамі…

Але даклад дакладам, ехаў я ў Саратаў не для таго, каб сябе паказаць, а больш — на людзей паглядзець. А паглядзець было на каго. Зрэшты, першым, хто мяне сустрэў з вялікіх, была прыгажуня Волга. Калі аўтамабіль збочыў на ўзбярэжжа і пад'ехаў да гатэля, я не паверыў сваім вачам: перада мною хвалявалася натуральнае мора. Масіўны мост выходзіў з горада, а канец яго губляўся за даляглядам. Пасярод вады вытыркаліся зялёныя выспы, а паўз іх спрытна лавіравалі амаль што акіянскія сухагрузы і навамодныя яхты. Пазней ад месцічаў я даведаўся, што паміж берагамі Волгі ў Саратаве — без сямі метраў тры кіламетры! Вось чаму ілюзія мора была такой неадчэпнай.

Стаяла ўлюбёнае маё надвор'е: сухая, сонечная, прахалодная восень. Сам горад — не мегаполіс, хоць жыве тут нешта пад мільён чалавек. Усе будынкі — 2-3-павярховыя, старыя, часта недагледжаныя. Як таму Прывалаву, з помнай кнігі Стругацкіх, успаміналася слова "лабазы", так і мне. 200-гадовай даўніны драўляная гарадская руская забудова. Казалі, што ў такіх дамах жыло купецтва — цалкам верагодна. Не адна гадзіна прайшла ў блуканнях па вузкіх вуліцах, дзе можна ўбачыць дамы з адхіленнем восі на 30 градусаў, каваныя старасвецкія брамы, урослыя ў зямлю камяніцы. Цэнтр хутчэй выглядае на еўрапейскі, класіцыстычны — з прэтэнзіяй на пецярбургскі стыль.

Галоўнае знаёмства было, зразумела, не з ракой і горадам, але з людзьмі. На канферэнцыю з'ехаліся лепшыя літаратуразнаўцы Расіі — з Масквы, Пецярбурга, Цверы, Каломны, Чарапаўца, Самары… Выглядала на тое, што ў Расіі існуе нейкае непарушнае брацтва філолагаў, ледзь не "таемнае таварыства", "тугендбунд", у якім няма прасторавых межаў, няма разасобленага, а канферэнцыі — толькі нагода абмяняцца навінамі, свежымі ідэямі, прапановамі… Пашчасціла паслухаць даклады сапраўдных мэтраў і проста выдатных літаратуразнаўцаў: Натана Тамарчанкі, Барыса Ягорава, Валерыя Прозарава, Юрыя Барысава, Юрыя Даманскага, Уладзіслава Крываноса, Юрыя Арліцкага, Аляксандра Аўэра і многіх іншых найцікавейшых людзей, усяго дакладаў было за тры дні канферэнцыі больш як тры дзясяткі. Ніводнае з выступленняў не сталася сумным, сухім і справаздачным. У нефармальнай атмасферы былі "гранды" абсалютна не "бронзавымі".

Уражвалі і маштабы Саратаўскага дзяржуніверсітэта імя М. Г. Чарнышэўскага: па сутнасці, гэта быў самы натуральны "кампус" — універсітэцкі комплекс, які займаў цэлы квартал і злучаў у сабе 29 факультэтаў з цэлым шэрагу карпусоў, вялізную бібліятэку з архівам і нават Батанічны сад з фантанам.

Ранейшыя думкі аб правінцыйных цэнтрах на вачах *дэканструяваліся*. Бясспрэчна, што правінцыйнасць ёсць там, дзе няма навуковасці. Там жа, дзе вылузнулася навука, адпаведна знікае правінцыйнасць. У адначассе — бо гэта ўзаемавыключальныя рэчы. Пазіраючы на сталёвыя волжскія хвалі, я думаў пра тое, што ў гэтым месцы не магла не нарадзіцца выдатная тэорыя літаратуры. Бо чаго толькі не надумаеш, маючы штодня перад сабою гэткі далягляд!..

Прыём быў вельмі цёплы. Удалося наведаць і музейныя цэнтры горада: асабліва ўразіў дом-музей найвядомейшага саратаўца — Мікалая Чарнышэўскага. Будынак, нягледзячы на віхуры часу, выстаяў і цяпер прымае наведвальнікаў у аўтэнтычным вобліку. Пастаянна адчуваючы да сябе ўвагу, я адказваў на роспыты пра нашу краіну, яе ў Расіі ведаюць больш з прэсы, чым наяве… Але кропак судакранання ўсё роўна шмат. Увогуле, у тэме "Беларусь і Саратаў" надзвычай многа цікавага і істотнага. Больш таго, гэта ці не самая дабрадайная тэма для даследчыкаў. Гэта я зразумеў, блукаючы калідорамі ўніверсітэцкай Навуковай бібліятэкі імя В. Арцісевіч. Апошняе імя не так шмат скажа беларусазнаўцу, а яно, бясспрэчна, вартае асобнай гаворкі. Вера Арцісевіч, нязменны дырэктар бібліятэкі на працягу 65 (!) гадоў і доўгажыхар, у свой час брала на працу такіх вядомых кожнаму беларусу людзей, як Вацлаў Ластоўскі (у Саратаве ён, дарэчы, пасябраваў з А. Скафтымавым), Юлія Бібіла, Восіп Воўк-Левановіч, якія па вядомых прычынах апынуліся Беларусі не патрэбнымі. Знайшоў тут прытулак у канцы 1941 г. і першы дырэктар Дзяржаўнай бібліятэкі БССР Іосіф Сіманоўскі. Вось як піша пра гэта ў дзённіку ваеннага часу сама В. Арцісевіч: "Ён прыехаў з Мінска, ахопленага полымем ад пастаянных бамбардзіровак, жонка перад родамі была недзе на вёсцы, ён не ведаў, дзе сын. Сіманоўскі быў без абутку, у летняй вопратцы, галодны і без грошай. Прыняла яго на працу ў якасці загадчыка аддзела сістэматызацыі". Дапамагла яна ў час вайны і яшчэ аднаму беларусу, дацэнту Міхаілу Дарашэвічу, які праз 25 год, ужо будучы міністрам адукацыі БССР, выпадкова сустрэўся са сваёй збавіцелькай на адной з канферэнцый і з таго часу сябраваў з ёй. Пра ўсё гэта таксама напісана ў дзённіку В. Арцісевіч, які быў летась выдадзены Саратаўскім універсітэтам пад назвай "Аднолькавых лёсаў не існуе".


Канферэнцыю адкрывае В. Прозараў, побач Ю. Барысаў і Б. Ягораў

*"Але якім чынам асоба Аляксандра Скафтымава суадносіцца з Беларуссю? Адказ вельмі просты — у 1913 годзе ён скончыў гісторыка-філалагічны факультэт Варшаўскага імператарскага ўніверсітэта. Патлумачу: гэта азначае, што ягонымі настаўнікамі былі Іван Замоцін і Аляксандр Яўлахаў, якія пазней заклалі падмурак беларускай тэорыі літаратуры ў сценах БДУ. На адным жа курсе са Скафтымавым вучыліся Аляксандр Вазнясенскі, Анатоль Багдановіч, Міхаіл Вейнгер — будучыя выкладчыкі-філолагі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта.*

Праўда, нявыдадзеная частка ў некалькі разоў перавышае кнігу, бо дзённікі дырэктар вяла пастаянна на працягу ўсяго свайго доўгага жыцця. У той жа ваенны час скончыў пяхотнае вучылішча ў Саратаве Васіль Быкаў, чые лейтэнанцкія зорачкі яшчэ вельмі доўга будуць блішчэць у гісторыі сусветнай літаратуры. Дажываў свой век на берагах Волгі і Язэп Дыла, грамадскі дзеяч, пісьменнік, мемуарыст. Дарэчы, ягоны архіў, як і спадчына Юліі Бібіла, знаходзіцца цяпер у Беларусі. На развітанне калегі з Саратава прасілі не пакідаць і надалей іх горад па-за ўвагай: вядома ж, знойдзецца ў беларускіх архіўных дакументах і "саратаўскі тэкст". Для беларусаў, можа, і нічога асаблівага, а для тамтэйшых гісторыкаў — сапраўдны скарб. Паглядзім, а раптам атрымаецца парадаваць іх цікавай знаходкай?

І дыялог працягнецца.

# Лірыка ювелірнага жывапісу







**Функцыянальнасць, дакладнасць у перадачы вобразаў, далікатнасць і своеасаблівая, загадкавая прыгажосць — усё гэта характэрна для твораў ювелірнага мастацтва, створаных Мікалаем Кузьмічом. У іх адлюстроўваецца многае — яго светапогляд, эстэтычнае крэда, адносіны да прыроды, прыгожага і містычнага ў нашым жыцці. Ювелірныя работы мастака адрозныя ад іншых, бо ён мае свой асабісты стыль. Ён іграе на сугучнасці і дысанансе, на бачнай простасці вобразаў і алагічнасці схаваных падтэкстаў, пластоў разумення.**

**Віктар КАВАЛЁЎ,**
**фота аўтара**

Так, у малой зале Музея сучаснага выяўленчага мастацтва гэтымі днямі праходзіць выстаўка твораў ювелірнага мастацтва майстра з Брэста Мікалая Кузьміча "Ювелірыка", прымеркаваная да яго 60-годдзя.

На яе адкрыцці дырэктар музея Наталля Шаранговіч зазначыла, што экспазіцыя ўнікальная, на ёй прадстаўлены "ўнікальныя рэчы майстра, які валодае ўнікальным мастацтвам". Чатыры гады таму тут ладзілася выстаўка эмалей М. Кузьміча, якая стала для многіх адкрыццём мастака-эмальера. Бо Мікалай Пятровіч вядомы як аўтар адроджанай тэхнікі візантыйскай перагародчатай эмалі XII стагоддзя. Цяпер прадстаўлены не толькі эмалі, але і ювелірныя рэчы, створаныя за апошнія два гады, — так бы мовіць, ювелірная лірыка аўтара. Н. Шаранговіч пажадала, каб гэтую экспазіцыю пабачылі ў іншых гарадах Беларусі і за яе межамі, а таксама выказала спадзяванне, што дадзеная выстаўка будзе першым крокам да айчынных біенале і трыенале ювелірнага мастацтва, якія праводзяцца ў Расіі і Прыбалтыцы.

Намеснік старшыні па выставачнай дзейнасці Беларускага саюза мастакоў Сяргей Цімохаў адзначыў, што Мікалай Кузьміч — адметная фігура нашага выяўленчага мастацтва, ювелірны жывапісец, таму што яго эмалевыя кампазіцыі асацыіруюцца з жывапіснымі творамі.

Таксама М. Кузьміча віншавалі яго калега па ювелірным цэху Юрый Гудзіновіч і мастак-эмальер з Яраслаўля Міхаіл Бекетаў. Апошні паведаміў, што Мікалай Пятровіч прыязджаў да іх, наведаў іхнюю "Арт-студыю 204" і правёў майстар-клас па асаблівасцях візантыйскай эмалі. Арганізатары чарговай біенале, якая будзе праходзіць у Санкт-Пецярбургу, хацелі б бачыць Мікалая Кузьміча сярод яе ўдзельнікаў.

Мікалай Пятровіч працуе ў галіне ювелірнага мастацтва, у тэхніцы гарачых эмалей. У наш час ювелірныя вырабы ўспрымаюцца як аб'екты, аўтарская пластыка. Гэта дазваляе з веданнем сучасных тэхнік і тэхналогій вольна адносіцца да матэрыялу і выкарыстоўваць яго ў незвычайным кантэксце. У ювелірных распрацоўках М. Кузьміча шмат дэкаратыўных акцэнтаў, якія ўзмацняюць рытмічны малюнак усёй работы. Асноўны формаўтваральны элемент — плаўная і рваная лінія, кантраст колераў, нетрадыцыйнае злучэнне розных матэрыялаў.

Любы твор майстра нараджае шэраг асацыяцый, аўтар пазбягае сляпога капіравання прыродных аб'ектаў. Ён як бы далучае гледача ў працэс стварэння работы, і гэта робіць яго ювелірныя фантазіі ўнікальнымі пластычнымі аб'ектамі.

На выстаўцы прадстаўлены таксама мастацкія эмалі. У дэкаратыўных пласцінах мастака раскрыта прыгажосць узаемаадносін і ўзаемапранікнення паліхромных эмалей і залацістага фону медзі. Работы запрашаюць гледача ў складаны духоўны свет, прымушаюць разважаць пра вечныя праблемы быцця. Сярод твораў — эмалі з серыі "Краявід", эмалі "Дзе наша слава, // Гонар наш дзе? // Пад Грунвальдам шлях // Заступае бядзе", ювелірныя творы з серыі "Успамін пра вясёлку", брошкі "Легіён", "Відзіж-Горы", "Расінкі", "Краявід", эмалі "Анёл", "Міндоўг", падвескі "Рэха стагоддзяў", "Вырай", шпількі з серыі "Чарот"…

Дарэчы, Мікалай Кузьміч — аўтар адноўленага Крыжа Еўфрасінні Полацкай, за што адзначаны прэміяй "За духоўнае адраджэнне". Яго работы знаходзяцца ў музеях, галерэях і прыватных калекцыях Беларусі, Расіі, Германіі, Літвы, Іспаніі, ЗША…

# Паклон Ваньковічу

***Адкрыццём арыгінальнай скульптурнай кампазіцыі завяршыўся 210-ы год з дня нараджэння Валенція Ваньковіча.***

**Рамантычнай часінай, калі залатая восень толькі-толькі пачынала шчыраваць над кронамі дрэў, у гістарычным квартале Мінска з'явіўся колішні гаспадар сядзібы XIX стагоддзя. Ён паўстаў у бронзе — у поўны рост! — непадалёк ад старой ліпы, што ўзвышаецца на тэрыторыі філіяла Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі "Дом Ваньковічаў". Пра гэтую кампазіцыю (скульптар Уладзімір Слабодчыкаў і архітэктар Юрый Казакоў), якая арганічна ўпісалася ў асяроддзе Верхняга горада, і пра яе прататып мы тады ж распавялі чытачам "ЛіМа" (гл. нумар за 22. X. 2010 г.). Аднак яе афіцыйнае адкрыццё адбылося толькі пры канцы мінулага года.**





**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**
**фота аўтара**
**і Віктара Кавалёва**

Цырымонія ўрачыстага адкрыцця скульптурнай кампазіцыі "Раніца мастака", прысвечанай Валенцію Ваньковічу — выдатнаму прадстаўніку культуры Беларусі першай паловы XIX стагоддзя, — азнаменавала падзею, знакавую для культурнага адраджэння ўсёй краіны. Вядомыя айчынныя творцы і грамадскія дзеячы падкрэслівалі важнасць вяртання ў наш духоўны свет, у нашу свядомасць такой яркай асобы, якая прадстаўляе шляхетны пласт беларускай нацыянальнай культуры. Тое, што скульптурная постаць вядомага мастака зроблена без прэтэнзій на пампезную манументальнасць і ўстаноўлена побач з яго радзінным домам, дзе ў свой час часта збіралася творчая інтэлігенцыя Мінска, дзе панаваў беларускі шляхетны дух, спрыяе не толькі адмысловаму фарміраванню музейнай прасторы, але і жывому ўспрыманню асобы Валенція Ваньковіча. Знаны ў Еўропе мінскі мастак, які атрымаў бліскучую адукацыю ў Полацку, Вільні ды Пецярбургу, спрычынены да руху філаматаў, багаты на сяброўства з Адамам Міцкевічам і знаёмства з Аляксандрам Пушкіным, жыў у гэтым утульным кутку, ступаў па гэтай зямлі... Сёння ён — побач і сваім сімвалічным вяртаннем абʼядноўвае нас з еўрапейскай культурай.

Урачыстасці працягваліся ў самім Доме Ваньковічаў: госці знаёміліся з музейнай экспазіцыяй, слухалі фартэпіянную музыку Фрыдэрыка Шапэна — ва ўзноўленай абстаноўцы мінскага старасвецкага салона, упрыгожанага калядной ёлкай...

Для скульптара Уладзіміра Слабодчыкава стварэнне вобраза Ваньковіча (і абагульненага вобраза Мастака) азначае вынік працяглай працы: эскіз чакаў свайго ўвасаблення 17 гадоў! За гэты час майстар зрабіў мемарыяльную дошку для вуліцы Ваньковіча ў Мінску, бронзавы бюст для мястэчка Беразіно — тамтэйшая школа носіць імя славутага земляка.

Узвядзенне кампазіцыі "Раніца мастака" сталася часткай плана работ па рэканструкцыі сядзібы Ваньковічаў — аднаго з нешматлікіх помнікаў архітэктуры канца XVIII стагоддзя, што захаваліся ў нашай сталіцы. Праца расцягнулася на 10 гадоў. Рэалізаваць праект удалося пры фінансавай падтрымцы Міністэрства культуры краіны і генеральнага спонсара Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі — кампаніі "Брытыш-Амерыкан Табака".

***На здымках: скульптурная кампазіцыя "Раніца мастака"; падчас цырымоніі яе адкрыцця — аўтар помніка Валенцію Ваньковічу Уладзімір Слабодчыкаў, дырэктар замежнага прадпрыемства "Брытыш-Амерыкан Табака Трэйдынг Компані" Вадзім Максіменка, генеральны дырэктар Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі Уладзімір Пракапцоў і міністр культуры Рэспублікі Беларусь Павел Латушка.***

# Гармонія творчасці

Віктар КАВАЛЁЎ,
фота аўтара



*Аляксандр Гвоздзікаў "Чалавек са зламаным носам"*

Пры канцы мінулага года адбылася адна з галоўных падзей у мастацкай прасторы нашай краіны — у сталічным Палацы мастацтва адкрылася рэспубліканская мастацкая выстаўка "II Беларуская біенале жывапісу, графікі і скульптуры". Яе адметнасць палягала найперш у тым, што айчынныя творцы рэпрэзентавалі мастацкі фэст-конкурс па ўзоры вядомых еўрапейскіх арт-форумаў напярэдадні дваццатага з'езда Беларускага саюза мастакоў.

Удзел у біенале бралі члены як БСМ, так і маладзёжнай секцыі гэтай арганізацыі. Работы, створаныя цягам апошніх двух гадоў, адбіраліся аўтарытэтным прафесійным аргкамітэтам, у які ўваходзілі прадстаўнікі ўсіх секцый, творчых аб'яднанняў ды абласных арганізацый саюза. Выстаўка ўражвала сваёй разнастайнасцю і стракатасцю, адлюстроўвала розныя кірункі, жанры, стылі, тэхнікі, якія сукупна выбудоўвалі адзіную гарманічную сістэму, паказвалі, як ярка і рознабакова развіваецца наша мастацтва.

Падчас урачыстага адкрыцця, у якім слова бралі вядомыя мастакі Рыгор Сітніца, Сяргей Цімохаў, Уладзімір Вішнеўскі, Леанід Хобатаў, Мікалай Рыжыкаў, Леў Алімаў, адбылася прэзентацыя каталога з першай біенале і ўганараванне яе пераможцаў. Два гады таму першыя месцы ў намінацыях "жывапіс", "графіка" і "скульптура" занялі, адпаведна, Уладзімір Канцадайлаў і Леанід Хобатаў, Рыгор Сітніца, Андрэй Асташоў.



*Андрэй Смаляк "Залатая клетка"*

Выбар пераможцаў "II Беларускай біенале жывапісу, графікі і скульптуры" ажыццяўляўся ці не самым дэмакратычным шляхам: кожны ўдзельнік выстаўкі меў магчымасць патаемна пазначыць у бюлетэні трох найлепшых на яго думку аўтараў у трох намінацыях. Пасля галасавання незалежныя падлікоўцы з ліку прадстаўнікоў рэвізійнай камісіі БСМ праз падлік набраных балаў вызначылі лідараў. Імі сталі ў намінацыі "жывапіс": Зоя Літвінава (I месца), Руслан Вашкевіч (II месца), Віталь Герасімаў (III месца). У графіцы вызначыліся Арлен Кашкурэвіч (I месца), Рыгор Сітніца і Сяргей Цімохаў (II месца), Генадзь Шутаў (III месца). У скульптуры — Галіна Гаравая (I месца), Валерый Малахаў (II месца) і Андрэй Вараб'ёў (III месца).

Як зазначыў галоўны спецыяліст упраўлення мастацтваў Міністэрства культуры Беларусі Аляксандр Зіменка, пераможцы біенале будуць мець магчымасць прадставіць сваю творчасць на буйных міжнародных выставачных форумах.

## Сталічны вернісаж

**Палац мастацтва** запрашае наведаць адразу дзве выстаўкі, якія экспануюцца там гэтымі днямі, — "Калядны фэст" ды "Нам засталася спадчына…". Праект "Калядны фэст" — традыцыйны; на ім прадстаўлены творы мастакоў, выкананыя ў рознай тэхніцы, на зімовую ці калядную тэматыку. У экспазіцыі работы не толькі членаў БСМ, але і студэнтаў мастацкіх навучальных устаноў, і проста таленавітых людзей.

**"Нам засталася спадчына…"** аб'ядноўвае жывапісныя і графічныя работы, якія былі створаны па матэрыялах пленэраў 2010 года, прысвечаных памяці беларускіх мастакоў XIX стагоддзя: Івана Хруцкага, Яна Дамеля, Яна Лапацінскага. Зварот увагі шырокай грамадскасці, асабліва маладога пакалення, да імёнаў некалі знаных нашых землякоў, а на сёння амаль забытых, з'яўляецца данінай удзячнасці сваім продкам за іх высакародную дзейнасць. Гэта мастацкая акцыя паслужыць справе ўмацавання сацыяльна-гістарычнай памяці народа і дзейсным сродкам выхавання нацыянальна-патрыятычных і грамадзянскіх перакананняў нашых суайчыннікаў.

Віктар ЗАЯЦ

**Музей сучаснага выяўленчага мастацтва ладзіў выстаўку "Кола агню" па выніках VIII Міжнароднага пленэру "Арт-Жыжаль". Гэта трэці прыпынак дадзенай выстаўкі пасля дэманстрацыі ў Бабруйску і Магілёўскім абласным мастацкім музеі імя П. Масленікава.**



*Максім Калтыгін "Гарбуз" (Беларусь)*

# Выпадковасць — заканамернасць — традыцыя

Віктар КАВАЛЁЎ,
фота аўтара

Тэма пленэру — "Кераміка ў прасторы інтэр'ера" — абумовіла калектыўнае выкананне шэрагу работ па мастацкім афармленні канкрэтнага аб'екта — інтэр'ера кафэ Палаца мастацтваў у Бабруйску. Канцэпцыю афармлення і вырабаў дэкаратыўных рэчаў з керамікі распрацаваў кіраўнік пленэру, вядомы мастак-кераміст Валерый Калтыгін: насценныя вазы, пласты, свяцільнікі... Для гэтага кожны з удзельнікаў выканаў па адным камерным аўтарскім вырабе вызначаных параметраў згодна з канцэпцыяй, распрацаванай арганізатарамі пленэру. Было захавана стылёвае адзінства работ розных аўтараў, нягледзячы на індывідуальныя адрозненні ў формаўтварэнні керамічнай пластыкі і прыёмах дэкарыравання. Таксама ўдзельнікі пленэру — дваццаць тры керамісты з Беларусі, Венесуэлы, Германіі, Літвы, Украіны, Малдовы і Расіі — атрымалі магчымасць папоўніць свой творчы актыў шэрагам эксперыментальных твораў.

Пленэр прайшоў, а ладзяцца яны пачынаючы з 2003 года, як і раней, у форме майстар-класаў па абмене вопытам паміж высокапрафесійнымі керамістамі і маладымі, якія толькі пачынаюць свой шлях у творчасці.

Адметна, што адным з дасягненняў мінулага пленэру стала засваенне тэхнік "абвару" і "раку" ў спалучэнні з ангобным пакрыццём, што надала вырабам абсалютна новы дэкаратыўны эфект. Ідэю і тэхніку гэтага цікавага дэкаратыўнага прыёму прывезла ўдзельнік пленэру Вольга Равінская з Масквы, а ўдалым эксперыментатарам новай тэхнікі з'явілася мінчанка Ганна Амбросава.

Пленэр "Арт-Жыжаль" — гэта часовы сыход групы керамістаў ад руціны ў іншы свет мастацтва, бесперапынны творчы працэс у прыродным асяроддзі, гэта своеасаблівае творчае яднанне розных па ўзросце, вопыце, прафесійным узроўні, нацыянальнасці, тэмпераменце і характары асоб. А з гэтага і вынікае поспех. Пацвярджэнне гэтага — традыцыйныя выстаўкі "Кола агню" па выніках мінулых пленэраў.

Адкрываючы экспазіцыю, доктар мастацтвазнаўства Валерый Жук выказаў здзіўленне энтузіязмам Валерыя Калтыгіна па правядзенні пленэраў, якія спачатку былі выпадковымі, потым заканамернымі, а цяпер перараслі ў традыцыю. З кожным годам аўтэнтычныя работы становяцца больш прафесійнымі, глыбокімі па складзе і выкананні, наватарскімі і філасофскімі.



*Генадзь Мерц "Венус дэ Такарыгуа" (Венесуэла)*



*Андрыус Янулайціс "Сон" (Літва)*

Старшыня Беларускага саюза мастакоў Уладзімір Савіч адзначыў, што ён асабіста наведаў пленэр, пабачыў, як ствараюцца работы, у якіх знітаваныя і малюнак, і жывапіс, і скульптура, і графіка, і, безумоўна, сама кераміка.

Назвы "Арт-Жыжаль" ды "Кола агню" невыпадковыя. Бо ў беларускіх павер'ях Жыжаль — міфічная істота, язычніцкае бажаство падземнага агню, увасабленне пажару. Ён жыве пад зямлёй, выкідваючы час ад часу з сябе полымя. У паданні гаворыцца пра тое, што ў звычайным, спакойным стане Жыжаль крочыць пад зямлёй ціха, павольна, абграваючы сваім полымем зямлю. Калі ж ён раз'юшыцца і пачне паскараць свае крокі, то полымя вырываецца на паверхню, і ад яго загараюцца лясы, лугі, высушваецца зямля. Калі раптоўна пачынаюцца пажары, часцей за ўсё лясныя, беларусы гавораць: "Жыжаль унадзіўся".

Але ж для керамістаў агонь не вораг і не сапернік, а неад'емны ў працы памагаты, сааўтар і партнёр у творчасці. Экспазіцыю выніковай выстаўкі VIII Міжнароднага пленэру па кераміцы складаюць больш як 70 кампазіцый, пераважна шматпрадметных.

## Духоўныя скарбы

**Доктара мастацтвазнаўства, прафесара, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі, старшыню Беларускага саюза майстроў народнай творчасці Яўгена САХУТУ прадстаўляць нашаму чытачу не трэба. Ён неаднойчы быў суразмоўцам нашых карэспандэнтаў, аўтарам артыкулаў і ўдзельнікам “круглых сталоў”. Надалей “ЛіМ” плануе знаёміць сваіх чытачоў як з разнастайнымі акцыямі, праектамі, выстаўкамі майстроў народнай творчасці, так і з асобнымі творцамі. А кампетэнтным дарадцам і кансультантам будзе выступаць Яўген Сахута.**



# Ля вытокаў беларускага рамяства

Віктар КАВАЛЁЎ

**— Яўген Міхайлавіч, працяглую гісторыю маюць саюзы пісьменнікаў, кампазітараў, мастакоў… Яны ствараліся, так бы мовіць, па загадзе ўрада краіны. Ваш саюз адносна малады. Якая гісторыя яго стварэння і чым гэта было абумоўлена — згуртаваць майстроў народнай творчасці?**

— Так, мы адзін з самых маладых творчых саюзаў: ствараліся ў 1992 годзе. Гэта быў перыяд пэўных эканамічных цяжкасцей і, у той жа момант, час, калі Беларусь стала самастойнай. Тады многія віды культуры аказаліся без падтрымкі дзяржавы, асабліва ў дачыненні да народнай культуры, якая таксама перажывала пэўны крызіс. Памятаю тыя часы, калі народная культура лічылася атрыбутам учарашняга дня, учарашняй вёскі, маўляў, у будучым нам усё гэта будзе непатрэбна. Ужо тады навукоўцаў турбавала: як бы падтрымаць, развіць традыцыйныя рамёствы, не даць ім згаснуць, як тое адбылося ў Заходняй Еўропе. Гаварыць гаварылі, але нічога істотнага не рабілася. Раз у некалькі гадоў праводзіцца нейкая пампезная выстаўка, якая, нібыта, павінна дэманстраваць росквіт сучаснага народнага мастацтва, і ўсё на гэтым. Насталі новыя часы, звязаныя з усведамленнем сваёй нацыянальнай ідэнтычнасці, самастойнасці, і адначасова цяжкія для традыцыйнай культуры. Вось тут мы пачалі актыўна дзейнічаць і арганізавалі аб'яднанне, якое ўлілося ў сям'ю творчых саюзаў. Але ў параўнанні з тымі творчымі саюзамі, якія закладваліся яшчэ ў перадваенныя часы, каб дзяржава неяк кантралявала “разбэрсаных” творцаў, мы ствараліся самастойна ў рэальных умовах, добра ведаючы, што ў бліжэйшыя гады якойсьці падтрымкі ад дзяржавы чакаць не трэба. Мы ні на што не разлічвалі, толькі на ўласныя сілы. Паколькі вельмі хутка мы заявілі пра сябе як пра творчы саюз, які здольны падтрымаць найважнейшы раздзел нацыянальнай культуры, то, урэшце, кантакты з дзяржаўнымі органамі ў нас наладзіліся: актыўна супрацоўнічаем найперш з Міністэрствам культуры Беларусі.

**— Колькі ў саюзе членаў і што трэба зрабіць для таго, каб уступіць у аб'яднанне?**

— Усяго ў нас 550 майстроў. Для таго, каб уступіць у саюз, трэба, перш за ўсё, працаваць у якой-небудзь галіне традыцыйнага беларускага народнага рамяства. Майстар прыносіць свае работы, і калі яны выкананыя на высокім мастацкім узроўні, развіваюць традыцыі народных рамёстваў, то прымаем у суполку. Нашы задачы — падтрымка, развіццё і адраджэнне традыцыйных мастацкіх рамёстваў і промыслаў, арганізацыя пераемнасці традыцый, папулярызацыя работ народных майстроў, уключэнне народнага мастацтва ў сучасны культурны працэс.

**— Гаворачы пра пераемнасць пакаленняў, традыцый, цяжка захвоціць моладзь займацца народнай творчасцю?**

— Калі вярнуцца ў часы арганізацыі саюза, яны былі нялёгкія ў плане эканомікі, затое вельмі ўзнёслыя ў сэнсе адносін да тых традыцый нашай культуры, якія мы крыху занядбалі. Нацыянальны ўздым, нацыянальна-культурнае адраджэнне прывялі да таго, што ва ўсіх куточках Беларусі, на ўсіх узроўнях пачала праяўляцца шырокая цікавасць да традыцый, рамёстваў, промыслаў. Пачала ўзнімацца самасвядомасць: што мы за народ, чым мы вылучаемся сярод іншых? Аказваецца, традыцыйнай культурай. І мы актыўна ўліліся ў гэты працэс. Сёння назіраем працэс адраджэння на ўсіх узроўнях культуры. Традыцыйнымі рамёствамі і промысламі цікавяцца ў школах, ВНУ, у дамах культуры, нават у дзіцячых садках. Такім чынам, мы бачым прыкметны працэс росту цікавасці да традыцый. Дарэчы, моладзь складае асноўную частку нашай арганізацыі.

**— У членаў Саюза кампазітараў свае матэрыяльныя цяжкасці: плата за выданне нот, выкананне твораў музыкантамі, у Саюза мастакоў — праблемы з майстэрнямі, дзяржзаказамі. Як справы ў вас з фінансаваннем, ладкаваннем выставак?**

— Некаторых цяжкасцей нам удалося пазбегнуць толькі таму, што мы ствараліся ў рэальных умовах. У нас няма асаблівай праблемы з арэндай памяшкання, таму што мы яго проста не маем. Трымаемся толькі за кошт узносаў нашых членаў. Абсурд, што саюз, які прадстаўляе традыцыйную культуру, нават не мае месца. Беларусь ганарыцца тым, што мае ацалелую, развітую культуру традыцыйных рамёстваў, а паказаць яе мы не можам.

Мяне даўно хвалюе праблема — адсутнасць музея народнага мастацтва у Беларусі. Прыязджаюць замежныя госці і пытаюцца: дзе ваша традыцыйная культура, якой вы так хваліцеся, дзе можна паглядзець? Дзякуючы кіраўніцтву Беларускага нацыянальнага тэхнічнага ўніверсітэта, маем выставачную залу ў гэтай ВНУ. Тут досыць вялікая пастаянная экспазіцыя нашых майстроў, якую можна паказваць замежнікам. Хоць яна больш нагадвае склад, чым выстаўку, бо месца малавата. Трэба Беларусі мець спецыялізаваны музей, думаю, рана ці позна гэта ідэя ажыццявіцца.

Ёсць праблема паказаць нашы работы за межамі Беларусі. Не няма з Расіяй: там добра ведаюць БСМНТ, высока цэняць нашых майстроў і ахвотна запрашаюць на ўсе свае акцыі. Яны шчыра прызнаюцца, што такога ўзроўню народнага мастацтва няма нават у іх. Наладжваем кантакты з іншымі суседзямі. Нядаўна правялі міжнародны семінар па выцінанцы з удзелам майстроў з Расіі, Украіны, Літвы. Літоўцы запрасілі нас на наступны год правесці ў іх выстаўку. З далёкім замежжам кантакты наладжваюцца з цяжкасцю. Але не таму, што мы не ўмеем кантактаваць: існуе праблема перавозу работ праз мяжу. Настолькі яна складаная і заблытаная, што часам проста махнеш рукою на ўсё і адмаўляешся.

**— Па прапанове Міністэрства культуры Беларусі ўрадам краіны прынята рашэнне стварыць Інстытут культуры Беларусі. Адзін з кірункаў дзейнасці гэтай установы арыентуецца на гістарычныя традыцыі, захаванне і памнажэнне нашай спадчыны, народных традыцый. Мяркуеце наладзіць супрацоўніцтва з Інбелкультам?**

— Упэўнены, што з Інстытутам культуры Беларусі наш саюз будзе падтрымліваць самыя цесныя кантакты. Як падтрымліваў ён і раней, калі быў Беларускі дзяржаўны інстытут праблем культуры. Дарэчы, у гэтым будынку афіцыйна зарэгістраваны наш юрыдычны адрас. Больш за тое, Міністэрства культуры абяцала падумаць над тым, каб там была ці пастаянная выстаўка, ці выставачная зала, або асартыментны кабінет. Каб наш саюз самым цесным чынам быў далучаны да тых праблем, якімі мусіць займацца інстытут. Мы ж робім агульную справу на ніве нацыянальнай культуры.

## З глыбінкі

# Крылы любові над Пружанскім палацыкам

Добрай традыцыяй сталі творчыя вечарыны ў музеі-сядзібе “Пружанскі палацык”. Не так даўно тут адбылася прэзентацыя зборніка вершаў і прозы “Любові даруючай крыло” пружанскай паэткі Ніны Васільеўны Дыдышкі.

Павіншаваць аўтара прыйшлі сябры, калегі, аматары паэзіі. Свае выступленні ёй прысвяцілі музычны калектыў выкладчыкаў Дзіцячай школы мастацтваў пад кіраўніцтвам С. Рыбінскай, царкоўны хор пры Рудніцкім Доме культуры на чале з Н. Карсанюк, настаўніца музыкі сярэдняй школы № 5 С. Машкала. Вершы паэткі прагучалі ў выкананні дырэктара раённай цэнтральнай бібліятэкі Н. Супруновіч, загадчыцы педыятрычнага аддзялення паліклінікі цэнтральнай раённай бальніцы А. Лагун, навуковага супрацоўніка музея В. Зінкевіч. Да гэтай падзеі было таксама дапасавана ўзнагароджанне пераможцаў і ўдзельнікаў конкурсу на лепшае веданне беларускай мовы сярод вучняў школ Пружанскага раёна, які праводзіўся па ініцыятыве Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны і рэдакцыі газеты “Раённыя будні”.

Безумоўна, кожная сустрэча з цікавым чалавекам не проста ўносіць разнастайнасць у жыццё, але і ўзбагачае духоўна. Менавіта такім чалавекам з’яўляецца Н. Дыдышка. Вершы паэтэсы — гэта жыццёвая споведзь, адлюстраванне тых падзей і момантаў, што прайшлі праз яе сэрца.

Адной з крыніц, з якой Ніна Васільеўна чэрпае творчае натхненне, з’яўляюцца родныя прасторы, куточак, дзе яна нарадзілася, — вёска Ліпск Ляхавіцкага раёна. Там прайшлі яе дзіцячыя гады, там жылі бацькі, якія выхавалі і далі адукацыю сваім чатыром дочкам.

Ніна Васільеўна — чалавек, які ніколі не сядзеў на месцы. Жыццё кідала яе ў розныя куткі. Жыла яна і на роднай Ляхавіччыне, а потым — у Столінскім раёне. З 1976 г. яе сям’я пасялілася ў Пружанах, дзе да пенсіі яна працавала ў школе настаўніцай беларускай мовы і літаратуры.

Разам з наведваннем славутых мясцін Беларусі Н. Дыдышка актыўна знаёміцца з іншымі краінамі. Куды толькі не заводзілі яе шляхі падарожжаў: Польшча, Літва, Латвія, Германія, Аўстрыя, Іспанія, Францыя, якія ярка апісаны ў яе творах. Але, напэўна, толькі ў беларускай жанчыны маглі нарадзіцца такія радкі:

Але навошта сэрцу тыя пахі,
І тыя кветкі, і машынаў звоны,
Калі ў мяне свая зямля, свае замахі,
Калі ў мяне ў парку клёны.

Ніна Васільеўна таксама неабыякавая да лёсу жанчыны ў гісторыі Беларусі. Яна працягвае працу над цыклам “Жаночы лёс” у прозе. У гэтым годзе ўжо выйшлі яе кніжкі “Радасць і смутак кахання Тадэвуша Касцюшкі”, “Жанчыны ў жыцці Янкі Купалы”.

Аўтарка сцвярджае, што чалавек ніколі не павінен аддавацца адчаю, якія б сітуацыі ні сустракаліся на шляху. Яна кажа: “Радуйце сябе, а не абмяжоўвайце нядобрымі думкамі, зайздрасцю, пералікам сваіх хвароб і балячак. Наперадзе цэлае жыццё, кожны пражыты год — гэта этап шляху. На гэтым шляху ўсё належыць нам, гэты час трэба напоўніць сэнсам, падтрымкай…”

**Наталія ПРАКАПОВІЧ, Пружаны**

## Афарызм

*Роля мастацтва: яднаць усіх, нават калі яны ваявалі з адным і ўдвух супраць трэцяга.*

**Уладзімір КАРАТКЕВІЧ**

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**
**Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА “Саюз пісьменнікаў Беларусі”, РВУ “Літаратура і Мастацтва”**
**Галоўны рэдактар Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**



**Адрас рэдакцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-84-61
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
**Аддзелы:**
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04, 284-66-71
дадатак “Кніжны свет” — 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73

E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by



Набор і вёрстка камп’ютарнага цэнтра РВУ “Літаратура і Мастацтва”.
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова “Літаратура і Мастацтва”.
**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
“Выдавецтва “Беларускі Дом друку”
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856

Наклад 3129
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 13.01.2011 у 11.00
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7
Заказ — 109
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686